# Маладосць

**10**

**Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны ілюстраваны часопіс**

**(683) КАСТРЫЧНІК, 2010**

**Выдаецца з 1953 года**



**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова**
**«Літаратура і Мастацтва», г. Мінск**

## У НУМАРЫ:

**Р. БАРАВІКОВА.** Што можа толькі адзін чытач? . . . 3
**Алена ПЯТРОВА.** Пастка цікаўных поглядаў. Вершы . . . 4
**Марына БЛАЖКО.** Вечар. Звычайная гісторыя. Апавяданні . . . 6
**Павел БАЯРКА.** Я веру ў незабыты сон… Вершы . . . 9
Апавяданне-2010. **Анатоль БУТЭВІЧ.** Дзюсер. Ледзь не згубіўся. Злачыннае каханне.
**Алесь КОЗЕЛ.** Пра каханне і наогул. **Лаўрэн ЮРАГА.** Сефард . . . 11
**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА.** «Заўжды бярог я ў сэрцы мару…» Вершы . . . 30
**Анатоль МАЙКО.** Помста (Галубы паміраюць у палёце). Аповесць . . . 34
**Іван КАРЭНДА.** Аўтографы на сметніку. Вершы . . . 65
**Ян ДЛУГАШ.** Грунвальдская бітва. Пераклад Аляксандра Вашчанкі. Заканчэнне . . . 67
**Фелікс БАТОРЫН.** «З дзівосаў дзіва ты, жыццё зямное!» Вершы . . . 73
**Каляндар «Маладосці».** Кастрычнік . . . 77
**Раіса БАРАВІКОВА.** Рака жыцця з высокімі берагамі. Барадзін і дзеці . . . 78
**Няма «брыдкіх качанят» — ёсць толькі падлеткі!** (Праект «Маладосці») . . . 88
**Мікола БЕРЛЕЖ.** «Літаратура — барацьба са злом» . . . 101
**Тамара НУЖДЗІНА.** «Яны — мінулы час у новым часе».
Аркадзь Куляшоў — Аляксандр Твардоўскі: сувязныя з часам і людзьмі . . . 105
**Ірына КЛІМКОВІЧ.** Шанц атрымаць працу . . . 117
**Вячаслаў ГРЫБАЙЛА.** «…Проста чалавечая жанчына» . . . 121
**Ігар ЗАПРУДСКІ.** Самы слынны з пакалення беларускіх нігілістаў
(Штрыхі да метафізікі Францішка Багушэвіча) . . . 125
**Дар'я ГУШТЫН.** Палессе: убачыць сапраўдную Беларусь . . . 129
**Юрый ПІСКУН.** Мастак Стэфан Катлярэўскі — новае імя ў гісторыі мастацтва . . . 133
**Дзмітрый КРЫВАШЭЙ, Адам МАЛЬДЗІС**. Літаратурныя мясціны Беларусі.
Краязнаўчы даведнік. Працяг . . . 138



Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Яна ЯВІЧ*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
Пры передруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 11.10.2010. Фармат 84×108 $^1/_{16}$. Папера афсетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 15,12.
Ул.-выд. арк. 14,19. Тыраж 2383 экз. Заказ 2590.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.


**maladost@bk.ru**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;**
**грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;**
**рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»**



# ШТО МОЖА ТОЛЬКІ АДЗІН ЧЫТАЧ?

*На пачатку сёлетняга верасня, як ужо вядома, у Маскве адбылася чарговая міжнародная кніжная выстаўка, у якой Беларусь прымала ўдзел як галоўны госць, што ў прынцыпе вельмі ганарова. І трэба сказаць, што наш стэнд на гэтай выстаўцы быў адным з самых прадстаўнічых і цікавых. Ва ўсялякім выпадку, вялікі інтарэс праяўлялі да яго як шматлікія ўдзельнікі выстаўкі, так і яе наведвальнікі — масквічы, якія захавалі і па-ранейшаму маюць патрэбу ў добрай кнізе.*

*На выстаўцы дэманстравалі свае выданні многія беларускія выдавецтвы, сярод якіх была і наша рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова. У склад жа беларускай афіцыйнай дэлегацыі ўваходзілі не толькі супрацоўнікі выдавецтваў, а і пісьменнікі, якія прымалі ўдзел у прэзентацыях сваіх кніг. Да гэтай выстаўкі было прымеркавана і выданне майго зборніка любоўнай лірыкі «Сад на шляпке возлюбленной» у перакладах розных паэтаў на рускую мову. Адпаведна, там, у Маскве, адбылася і прэзентацыя гэтай кнігі. Здараецца, што на падобных мерапрыемствах адбываюцца нечаканасці. Вось і падчас майго выступлення адбылося нешта амаль неверагоднае. Гэта ўжо было напрыканцы другога дня: штосьці расказвалася, штосьці чыталася з вершаў, пасля чаго я мела намер прадаць некалькі гэтых сваіх кніжак. І вось першая жадаючая яе набыць: «Хачу, каб вы прадалі мне сваю кніжку, мне ваша імя знаёмае, чула пра вас даўно-даўно... Не памятаеце такога? Гейнэ!» І я адразу не ўспомніла, была ўсхвалявана прэзентацыяй і кніжку не стала прадаваць, а проста падпісала, а потым яшчэ і яшчэ некаму... Людзі выказваліся не толькі пра мае вершы, але гаварылі і пра Беларусь. У некага калісьці тут, у нас, працаваў бацька, нехта прыязджаў у дзяцінстве да сваякоў, і засталіся ў душы самыя светлыя і дарагія ўспаміны. Усё гэта, безумоўна ж, было прыемна чуць. І ўжо значна пазней, калі аціхлі ўсе хваляванні і я, сцішаная, уладкавалася ў цягніку, які вяртаў мяне дадому, раптам ускалыхнула: «Гейнэ!» Не магло такое гучнае імя цалкам выпасці з памяці!..»*

*Раніцай вярнулася дамоў і пачала перабіраць свой архіў, каб знайсці той ліст у рэдакцыю «ЛіМа» ад гэтага незнаёмага чалавека. І вось ліст знойдзены, датаваны 4 кастрычніка 1979 года. Чытаю: «Уважаемая редакция! Первый раз в жизни, чисто случайно, приобрёл в газетном киоске в центре Москвы издаваемую вами газету «Літаратура і Мастацтва» № 39, 28 сентября 79 г. Захотелось сравнить её с нашей «Литературкой», представить её рубрики, способ подачи материала, круг авторов. В разделе поэзии моё внимание привлекла подборка стихов поэтессы Раисы Боровиковой...» Далей, напэўна, не трэба цытаваць з пачуцця этыкі. Хоць і чужыя камплiменты, але ж у мой адрас, таму працытую толькі апошнія радкі ліста: «...Заранее благодарен за любой ответ. С уважением Владимир Евгеньевич Гейне, ст. научный сотрудник ЦНИИМЭ (г. Химки, Московской обл...). Прилагаю свой перевод одного из наиболее понравившихся стихотворений. Может быть, автору будет приятно:*

*...И вот живу, итоги прозревая:*
*Здесь будет плод, погибла завязь — тут!*
*И вновь, и вновь я, зёрна высевая,*
*Надеюсь, верю — скоро прорастут!»*

*Даўно ўжо не прадаецца ў цэнтры Масквы ў газетным кіёску наш «ЛіМ», і я даўно ўжо не малады аўтар, якім была яшчэ, напэўна, тады, у 1979 годзе. Шкадую, што своечасова не адрэагавала, не разварушыла памяць і ў жанчыны, якой падпісала кніжку, не распытала пра Уладзіміра Яўгенавіча Гейнэ, які аднойчы ў ёй самой выклікаў цікавасць да маёй паэзіі, і яна пранесла яе праз час, гатовая пры нагодзе і згадаць маё імя, і выказаць сваю любоў да нашай Беларусі. Гэта можа зрабіць толькі адзін чытач, аднойчы выпадкова пазнаёміўшыся з паэтычнымі радкамі.*

*«Маладосць» друкуе шмат вершаў нашых маладых аўтараў. Не насіце ўражанне ад іх у сабе, калі радкі захапілі, — захапляйцеся! Расказвайце блізкім ці проста знаёмым пра гэтае сваё захапленне, тады імя кожнага таленавітага маладога паэта будзе на слыху. Літаратурнай моладзі гэта вельмі патрэбна, каб не проста ўвайсці ў літаратуру, але і застацца ў ёй, сілкуючыся перш за ўсё чытацкай увагай.*

*З найлепшымі пажаданнямі — Р. Баравікова.*



*Алена Пятрова нарадзілася ў 1987 годзе ў Магілёве. Выпускніца Міжнароднага дзяржаўнага экалагічнага ўніверсітэта імя А. Д. Сахарава. У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.*

Алена ПЯТРОВА

# ПАСТКА ЦІКАЎНЫХ ПОГЛЯДАЎ

## ПРЫВІД

Кожны вечар маўчу ля акна,
Абуджаю поглядам зоры,
Я не маю збаўлення ў снах,
Я прыкуты да вечнасці горам...
З адзіноцтвам сам-насам жыву.
Хоць не маю надзей на здзяйсненне,
Паўтараю мальбу я сваю:
«Смерць, ад Вечнасці дай абуджэнне!
Люстрам белым хай Месяц плыве,
Разгараюцца ўвечары зоры...
Хай жывыя жывуць на зямлі,
І збаўленне маё будзе скорым...
Я — маўклівая памяць сама,
І бязгучна жыву я на свеце,
Мая мёртвая існасць жывая,
І ў сэрцы маім — люты вецер.
Я даўно спасцігнуў жыццё,
У абдымках трымаў я Вечнасць...
Час! Дазволь мне пайсці ў небыццё
І адчуць сябе чалавекам...»

## ПАЦАЛУНАК

Гэта пастка цікаўных поглядаў.
Вусны ў вусны — ніяк не адняць...
Развітанне — чаканне доўгае.
Пацалунак — адчай каб суняць...
І расстанне на момант скароціцца,
Хтосьці позірк апусціць праз сум,
І слязінка назад пакоціцца —
І расінка ўпадзе ў душу...

Пацалунак — пяшчота трывожная,
Пацалунак — замест «бывай!»
І далонь у далонь — асцярожнае
Развітанне... падзелены рай...
Там, за шоргатам дзён прызначаных,
Недзе там — у нязнаным «калі» —
Абяцаем спаткацца... і, значыцца, —
Мы не скончылі — мы пачалі...
Вось і позіркі сыта, засмучана
Разляцеліся моўчкі прэч,
І апошнія крокі ўзрушана —
Паасобку... Да новых сустрэч...

**КАЛЯДНЫМ ВЕЧАРАМ**

Салодка, ціхутка, дрымотна
Казыча мне сэрца змрок,
Злізаў, бы слязу, самоту
І казку прынёс незнарок…
Мне мроіцца ў цемры нешта,
У думках я штосьці пішу…
Засне рэчаіснасць няспешна —
Чароўны я сон пагляджу…
Бы кот аксамітнаю лапкай,
Пакратала цемра мяне,
І мне з адзіноты свята —
Шчаслівая я, нібы ў сне.
Паўночы аб нечым марыць
Я — вецер вольны ў палях,
Я ўжо па спакусах сасмягла,
І казкі мае — мой шлях.
Я веру ў нешта ўлюбёнае
І пешчу мары даўно,
Ўсміхаюся, быццам шалёная,
І змрок магу піць, як віно...

* * *

Вось і студзень ужо адышоў у нябыт...
Быў, не быў — доказ часам зацёрты,
Толькі вецер за шыбаю звыкла рыпіць —
Ліхтаром абыякава-мёртвым...
Вось і сонца ўжо цераз скруху-тугу
Адыходзіць ад цяжкай хваробы,
Дзень пры дні наўздакор на сваё «не магу»
Хоць на крок — падымаецца ўгору.
Абуджаецца квола і моцу сваю,
Нібы сон добры, успамінае...
Сонца, дзякуй! І помні — цябе я люблю
І ў такім — у знясіленым — стане...
...Дзесьці спіць канюшына — чакае вясны,
І маіх, і Каштанавых крокаў.
Я таксама чакаю — кароткія дні
Пралятаюць міма аблокаў...
...Там, у лютым, галіны маіх вербалоз
Покуль спяць — і ім сніцца Свята,
І хрумсціць, нібы цукрам, снягамі мароз,
Напамінам пра час Калядаў...
Студзень зоркаю зыркаю згасне ўначы:
Снег мінулае ў кошаль схавае.
Ў сваё лета скрозь сон я хачу ўцячы,
Бо я ведаю — там ты чакаеш...



Марына Блажко нарадзілася ў 1989 годзе ў Мінску. Цяпер студэнтка трэцяга курса Інстытута журналістыкі БДУ (завочнае аддзяленне). Працуе ў рэкламным агенцтве. Друкавалася ў газеце «Раніца». У «Маладосці» — упершыню.

Марына БЛАЖКО

*Апавяданні*

# ВЕЧАР

— *Дзед! Ну дзед!* Раскажы яшчэ што-небудзь!

Стары, што сядзеў за сталом і задуменна глядзеў у акно, уздрыгнуў.

— Але ты ўжо ведаеш усе казкі! — усміхнуўся ён.

Унук гуляў на падлозе, трымаючы ў руках ірваную, але такую дарагую яму цацку. Пры словах дзеда ён насупіўся:

— Ну ты ж такі разумны! Калі казкі скончыліся, раскажы тады якую-небудзь праўду!

Дзед задумаўся. Так. Пра Калабка ўжо расказваў. Пра Чырвоную Шапачку — ажно двойчы. Пра Ката ў ботах таксама распавядаў, але пераблытаў сюжэт, і ў канцы казкі з’явіўся Канёк-Гарбунок. Таму лепш гэтую казку не кранаць, а то мала хто гэтым разам з’явіцца… А можа, самому што-небудзь прыдумаць? Напрыклад, пра хітрую лісу. Як яе пачаць?..

— Дзед, а раскажы пра бабку!

— Якую? Бульбяную? — чамусьці збянтэжыўся стары. — Чаго пра яе распавядаць? Яе есці трэба! Праўда, яе маці ўжо даўно не гатавала…

— Ды не! Я пра бабулю! Маю бабулю Валю!

Стары яшчэ больш разгубіўся і не знайшоў, што адказаць.

— А мама кажа, што яна вельмі добрая была. Лепшая за маю другую бабулю.

Дзед мімаволі ўсміхнуўся. Рэдка якая з жанчын ладзіць са сваёй свякрухаю.

— Так, вельмі добрая была ў цябе бабуля... І дранікі ў яе смачныя атрымліваліся, — недарэчы сказаў ён і адчуў, як у горле ўзнікае пруткі камяк.

Што распавядаць пра яе? Было, вядома, усяго. Столькі разам прайшлі, што дай Бог кожнаму. Вось толькі, на жаль, не атрымалася ў іх, узяўшыся за рукі, памерці ў адзін дзень. Яна, якая заўсёды імкнулася быць наперадзе ў любых сітуацыях, першай апынулася і тут. І столькі нявыказанага засталося ў яго на душы! І столькі сумесных летуценняў разбілася аб века яе труны! Паміраючы, яна гаварыла: «Знойдзеш іншую». А ён не знайшоў. Таму што не патрэбна была яму ніякая іншая.

Стары пачаў быў гаварыць, але ўнук ужо зацікавіўся машынкай, што валялася на падлозе. Дзед з палёгкай уздыхнуў. Забыў унук на сваё пытанне — і добра...

На дварэ завыў сабака. Да яго адразу далучыўся яшчэ адзін. Здалёку іх тут жа падтрымаў трэці. Выццё было працяглае, вусцішнае.

Унук падняў галаву, здрыгануўся і прашаптаў:

— Дзеда, я баюся.

— Чаго?

— Тата казаў, што сабакі выюць да нечай смерці.

— Глупства. Тата пажартаваў.

— А калі не?

— Як не верыш, ідзі спытай у мамы, яна пацвердзіць.

Хлопчык, прыціснуўшы да грудзей машынку, пабег шукаць маці. А стары павольна падняўся з-за стала, падышоў да акна, пільна ўзіраючыся ў цемру гэтага дзіўнага вечара.

Сабакі працягвалі выць.

— Валя, няўжо ты пра мяне ўспомніла?

За сваё доўгае жыццё стары ведаў дакладна: выццё сабак — сапраўды прадказанне. Можа, так яны развітваюцца... Развітваюцца з тымі, каму наканавана ў хуткім часе пазнаць, што здараецца пасля таго, як дыханне чалавека замірае назаўжды.

Раптам у акне мільгануў жаночы вобраз. Маладая, прыгожая жанчына паглядзела на старога, махнула рукой, усміхнулася і знікла.

— А я ўжо амаль забыўся, як ты выглядала, калі мы былі маладыя. Валя, Валя, чаму ты так доўга не прыходзіла за мной?

Стары адышоў ад акна, лёг на ложак, заплюшчыў вочы. Адчуў, як у грудзях нешта кальнула, занyла. З заплюшчаных вачэй пацяклі слёзы. А на твары з’явілася ўсмешка:

— Пачакай трохі. Я хутка.

І забыўся сном. Спакойным, улагоджаным, ціхамірным. Ён столькі чакаў сённяшняга дня.

Сёння ён нарэшце ўбачыць сваю Валечку. І нарэшце скажа ёй усё тое, што не паспеў сказаць тады.

Шкада толькі было, што ён так і не паспеў распавесці ўнуку пра прыгоды хітрай лісы.

## ЗВЫЧАЙНАЯ ГІСТОРЫЯ

— *Пан з вамі!* — раскінуўшы рукі, голасна, на ўвесь касцёл праспяваў ксёндз.

— І з духам тваім! — падхапіла некалькі дзясяткаў вернікаў.

«І з духам...» — разам з усімі ціхенька вымавіла непрыкметная жанчына з патухлымі вачыма. Амаль кожную нядзелю прыходзіла яна сюды (навошта нам ведаць яе імя? Хай будзе проста — яна). Прыходзіла заўсёды раней, за пятнаццаць хвілін да пачатку Святой Імшы. Садзілася на адну і тую ж лаву і сядзела, заплюшчыўшы вочы, удыхаючы пах свечак.

Потым пачыналася Імша. Асабліва ёй падабалася, калі святар казаў: «Супакой Пана няхай заўсёды будзе з вамі», людзі яму адказвалі: «І з духам тваім», а ён гаварыў: «Перадайце бліжняму знак супакою». І тады ўсе паварочваліся адно да аднаго, жадалі адно аднаму супакою і любові... І было ў гэтым нешта аб’яднаўчае, добрае. А ёй часам так гэтага не хапала. Яна жыла адна і толькі тут магла не пачуваць сябе адзінокай і забыцца на тое, што, як гаварылі яе сяброўкі, «жыццё не склалася».

А яшчэ яна не любіла чытаць «Ойча наш». Падчас гэтай малітвы трэба браць адно аднаго за рукі, а людзі не бяруць, наадварот, чагосьці саромеюцца, сціскаюць рукі, каб іх ніхто не чапаў...

І толькі адзін чалавек у касцёле падчас гэтай малітвы заўсёды імкнуўся браць блізкіх за рукі. Яна заўважыла яго каля месяца таму. Ён прыходзіў сюды кожную нядзелю і таксама садзіўся прыкладна на адно і тое ж месца, непадалёку ад яе. Зрэдку яна праз плячо азіралася на яго.

Ён быў маладзейшы за яе. І ёй было цікава: што такога маладога чалавека магло прывесці сюды? Ён часта ўсміхаўся, мог свабодна пачаць гуляцца з чужым дзіцём, якога ў храм Божы прыцягнулі бацькі і вось прымушаюць сядзець моўчкі, хаця яму так хочацца на вуліцу! На светлых валасах гэтага яшчэ зусім маладога чалавека прыгожа адбіваліся сонечныя промні, якія траплялі ў касцёл праз старадаўнія вітражы і зліваліся з водбліскамі свечак. Ён часта размаўляў з іншымі вернікамі, і ім перадаваліся яго аптымізм, вера ў шчасце і дабро.

І толькі ў яго вачах было нешта дзіўнае, нявыказанае і самотнае...

...Цяпер яна прыходзіла ў касцёл і ўвесь час выглядвала яго. Цешылася, калі бачыла, што ён сядзіць непадалёку, і непакоілася, калі ён не прыходзіў.

Ён не заўважаў яе паглядаў, не бачыў, што цяпер яна імкнулася сесці бліжэй да яго. Між тым праца, у якой яна дагэтуль знаходзіла сэнс жыцця, стала для яе цяжкай. Яна пачала жыць тымі нядоўгімі гадзінамі, калі бачыла яго. Чакала кожнай нядзелі і магла прыехаць у касцёл не за пятнаццаць хвілін да пачатку Імшы, а за гадзіну і за паўтары. Ёй здавалася, што і ён часам глядзіць на яе, і яна ў думках прасіла: «Ну падыдзі, ну сядзь бліжэй!»

Ён сапраўды на яе глядзеў. Часта, задумліва. Але не падыходзіў.

Яна пачала забывацца, навошта прыязджала сюды раней...

...У тую нядзелю яна знарок прыехала ў касцёл не раней, а пазней. І не памылілася. Ён ужо сядзеў, вельмі задумлівы, на сваім месцы.

— Пахвалёны Езус Хрыстус! — нерашуча сядаючы побач, ціха «праспявала» яна традыцыйнае хрысціянскае прывітанне.

— На векі вечныя, — ахвотна, узрадавана адазваўся ён.

Да алтара выйшаў ксёндз. Імша пачалася.

Спадцішка яна разглядала яго.

— Перапросім Бога за нашыя грахі... — вымавіў тым часам святар, і ўсе вернікі ўкленчылі.

Яна заўважыла, што з яго вачэй бягуць слёзы.

Яна так здзівілася, што на імгненне паглядзела на яго адкрыта. Ён, сустрэўшы яе пагляд, толькі вінавата ўсміхнуўся. Ёй стала вельмі шкада яго, і нейкі час яна не магла набрацца адвагі зірнуць на яго зноў. Калі ўсе прысутныя хорам пачалі чытаць «Ойча наш», ён узяў яе за руку, так проста, як браў за руку кожнага, знаёмага і незнаёмага. Так проста, як быццам яна была выпадковай сустрэчнай. Проста — як быццам яна наогул была нежывой.

І раптам ёй стала страшна.

Яна зразумела, што яго ўвага — яе фантазія. Мара і нічога больш. Гэтая мара, як паветраны шарык, усё большала, і большала, і большала... Але вось яна, мяжа. І ўсё лопнула, як той шарык. І няма нічога, і не будзе ніколі.

Яна паднялася і, не чакаючы канца Імшы, хуткім крокам пайшла прэч…

...Калі б у той дзень яна села не злева, а справа ад яго, яна ўбачыла б на безыменным пальцы ў мужчыны заручальны пярсцёнак. Чалавек прыходзіў у касцёл з-за хворай жонкі, маліўся, каб яна паправілася.

Вядома, ён бачыў яе кожны раз, калі яна прыходзіла. І заўсёды думаў: «Вось, ізноў яна прыйшла. Увесь час моліцца. Пэўна, добрая жанчына, з моцнай верай». Можа, ён думаў пра яе і яшчэ штосьці-небудзь, але мы ўжо пра гэта ніколі не даведаемся.

Павел БАЯРКА

# Я ВЕРУ Ў НЕЗАБЫТЫ СОН...

* * *

Неба рамонкамі ўлетку заплача,
Шчырыя слёзы цвітуць на абшарах;
Ціха і светла, не трэба іначай,
Каб на хвіліну заблытацца ў марах.

Поўніцца хутка ўспамінаў старонка
Водарам пылу, іржы ды палыну;
Вечар ахутвае коўдраю тонкай,
Быццам бы верасень дыхае ў спіну.

Схоплены ў пастку будзённасці шэрай,
Вострых эмоцый напэўна не будзе.
А настальгіі мне хопіць, каб верай
Дыхаць і дыхаць на поўныя грудзі!

* * *

Маё ўчора схавана да цёмнай суботы,
Як чаканы сняданак у час ліхалецця,
Як салодкі сіроп ад тугі і самоты,
Як рамонак сярод прыдарожнага смецця...

Маё ўчора — адбітак дзіцячай слязінкі,
Самай цёплай, адданай, але ж непадробнай.
Толькі зараз халодныя кроплі-ільдзінкі
Аздабляюць карону для смеласці дробнай.

Маё ўчора схавана на выспе варожай,
Як нялюбая цацка дзяўчынкі плаксівай,
Бліскавіца яскравых вачэй дапаможа
Паслязаўтра рукамі схапіцца за дзіва.

* * *

Заўтра будзе нядзеля...
Сонца свеціць не дзеля,
А насуперак нашым вачам.
Спачываючы трошкі,
Дзеці кідаюць крошкі
Бессаромным, чужым крумкачам.



*Павел Баярка нарадзіўся ў 1988 годзе ў Мінску. Студэнт пятага курса Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта (факультэт маркетынгу). Друкаваўся ў часопісе «Маладосць».*

Цёмна-жоўтыя клёны
Накаляюць праклёны
Сакавітым, калючым агнём.
Брукаваныя сцежкі,
Пад дажджом перабежкі...
Восень стала маім насланнём.

* * *

Апошняя казка на ноч ад матулі,
Ласкавыя словы
Гучаць адмыслова,
Каб феі святлом забыццё агарнулі.

Бадзёрыя песні юнацкіх куміраў —
Клубок забабонаў,
Пад гукі трамбонаў
Засохлі крыніцы дзівосных эфіраў.

Гаротная споведзь сівога прарока —
Бяздонны калодзеж,
Раптоўна знаходзіш
Там сцежку для непрадказальнага
кроку.

* * *

Зарослыя схілы кургана —
Сакральнага шчасця мясціны,
Пад спевы сляпога шамана
Стаяць нерухома гадзіны.

Прачнуліся кветкі зарана,
Булькочуць жыццёвыя сокі,
Пад спевы сляпога шамана
Нястомна вандруюць аблокі.

Зімовым дажджом нечакана
Абмыты гарачыя скроні,
Пад спевы сляпога шамана
Імкнуцца да неба далоні.

* * *

Я веру ў незабыты сон,
Я веру не сваім багам,
Падораць небу парасон,
А я кіслотны дождж прадам.

Чытаю пісьмы толькі ўслых
Сваім няправільным сябрам,
Я бесклапотны Віні Пых,
Я сёння тут, а заўтра там.

Ствараю з космасам альянс,
Пастаўкі шчасця на Зямлю,
Жыццё герояў — дэкаданс,
Але ж герояў я люблю.

* * *

Кубачак моцнае кавы,
Водар начной асалоды,
Танчаць навокал выявы
Расшыфраванай прыроды.

Шэпчуць чужыя героі
Размаляваныя словы,
Казкі глухой параноі
Пра хмарачос папяровы.

Слізкія вострыя лёзы
Крэмзаюць рэшткі паперы,
Выпрабаванні, пагрозы
Нам сапсавалі манеры.

На крыжаванні імпэтаў,
Пад пацалункамі сонца
Сноўдаюць цені паэтаў
У сутыкненнях бясконцых.

* * *

Аксамітавым ранкам будзільнік
не чутны,
Неадкладныя справы чакаюць яшчэ,
Сонны позірк у столь, бесклапотны
і смутны,
Рэчаіснасць застыла, ды мара цячэ.

Зразумелую сутнасць начных
летуценняў
Не парушыць дрыготкі, пранізлівы гук.
Зіхацяць ліхаманкай шпалераў адценні,
Адчуваецца сэрца ілжывага стук.

Аксамітавы ранак аблашчыць
падманам,
Прабівае фіранкі імклівы прамень,
Дзесьці там, за сцяной, за высокім
парканам
Пачынае шумець незапэцканы дзень.

Апавяданне-2010

Анатоль БУТЭВІЧ



# ДЗЮСЕР

## ЗВЫЧАЙНАЕ АПАВЯДАННЕ ПРА ЛІНГВІСТЫЧНАЕ ПРАКТЫКАВАННЕ

*Сын, які, відаць,* на вуліцы наслухаўся розных звышразумных выслоўяў і суперсучасных паняццяў, проста агаломшыў сваім нечаканым пытаннем. Яно прагучала, з аднаго боку, без перабольшання як гром з бязвоблачнага неба, а з другога — выклікала натуральнае здзіўленне сынавай... як бы гэта больш дакладна сказаць... недасведчанасцю ці мо падробкай пад яе. А мо гэта проста знарочыстае пацвельванне? Ці мо нават замешаны на прыхаваным здзеку спосаб праверкі нашай бацькоўскай здольнасці разумець цяперашні моладзевы гумар?

Так ці інакш, а сын, здалося, крышку пасміхаючыся вачыма, хоць твар ягоны ў гэты момант быў сур'ёзны як ніколі, пачаў:

— Продкі... — і выпрабавальна зірнуў на нас. Вочы ў мяне і ў жонкі самі палезлі на лоб. А я зусім нечакана для сябе спытаўся:

— Ты маеш на ўвазе нашых прадзеда з прабабкай? — я памаўчаў, стараючыся зазірнуць нашаму сыну ў вочы, якія ён старанна адводзіў убок, апускаў уніз, адным словам, хаваў ад нас. — Дык жа яны не чуюць цябе. І ўжо даўно. Ва ўсякім разе, тут, на зямлі. А ці могуць адказаць адтуль?..

Я не паспеў закончыць сваю павучальна-выхаваўчую прамову. Сын рэзка падняў вочы на нас і больш гучна, чым звычайна, выпаліў:

— Я пра вас... Бо вы, з пункта погляду майго далейшага жыцця і маіх, так сказаць, спадкаемцаў — продкі... Будучыя продкі, — паправіўся ён.

Жонка ад нечаканасці і разгубленасці ледзь не пляснула рукамі, адно зрабіла рух, нібыта выцірае іх адна аб адну ад нечага непатрэбнага. Я міжволі зірнуў на яе, звёўшы над пераноссем бровы. У вачах у яе і сапраўды назойліва пульсавала яшчэ не асэнсаваная трывога. Відаць, усё-ткі за сына. Яна нават памкнулася нешта сказаць, мо запярэчыць яму. Але не паспела.

Сын апярэдзіў.

— Я, вядома, выбачаюся, што вы не зразумелі мяне. Але для дадзенага выпадку гэта не мае ніякага значэння. Больш важна, для мяне, ва ўсякім разе, тое, пра што хачу ў вас спытацца.

Жонка натапырылася яшчэ больш, бровы над яе блакітнымі з вузенькай карычневатай палосачкай вачыма сталі нагадваць дугі над гатовымі джгаць у бясконцую далеч рысакамі з вядомай карціны «Тройка». У мяне нечакана і пазапланава заныла пад лыжачкай: «Ну, выдасць зараз наш «спадкаемец». Відаць, недзе ўляпаўся...»

Сын жа зусім спакойна і надзіва ласкава працягваў:

— Зрабіце ласку, патлумачце мне, недасведчанаму дзіцяці, чаму апошнім часам скрозь і ўсюды ўсе гавораць пра нейкіх дзюсераў? Хто такія гэтыя нябачныя дзюсеры, што ім гэтулькі ўвагі?

Мы міжволі і адначасова засмяяліся. Жонка — ціхенька і дробненька, а я спачатку рагатнуў на ўсю моц, і толькі пасля мае і без таго шыракаватыя скулы разышліся яшчэ шырэй, ад чаго вочы сталі нагадваць вузкія шчылінкі, як у колішніх мангола-татарскіх заваёўнікаў, калі яны нesліся ў наступ-захоп на чужыя паселішчы. Няўжо спадчыннае? Праз гэтулькі стагоддзяў?

І перш чым сказаць што-небудзь разумнае, я нечакана, найперш для сябе, задаў мо зусім недарэчнае ў гэтай сітуацыі пытанне:

— А *пра хіндзеяў* там у вас не гавораць? Альбо *прайдзісветаў*? — прамовіў я і адразу ж сумеўся: г э т а е слова не кладзецца ў той дасціпна выбудаваны некім свет. Крышку не падыходзіць. Самую магулінку. Але без запінкі я працягваў павучаць у тон сынаваму пытанню: — А *пра дукты* вы таксама не гаворыце? Вас цікавяць толькі дзюсеры? Але ж і дукты не менш важныя. Ды і карысныя, — я запытальна пазіраў на сына.

«А мо вы і *пра верку* гаворыце? І *пра водку* не перастаяце думаць? — хацелася сказаць мне словамі майго колішняга камсамольскага лексікону, але я змоўчаў, каб не дражніць сына, а найперш мо каб не пашыраць яго і без таго, відаць, шырокі кругагляд у гэтым напрамку. — Люксова... Бач, знайшлі *пра свет* альбо *пра галіну* ў сваіх *пра дуктыўных* досціпах... Во якія *пра сунутыя*... А мы ўсё *пра мовы* ды *пра мовы*».

Пасля працяглых і рознавясёлых перапалак-высвятленняў, абмену досціпамі сын сур'ёзна патлумачыў:

— Гэта мяне старэйшыя хлопцы даймаюць. Дзяўбуць проста. Спачатку пыталіся, ці не чуў я чаго-небудзь *пра дзюсераў*. Канкрэтна. Пасля прызналіся, што хочуць, каб я стаў тым самым *пра дзюсерам*, першым сярод нас дзюсерам. Ім грошы патрэбныя. Збіраюцца зняць віншавальны кліп да дня нараджэння іхняй старасты класа, прыгожанька люксовай, — голас сына ажно памякчэў, — Надзькі. Чым здымаць — знайшлі. У Санькі, што з суседняга дома, — ты яго, тата, ведаеш: бацька яго ў падатковай працуе, той, што табой апякуецца, — без патрэбы тлумачыў сын, — крутая камера. А вось на ўсе іншыя *пры бамбасы*, каб кліп клёвым атрымаўся, патрэбныя грошы. Яны і выбралі мяне. Кажуць, я выліты *пра дзюсер*. Менавіта такі ім і патрэбен. Канкрэтна, кажуць. Твой продак, кажуць, — сын імгненна кінуў вокам на мяне, але гаворкі не перапыняў, відаць, каб я сваім выказваннем — згоды ці абурэння — не парушыў няспынны бег ягоных слоў. — Продак твой, кажуць, такія б а б к і мае, — сын зрабіў асаблівы акцэнт на слове «бабкі», нібыта ўкладваў у яго нейкі іншы, таемны, сэнс, ды так падкрэсліў гэта, што ў мяне здрадліва пачырванелі вушы, і я мусіў апусціць вочы — нібыта ў іх сын здолеў бы нешта прачытаць. — Хай канкрэтна падзеліцца з намі. Сёлета ж Год дзіцяці акурат. А ты хіба *пра дзюсера* не марыш, кажуць? Гэта ж такая цяпер модная магчымасць вылучыцца, проста крутая... І табе не пашкодзіць, і продку твайму залічыцца, *пры дасца*, адным словам... Гэта яны бацьку Санькі мелі на ўвазе. Канкрэтна, ад *пра моў*, — сын, відаць, не заўважыў, што і тут прагучала гэтая знарочыстая двухсэнсоўнасць, — *пра дзюсераў пры кольшчыкі пры ступілі* да справы. Так што лічыце, мае вы дарагія... — сын запнуўся, відаць, хацеў сказаць «продкі», але не прамовіў, адно паўтарыў: — Мае вы дарагія, лічыце, што і сын ваш таксама стаў дзюсерам. Ці мо хоча стаць... А магчыма, змусяць...

На гэтых словах броўкі-дугі жонкі выпрасталіся ў адну тоненькую лінію і сталі нагадваць гэткія ж нечакана яшчэ больш патанелыя губы.

— А пакуль вы будзеце *мерка вацЬ* ды *раз важацЬ*, — сын кіўнуў у наш бок, — *два важацЬ*, — ківок у бок жонкі, — *тры важацЬ*, — яўна пацвельваўся ён і кіўнуў мне, — хоць ні *раз важацЬ*, ні *раз важвацЬ* тут няма чаго, як на маё *мерка ванне*, — сын асабліва выразна прамовіў апошнія словы, — я пайду? — нібыта пытаўся ён дазволу. — З тымі *пра хіндзеямі* пагаманю. Дзюсер павінен больш канкрэтна ведаць *пра дзюсераў* і *пра дзюсерства* ў наш такі спрыяльны і спагадлівы да багатых час. Праўда ж, га?

І сын выйшаў.

Каб жонка не пачала даймаць мяне сваімі роспытамі ды здагадкамі, я хуценька нырнуў у той безваконны пакойчык, куды, як правіла, па двое не заходзяць. Каб спакойна падумаць. Не, не так *пра дзюсераў*, як *пра хіндзеяў*... А за адным захадам пра Санькавага бацьку, які з падатковай інспекцыі...

Кліп сваёй прыгожанькай старасце хлопцы ўсё-ткі знялі.

# ЛЕДЗЬ НЕ ЗГУБІЎСЯ

*У бацькі прапаў сын.* У жонкі — муж. У дачкі і сына — бацька. У бабулі — унук. Не, не тое каб зусім прапаў. Знік. Бо калі знік, то ёсць надзея, што знойдзецца. Так суцяшаў сябе бацька. А калі прапаў… І слова страшнейшае, і сэнс яго цьмяны. А яшчэ лепш — згубіўся. Трапіў у вялікі горад і згубіўся, сярод мноства людскога заблудзіўся. Але хіба ад гэтага лягчэй? Прапаў, знік, згубіўся… Усё адно няма дома. А гэта — бяда.

Паехаў у нядзелю ў сталіцу СНД на сустрэчу з сябрамі (традыцыйная зачэпка для многіх мужчын, але тут была чыстая праўда), некаторыя з’явіліся нават з Масквы — і не вярнуўся, не прыехаў начаваць. Не так далёка той Мінск ад Пухавіч. А на вуліцы вадохрышчанскія марозы, якіх падобнай парой ужо даўно не было.

Першай адчула нязвыкласць у доме іхняя трохгадовая дачка. Як толькі расплюшчыла вочкі, Надзейка адразу паклікала: «Тата… тата…» Пасля пачала гучней і больш працяжна, як бы прасіла і адначасна жалілася: «Та-а-атка… та-а-а-атка…» Але бацька не падыходзіў. Затое прыскочыла з кухні, дзе гатавала сняданак, мама, падняла дачушку на рукі. Аднак на яе пытанне: «А дзе тата?» — не магла не толькі ёй адказаць, але і сама адчула нечакана вострую трывогу.

І праўда, гэта ж няма яго. Не начаваў… Не прыходзіў… Не прыходзіў ці не прыйшоў? Але якая розніца ў словах? Бо яго ж усё адно няма. Во, во, вось тое галоўнае слова, якое мае сэнс менавіта цяпер: «Няма». Дачцэ, вядома, мусіла зманіць:

— Пабег на працу ўжо…

— А хто мяне ў садок павядзе-е? — закапрызіла тая.

У словах малой быў пэўны сэнс. Нават не проста пэўны, а сурова-праўдзівы. Так, Надзейку трэба весці ў садок. Але ж на руках маленькі Сяргейка. З ім? У такі мароз? Тут і дачку, на добры лад, не варта было б адпраўляць. Аднак жа не закрывалі групы, значыць, не бачаць выхавацелькі небяспекі. А мо гэта і лепш? Не трэба весці дачку ў садок, усе разам пабудуць дома. А хіба ж усе? Бацькі акурат і няма. Ды і ёй самой трэба пад абед падскочыць на працу: там якраз тавар новы прывезлі, апрыходаваць трэба. Сяргейку меркавала адвезці да бабулі, сваёй маці, якая якраз на пенсію нядаўна выйшла і пакутуе, як сама кажа, ад «бяздзелля». Дык мо і Надзейку ёй падкінуць? Але ж выхавацелька сварыцца, што такімі перапынкамі дзіця толькі

псуецца, адвыкае ад гурта, ды і заняткам, што пачалі праводзіцца з кнігай, гэта замінае.

Развагі перапыніў плаксівы голас сына з калыскі. Яна кінулася туды, а наўздагон пачула працяжны голас Надзейкі:

— Хачу-у да та-аты-ы-ы-ы. Дзе мой та-ата? Скажы, — настойвала дзяўчынка, — скажы, дзе?

А што магла адказаць яна?

Тады жонка ўзяла і пазваніла сваёй свекрыві, Надзейчынай бабулі, значыцца. Сказала, што муж, яе сын, прапаў, у запале не заўважыла ці мо не захацела казаць інакш, бо раз не з'явіўся — значыць, прапаў. А вось свякроў ці то знарок, ці то ненаўмысна паправіла:

— Не прапаў, а…

— Дык вы ведаеце, дзе ён? — абнадзейліва перабіла нявестка, але пасля спахапілася: — Мо ён у вас? Ці званіў вам?

Сынаву маці разанула слова «ён». Бач, ужо і імя не называе, — але спісала гэта на знерваванасць.

— Не прапаў, — паўтарыла свякроў, — а згубіўся… — і дадала, каб зняць катэгарычнасць: — Відаць…

Як магла суцешыла нявестку, паабяцала прыехаць, паглядзець унука, калі трэба.

Размова на гэтым перапынілася. Але не спынілася нарастанне трывогі ўжо ў другім доме. Сынава маці адразу ж, дадаўшы адпаведных эмоцый, узнагародзіла гэтай навіной мужа — ён якраз збіраўся выпраўляцца ў сваё домакіраўніцтва. Бацька эмоцыям ходу не даў, аднак у самога сэрца ёкнула: ці не на гэтую бяду снілася сёння незвычайная рыбалка: нібыта ён з нейкіх масткоў на зімовую вудачку летам ловіць рыбу — на жыўца. Закідваецца з цяжкасцю, але ў празрыстай вадзе бачна, як стайка рыб палюе за жывой нажыўкай, а пасля, яму гэта відно, нейкая нязвыкла вялікая рыбіна схапіла нажыўку і рванула рэзка ўбок, ажно жылка з лёскатам пачала раскручвацца з катушкі, а пасля і зусім нейкае дзіва дзіўнае адбылося: гэтую вялікую рыбіну праглынула яшчэ большая, і тут ужо жылка пачала раскручвацца з такой шалёнай хуткасцю, што ў руках не ўтрымаць, аж пальцы яму парэзала, стала балюча, і ён… прачнуўся.

Дык вось да чаго сон… Але жонцы нічога не сказаў, адно кінуў: «Ладна», яна ўжо ведала, што гэта азначала: дай падумаць.

Думаў ён і на працы. Усе жальбы на нястачу вады, на паламаны ліфт, на адсутнасць святла на лесвічных клетках і на процьму іншых розных вялікіх і малых непаладкаў, якія штодзень, асабліва пасля выхадных, выліваюцца на ягоную галаву, здаваліся дробязнымі ў параўнанні з тым, што адбылося. «А ці адбылося? — прыйшла нечаканая думка. — Яшчэ ж нічога невядома. Гэтак нядоўга і паніку пасеяць, а паніка нават рамонту крана не спрыяе, не тое што пошукам сына… які згубіўся… Так, згубіўся», — стараўся пераканаць сябе.

Увесь дзень арганізоўваў рамонт, даваў ваду, разбіраў скаргі, лагодзіў людзей… Чужых лагодзіў, а да сваёй бяды не ведаў як падступіцца.

Яшчэ больш страхаў нападдавала сабе ягоная жонка. Застаўшыся дома адна, яна не ведала, за што рукі зачапіць. То туды кінецца, то сюды, то нявестцы пазвоніць, каб што даведацца, ажно знервавала тую яшчэ больш. Тады ўключыла тэлевізар і пачала ганяць каналы, каб за што вока зачапіць. Але гэты «прамень у свет» толькі дадаў трывогі: куды ні ткне, усюды быццам знарок фільмы на адзін капыл: то пра забойства, то пра разлад у сям'і, то п'янка, то нейкія пачвары экран запаланілі. У адным нават гераіню звалі як і яе нявестку, і ад яе невядома куды сышоў муж.

Ці мо гэта напятыя нервы т а к усё бачылі, бо раней яна з задавальненнем глядзела падобныя фільмы, але гэтулькі паскудства не заўважала. Але ж паралелі былі проста жывыя. І тады яна зноў бралася назвоньваць нявестцы, быццам не разумела, што толькі рве ёй нервы.

Пасля кінула тэлевізар і пераключылася на радыё. Аднак і яно не прынесла палёгкі. Песні гучалі чамусьці толькі пра каханне, лад ды згоду. «Як здзекуюцца ўсё адно… Усім ім, бачыце, добра… Усім, ды не ўсім…» Такога здзеку вытрымаць не магла, бо не адно нервы не выносілі, але і слёзы да вачэй падступалі.

Тады жонка пазваніла сваёй маці. Бабулі сына. І распісала той, хоць на гэты раз і стрымана, усю прыгоду. Тут ужо выбухнула сапраўднае войканне, сыпаліся абвінавачванні, што яны бяздзейнічаюць, патураюць унукавым выбрыкам, а яна, каб мела сілу... Эмоцыі былі такія, што калі б пачуў унук, то лётам ляцеў бы дадому. Бо ў бабулі і без таго сэрца вецер ганяе — перабоі частыя, ды такія, што, здараецца, не чуе яго, таму дзед і пацвельваецца з яе, калі ўсё наладзіцца, вядома, што яе матор у гэты час ганяе не кроў, а вецер.

Бабуліна войканне падняло напружанне па ўсёй вертыкалі. Яе дачка перакананна стала прадчуваць бяду. Пра гэта яна не прамінула сказаць мужу, перапыніўшы таму нейкую чарговую важную нараду па эканоміі электраэнергіі ў пад’ездах. Ён хоць і агрызнуўся, але бацыла трывогі, якая і без таго не пакідала яго, стала расці — як нявывезены снег на падуладных яму вуліцах і тратуарах. Аднак нехта нябачны спрабаваў слаба суцяшаць: «Нічога яшчэ невядома… Няма чаго паніку падымаць… Не прапаў, а знік… Не знік, а згубіўся… Значыць, заблудзіўся».

Ведаў, што калі б сказаў такое жонцы, то дасталося б не аднаму яму. Атрымаў бы і муж, што пад старасць дурнець пачаў, плявузгае абы-што. Хапіла б і сыну, хоць і завочна. Найперш завочна, бо бацька ведаў, што жонка лае сына толькі за вочы, а пры ім без суровасці ў голасе выгаворвае ды просіць, каб не рабіў благога. Не столькі сабе, колькі іншым, сваім сямейнікам найперш. Сын ніколі не спрачаўся, моўчкі то ківаў, то круціў галавой, а на зыход казаў ледзь не адно і тое ж:

— Ты ж не квахтуха, а я не пеўнік…

Вось табе і пеўнік…

Ён і сапраўды заседзеўся з былымі аднакурснікамі па мінскім вучылішчы. Спачатку ў рэстаране. Пасля пайшлі адно аднаго праводзіць. Праводзіліся далёка за поўнач. Адна асабліва настойлівая аднакурсніца запрашала праведаць і пагрэцца. Ён не пярэчыў, але адгаварылі масквічы, папрасілі правесці да гатэля. Правёў. Тыя паклікалі паглядзець апошнія здымкі з сустрэчы былых аднакурснікаў, што атабарыліся ў Маскве. Тым больш што электрычка дамоў толькі раніцай. А тут, як назло, — чамусьці пра такое толькі ў кіно паказваюць альбо ў кніжках пішуць, — адключыўся мабільнік — ні ён не пазвоніць, ні яму.

Вядомая рэч, агледзіны зацягнуліся, былі падмацаваныя чарговай чаркай. Не заўважылі, як і світанак пастукаўся ў гатэльнае акно.

Раніцай доўга развітваліся, затым гасцінны пухаўчанін узяўся правесці масквічоў на самалёт. Там таксама не абмінулі буфета. Сябрукі пачалі з падколкай запрашаць у Маскву, маўляў, адна з ягоных колішніх сімпатый засумавала, ад крыўды нават прыехаць не захацела. Ён не надта працівіўся, аднак пакуль што нічога не казаў. Седзячы ў цяпле на мяккай аэрапортаўскай канапе, адчуў, што пачынае міжволі кімарыць: давалася ў знакі бяссонная ноч.

І раптам у адзін з такіх напаўсонных правалаў яму пачуўся голас Надзейкі. Ягонай Надзейкі: «Тата… та-а-атка… та-а-ата-а-ачка-а-а-а…» Ён схамянуўся, вочы шырока расплюшчыліся, а з вуснаў міжволі зляцела:

— Што, дачушка?..

— Ты нешта пытаешся? — спытаў адзін з сяброў. — Забыўся, як сімпатыя твая завецца?

— Не-а, — адказаў ён і нечакана адчуў, як з вачэй пачала спаўзаць заслона хмелю…

Першай узрадавалася дачка:

— Ой, мамачка, татка ідзе, — і кінулася на званок у дзверы.

Аказалася, сусед прыйшоў свярдзёлка папрасіць, будзе новае люстэрка ў вітальні вешаць.

На другі званок дачка адрэагавала вяла: адно зірнула вочкамі, а да дзвярэй не пабегла. Гэта прыехала бабуля. Другая, тая, што маме мамай даводзіцца. Каб супакоіць ці нешта параіць дачцэ, разам пабедаваць у крайнім выпадку, бо ўжо і другі вечар без мужа-бацькі-зяця ў сілу ўвабраўся.

А вось на трэці званок Надзейка шустра падбегла да дзвярэй і радасна залепятала:

— Татка, татачка прыйшоў…

Калі дзверы адчыніліся, Надзейка радасна кінулася бацьку на шыю.

Жончына маці пачала прапаноўваць дачцэ дапамогу ў гатаванні вячэры.

Сынава маці, калі ёй пазваніла нявестка, усцешна ўздыхнула і моўчкі пахваліла сябе, што не выказала ёй словы абурэння ўчынкам сына, што не вылаяла яго перад ёй.

Бацька з палёгкай развёў рукамі, што азначала ў яго разуменні: чаго не бывае з жывым чалавекам…

Бабуля ўнука, атрымаўшы навіну ад дачкі, адчула, як сэрца зноў пачало ганяць вецер, і пайшла наліваць ў шклянку валяр’янавыя кроплі.

Жонка ж зірнула на мужа стомленымі вачамі і сама сабе падумала: «Ну-ну, паглядзім яшчэ, які ты пеўнік…» А ўголас сказала:

— Рукі памый, а то дзіця набярэцца чаго…

# ЗЛАЧЫННАЕ КАХАННЕ

*Гэтую навіну прынёс сын.* Яна яшчэ не ведала, ці вылазіць на лістападаўскі холад з-пад хоць і пабітай плямамі дзірак, але ўсё яшчэ цёплай коўдры з кудзелі, як з сянец у былую кухню, дзе яна цяпер спала, уваліўся сын. Рэзка рвануў убокі заседжаную мухамі фіранку, што прыкрывала ад чужых вачэй яе драўляны і добра папсаваны шашалем ложак. Спярша адчула ягоны моцны, відаць, ужо нязводны пах. Не, не перагару, не піва і не гарэлкі нават, а той спецыфічны пах, які не выветрываецца і сведчыць, што чалавек дзеля сваіх піцейных патрэб не грэбуе нічым, што гарыць і што тлуміць мазгі.

— Маці, гэтаво… давай… пара, — перарывіста прамовіў Юрак. Яму перашкаджала гаварыць задышка. Трохі адсопся і паўтарыў: — Давай, гэтаво… пад’ём, як у арміі кажуць...

— І даўно ты з тае арміі? — не разумеючы яшчэ, пра што гаворка, спытала маці. — Не гарыць. І піць не трэба зранку.

— Якая раніца, гэтаво? Якое піць? — як не крычаў Юрак. — Няма ў мяне, гэтаво… за што піць. Калі дасі, то збегаю...

— Ага, зараз. Кашалёк з печы выцягну і дам, — з’едліва прамовіла маці, якая сама ўжо з тыдзень не зазірала ў пусты кашалёк. Але яе перабіў сын.

— Не балбачы, гэтаво, абы-чаго. Ведаю, што вецер гуляе і па тваіх кішэнях. Але

навіна такая, гэтаво, што можаш і пазычыць у каго. Ці мо, гэтаво, заначку на чорны дзень маеш?

— Дак у цябе кожны дзень чорны. Усё высмактаў, усе грошы выцыганіў, Юрачка. Няма. Ні зайчыка няма, ні вавёрачкі. Уцяклі, збеглі, паскакалі, нават варсінкі не пакінулі.

— Гэтаво, спыні красамоўства, — амаль што ўрачыста перабіў Юрак. — Я такую навіну табе скажу, такую...

— Дак не малімонь, кажы ўжо. Не цягні ката за хвост, — прамовіла маці і выпрастала з-пад коўдры рукі, села, але ног з цёплага не выцягвала.

— Гэтаво, у сельсавет з раёна нейкае начальства прыехала.

— Ну і што?

— Ды не спяшайся ты казаць «будзь здароў», пакуль не наліта. Папрасілі, гэтаво, Іванавіча, ну, старшыню, каб сабраў тых, хто на немцаў некалі працаваў. Не, не тут, а ў Германіі, вось што... Каго сілай вывозілі. Плаціць ім, гэтаво, будуць! — Юрак пераможна зірнуў на маці, якая чамусьці не выяўляла ніякіх эмоцый. — Грошы будуць даваць, чуеш? Маркі! Вось што. Гэтаво, кам-пен-сацыю, — як не прадэкламаваў ён. — А ты ж таксама па-цяр-пелая. Гэтаво, на баўэра спіну гнула? Гнула. Здзекі цярпела? Цярпела. Вунь рукі дагэтуль скручаныя, — як бы пашкадаваў сын. — Сама ж, гэтаво… расказвала. Казала, што і сястра твая там памерла...

Сын гаварыў яшчэ нешта, намагаўся ў нечым пераканаць, а яна раптам як скамянела. Сядзела на збітым сенніку, спінай прыхінулася да схаладнелай сцяны, а ногі хавала пад цёплай коўдрай. Грудзі нешта сціснула. Па руках прабегла балючая сутарга. Слых нібыта адабрала, адно чуўся нейкі непрыемны гул у галаве. А вочы... Вочы надзіва выразна, як на экране яе «Гарызонта», калі быў яшчэ новы і паказваў чыста і ярка, убачылі раптам тую далёкую — уга-а: амаль шэсцьдзесят гадоў мінула! — нямецкую вёску, кірху, хлеў, дзе апынулася яна з маці і дзвюма сёстрамі... І зноў, у каторы ўжо раз, нібыта сама сабе расказвала даўно знаёмую і сотні разоў бязмоўна паўтораную гісторыю.

У сям’і была я старэйшай. А старэйшым вядома што дастаецца. Не, не булкі з макам — гэтым малых песцяць. А нас было ажно сем душ. Дзве меншыя сястры, старэйшы брат, бацька з маці і дзед. Бацькаў бацька. Калі пачалася вайна, бацька з братам на фронт пайшлі. Але і нам не мёд дастаўся. Што давялося перажыць пад немцам, хай Бог бароніць... Усіх трэба было нечым накарміць. І тых, хто ў партызаны пайшоў. І немчуру. Самі ж галадалі...

Хапун у вёсцы пачаўся яшчэ досвіткам. І старых, і малых паліцаі сагналі да сельсавета. Былога сельсавета, дзе цяпер нямецкая ўправа была. Не зважаючы на крыкі, плач, енкі, праклёны, усіх падзялілі. Старых і нямоглых асобна. Дзяўчат і хлопцаў асобна. Дзяцей з мацяркамі не разлучалі. Усіх перапісалі, пасля пасадзілі ў былыя калгасныя палутаркі і павезлі ў Нясвіж. А ўжо адтуль пад узмоцненай аховай і пасля шматмоўнай агітацыі, як добра жыць і працаваць у свабоднай Германіі — калі там такі рай, то чаго ж дзяліць яго з прыезджай набрыддзю? — пагрузілі ў таварныя вагоны на станцыі Гародзяй, і задыханы паравоз пачухкаў на Баранавічы. Як і дзе ехалі далей, то дагэтуль не ведаю. Некаторыя нават змрочна жартавалі:

— Мо хоць нарэшце ад’емся. Карміць павінны? Павінны. Бо галодная я ім напрацую…

— Наясіся, чакай, — з’едліва адказвалі іншыя. — Глядзі, каб скураны мяшок косці ўтрымаў...

Ніхто ў тое нямецкае агіткрасамоўства не паверыў, на экскурсію па замках ды музеях не спадзяваліся. А вось наконт працы сумневу не было.

Так яно і сталася. Прывезлі нас на нейкую вялікую станцыю. Адтуль у крытых грузавіках пераправілі ў невялікі гарадок. А там ужо з'явіліся паны. Выбіралі як скаціну. Мацалі, круцілі, аглядалі, нават у зубы зазіралі. Мая маці з трыма дочкамі і некалькімі такімі ж гаротнымі сем'ямі аднасяльчан трапіла да ўдавы колішняга баўэра. Пасялілі ў хляве. Старэйшым дасталося месца на самімі збітых нарах унізе, а маладым, бо лягчэй залазіць, выпала гарышча. Нават у пограб загналі дармовую рабочую сілу.

Кожнаму на левым баку курткі напісалі нумар. Нават дзецям. У мяне ён быў 000333, у малодшых — іншыя. Справа прышылі сіні кавалак тканіны з літарамі OST. Як патлумачылі дасведчаныя, гэта азначала: бальшавіцкі чалавек, другога гатунку. А проста так нас называлі остарбайтарамі. Насіць знакі трэба было і на ўсякім іншым адзенні. Адразу ж загадалі напісаць лісты сваім родным, знаёмым, сябрам пра тое, як шыкоўна жывецца перавезеным з Беларусі ў непераможным трэцім рэйху, як гасцінна адносяцца да іх гаспадары.

Перш чым адправіць на працу, нейкае высокае начальства прачытала нам процьму розных папярэджанняў, інструкцый, забарон, правілаў. Мы зразумелі, што ўсё далейшае наша жыццё будзе пазначана выключна словам «Не!». А парадкі тыя зводзіліся да аднаго кшталту дзеясловаў: забараняецца, караецца, не дапускаецца... І толькі адзін назоўнік быў: за парушэнне — смерць. Дазвалялася толькі працаваць, працаваць, працаваць... Да знямогі, да той жа смерці. То невядома, з чаго было выбіраць.

Найбольш палохала, а каго і смяшыла забарона кахацца. Сур'ёзна і строга загадалі: не цалавацца, не абдымацца, не дапускаць ніякіх іншых вольнасцей. Асабліва суровая кара чакала таго, хто асмеліцца на палавыя зносіны. Як ні было страшна, а калі перакладчык прамовіў гэтыя словы, шмат хто пырснуў смехам. Гэткіх слоў мы і дома не вымаўлялі. Калі нам было думаць пра тое палавое каханне, мы ж проста жылі. А тут? Хіба будзе нехта кахацца з ворагам?

Папярэдзілі, каб не спакушалі мы тутэйшых жыхароў. Калі ж што якое, то мужчын належала аддаць на спецыяльную апрацоўку (таксама ж слова выдумалі), а жанчын выслаць у канцлагер. Жорстка каралі і немцаў, якія мелі б той акт учыніць. Бо любая сувязь (нават танцы, проста размовы, прыязныя пагляды і г. д.) з грамадзянінам (так і сказалі, быццам бы з павагай да нас) варожай дзяржавы, які сам па сабе ўжо з'яўляўся ворагам усяго тутэйшага, лічылася злачыннай. Разбурала, значыцца, чысціню нямецкай расы, рабіла шкоду вялікай Германіі.

За любую правіну — экзекуцыя. А што гэта так, пераканаліся мы вельмі хутка.

Не паспелі агоўтацца на новым месцы «свабоднай працы», як пагналі ўсіх да лесу. Спыніліся на невялікім поплаве, каля старога галінастага дрэва. Неўзабаве да яго прывезлі схуднелага, моцна збітага савецкага ваеннапалоннага. Невысокі, худы, дзіця дзіцём. Нават мы былі дужэйшыя. Вочы завязаны, рукі скручаны калючым дротам за спінай. Казалі, працаваў разносчыкам — насіў па дамах немцаў вугаль, бульбу, іншыя прадукты і рэчы. Відаць, напаткаў нейкае спагадлівае нямецкае дзяўчо. Не ўтрымаўся і парушыў забарону пра той кляты акт. Ці яны толькі цалаваліся, ці на што іншае адважыліся, то хто ж яго ведае. Адно вядома: арыштавалі абаіх. Ведама, каханне паміж чужаземцам і немкай злачынствам лічылася…

Нашага салдаціка пра нешта спыталі. Як мог, ён, бедалага, выгукнуў: «Хай жыве Савецкі Саюз!» Кат у белых пальчатках і ў чорнай масцы падышоў да палоннага. Начапіў на шыю вяроўку. Адапхнуў стол, на якім стаяў салдацік, і тройчы моцна тузануў за ногі. Відаць, баяўся, што таму не хопіць вагі, каб засіліцца.

Мяне пачало ванітаваць, здавалася, вантробы вываляцца праз рот. Хацелася хутчэй у свой хлеў, каб выплакаць увесь жаль, страх і абурэнне. Але нас прымусі-

лі прайсці каля павешанага і на ўсе вочы пазіраць на яго. Хто не мог ці не хацеў, жорстка збівалі, а ўсіх зноў вялі каля цела няшчаснага.

Працавалі мы ва ўдавы Лёвер. Яе муж загінуў на ўсходнім фронце. У яе было два сыны, адзін малы яшчэ — Роберт. Другі, Альберт, мой равеснік. А мне тады шаснаццаць было. Ён любіў пацвельвацца з мяне. Калі ўбачыліся першы раз, спытаў, як завуць. Па-свойму спытаў, рукамі дапамагаючы. Але я зразумела.

— Лёня, — адказала я.

— Лён'я? — перапытаў ён і паўтарыў: — Лён'я...

— Так, — патлумачыла я. — Я — сапраўды льняная, — і паказала на свае доўгія светлыя валасы.

Не ведаю, ці зразумеў ён што, але перапытаў:

— Як, як? — і пакратаў свае таксама светлыя валасы.

Пасля ён часта казаў: «Лён'я, Лён'я... Давай, работа... Работа...», — а сам смяяўся, але не злосна, і пазіраў так хітра і ласа. Я пачала баяцца такіх спатканняў, апускала вочы і хуценька праходзіла міма. Ён жа, бы знарок, шукаў любую зачэпку, усё больш пільна ўзіраўся ў мяне, праяўляў розныя знакі ўвагі. Асмялеўшы, я заўважыла, што ён прыгожы, вочы блакітныя і добрыя, а твар усмешлівы. Паступова сыходзіў мой недавер, а ягоная прыязнасць перадалася і мне. Я ўжо не апускала галавы, нашыя вочы магнітна сустракаліся. Але я як «Ойча наш» помніла пра строгія забароны. Акрамя таго, баялася за сваіх сясцёр, за маці. Ведала, што іх чакае, калі ў нечым западозраць мяне.

І тут загаварыла мая галава:

«Адумайся! Што ты робіш? Ён жа вораг...»

«Але тут наўкол ворагі», — адказвала маё сэрца.

«Тым больш. Ведаеш пра забароны і кару?»

«Але ж ты маладая», — нашэптвала сэрца.

«Не рабі глупства, — настойвала галава. — Будзе балюча не толькі табе...»

«А так хіба не балюча?»

«Як вернешся дадому? Як жыць будзеш?»

«А ці вярнуся? Ці буду наогул жыць?!»

«Яго бацька забіваў нашых людзей...»

«А мой і дагэтуль забівае немцаў... Але ж ні я, ні Альберт нікога не забіваем...»

«Глядзі, дзеўка, даскачашся. Будзеш круціцца як шкурат на агні. І ніхто табе не дапаможа...»

Спрэчку з розумам выйграла сэрца. Адбылося тое, што павінна было адбыцца паміж маладымі людзьмі, якія неабыякавыя адно аднаму.

Аднойчы Альберт паклікаў мяне ў пакой, дзе стаяў прыгожы стол і печка з узорыстай кафлі. Я так спалохалася сваіх брудных босых ног, што ажно баялася ступаць па бліскучай падлозе. Ён зразумеў, паклікаў мяне ў невялічкі пакойчык — відаць, ваннай лічыўся, — узяў вялікі жалезны збан з ручкай, паліваў мне, а я ажно гарэла — і ад сораму, і ад такой увагі: дзе гэта бачна, каб гаспадар мыў ногі рабыні.

Пасля пасадзіў на нязвыкла мяккае крэсла з высокай выгнутай спінкай і пачаў нешта горача гаварыць. Я, вядома, амаль нічога не разумела. Але ягоны даверлівы тон і ласкавасць у голасе пераконвалі ў добрых намерах. З усяго шматслоўя разабрала толькі два словы: «лебэн» і «лібэн». Я ж была вельмі маладая, мне хацелася і жыць, і кахаць. Але я толькі плечукамі пацiскала: маўляў, не разумею. Аднак галавою адмоўна не круціла, каб ён часам не падумаў, што я ад нечага адмаўляюся. Ён як бы засердаваў і адпусціў мяне.

Пасля была другая сустрэча адзін на адзін, трэцяя. Ён заўсёды смачна частаваў, гаварыў, відаць, прыемныя словы. Я не стрымалася. Нас усё роўна як прарвала. Мы абдымаліся, цалаваліся, гладзілі адно аднаго. Знясілена падалі на шарсцяны коц, колькі хвілін спачывалі, пазіраючы ў вочы, якія гаварылі больш, чым нашыя бязмоўныя языкі. Праўда, неўзабаве языкі навучыліся размаўляць без слоў і лепей за нас. Затым усё пачыналася зноў. Я была так захоплена Альбертам, што мяне ўжо нічога не палохала. Мы баяліся толькі аказацца адно без аднаго. Хай даруе мне Бог, але я гатовая была адмовіцца ад вяртання дамоў, нават цаной жыцця родных гатова была абараняць сваё нечаканае і нялюдскае каханне. Хай пасля будзе што будзе, а сёння, цяпер і тут нам было хораша, добра і прыемна, калі можна назваць прыемнасцю кароткія і таемныя спатканні, пахапкавае каханне пасля цяжкай працы на мяккай пасцелі ў чыстай Альбертавай спальні, калі ў доме не было ягонай маці.

Я нават жартавала, называла яго на наш манер Алікам:

— Ты, Алік, нашый знак OST. А нумар мы які-небудзь прыдумаем. І тады ніхто нас не адрозніць.

— Ты памыляешся, майн лібэр Лён'я, — казаў ён. — Кахацца остарбайтарам забаронена. Нават між сабой. Калі ж даведаюцца, што гаспадар л'юбіць савецкую, то цябе забяруць ад мяне… і ад тваёй маці. Абстрыгуць твае лён'яныя валасы. За наша л'юбіць цябе могуць аддаць у публічны дом, а мяне ў канцлагер...

Лепей ён не гаварыў бы гэтага, бо я ўсё адно не ўсё зразумела, але што нас чакацьме — ведала. Алік жа нібыта паддаваў страху. Расказаў яшчэ, што існуе ўказанне іхняй нацыянал-сацыялістычнай партыі аб стварэнні спецыяльных бардэляў для прывезеных рабочых іншых нацыянальнасцей. Каб захаваць чысціню нямецкай расы. І калі я траплю туды, то мне будзе зусім кепска, а ён без мяне не захоча жыць.

Неўзабаве мае родныя пачалі заўважаць, што я нейкая не такая, як была раней і як яны ўсе. Больш жыццярадасная, нават пажартаваць любіла, старання, аднак, у працы асаблівага не праяўляла: спаць хацелася. Тым не менш гаспадыня часам таемна падкідвала нам лішні кавалачак хлеба альбо бутэрброд, хоць гэта строга забаронена і магло каштаваць ёй жыцця ці высылкі ў канцлагер, што адно і тое ж.

Маці неаднойчы казала, каб я асцерагалася, бо зайздросных вушэй і вачэй надта шмат, а вяровак у немцаў хапае. Я ад усяго адмаўлялася. Ды хіба матчына сэрца падманеш. Адчувала яна, што са мной адбываецца на самай справе. Але не адгаворвала, не ўшчувала, не кляла. Хоць, што праўда, не выказвала і адабрэння.

А нам з Альбертам было хораша. Мы ўжо добра разумеліся. Нашыя пачуцці не прыцьмявалі. Небяспека і экстрэмальныя ўмовы толькі дадавалі сустрэчам рамантычнасці. Аднойчы ён падараваў мне тоненькі залаты пярсцёнак. Я спалохана адмаўлялася, адпіхвала яго, але Алік настойваў: на памяць пра нашае л'юбіць, казаў. Я схавала пярсцёнак на грудзях, у самым таемным месцы. З ім і дамоў пасля вярнулася. Праўда, давялося прадаць, калі сына Юрку лячыць трэба было: падарваўся на міне ў лесе.

Ды, на жаль, усё добрае мае ўласцівасць заканчвацца нечакана. Нечая зайздрасць не перанесла чужога шчасця.

Я моцна здзівілася, калі замест Аліка ва ўмоўленае месца прыйшоў Роберт. Як мог патлумачыў, што Альберта арыштавалі, падазраюць у зносінах з савецка-рускай рабочай сілай жаночага полу. Той адмаўляецца, але як яно далей будзе, невядома. Калі не шыбеніца, то канцлагер гарантаваны. Ён раіў уцякаць. Бо тое ж чакацьме і мяне.

Лёгка сказаць: уцякай. Але куды, калі на сотні кіламетраў адны ворагі? А сям'я? Як пакінуць маці, сясцёр? Калі ўсё ж адважылася прызнацца маці, тая не здзівіла-

ся, адказала, што пра ўсё ведае, і таксама настойвала на маіх уцёках. Перахаваешся дзе-небудзь у лесе, кажа, а там і нашых сустрэнеш. Ішоў сорак пяты год. Вайна грукатала на нямецкай зямлі.

Пакуль я вагалася, наваліліся іншыя беды. Ад галоднага тыфу памерла мая меншая сястра Гэля. Не драмаў і невядомы зайздроснік. Нас арыштавалі. Павесіць не павесілі, казалі, гаспадыня заступілася як за дбайных і працавітых. Але яе перакананне і сувязей у вышэйшых уладных эшалонах — муж калісьці быў высокім ваенным чынам — хапіла толькі на канцлагер для нас. Не ўратавала ад яго і Альберта. Я ж была радая, што высылаюць не ў бардэль.

Канцлагер Равенсбрук па сваіх жудасцях аказаўся страшней нават за халодны баўэрскі склеп. Але найгорай тое, што я страціла Альберта, сваё каханне, ягонае л'юблю. Першае, між іншым, і ўзаемнае каханне. Ды лёс, аказалася, высыпаў са свайго мяха яшчэ не ўсе выпрабаванні. Так сталася, што ў гэтым жа канцлагеры апынуўся і Альберт. Я ўбачыла яго на нямецкай палавіне, дзе германцы трымалі сваіх. Ад нечаканасці ледзь не закрычала, але спахапілася і схавалася за худыя спіны іншых. Спалохалася, што Альберт убачыць мяне безвалосай, без маёй льняной касы, і невядома што падумае. Ды чалавек заўсёды на нешта спадзяецца, нават у благім шукае лепшае. Спадзявалася і я.

Нечакана для сябе ўпотайкі ад іншых укленчыла вечарам і пачала маліцца. Ніколі раней я не рабіла гэтага. А тут імпэтна прасіла ў найвышэйшага Бога даравання жыцця найперш яму, майму Альберту, а пасля і мне. Так малілася, што, здавалася, Бог пачуе мяне і паспрыяе…

Ды, відно, не пачуў майго шаптання. Неяк пахмурным ранкам на пляцы перад нямецкімі баракамі паставілі колькі шыбеніц. Сэрца маё зайшлося ў прадчуванні нядобрага. Так і сталася. Сярод тых, каго падвялі да тых страхалюдзін, быў і Альберт. Тут я ўжо не вытрымала, схапілася за галаву і закрычала: «А-а-алі-і-ік!» Нехта ў адчаі закрыў мне рот рукой, суседзі затулілі сваімі спінамі і зашыкалі, каб змоўкла. Я ж апантана гукала, а пасля проста шаптала: «А-а-алік! А-а-а-алі-і-ік!.. Аль-берт...»

Не ведаю, ці пачуў мяне Альберт. Але ён падняў галаву, зірнуў у насупленае неба, пасля спыніў позірк на нашым баку і, здалося, прыязна ўсміхнуўся. На ўсё жыццё засела ў маёй памяці, дагэтуль стаіць перад вачыма гэтая ўсмешка чалавека, які праз хвіліну мусіць памерці.

Я сцялася. А кат узяўся за сваё звыклае рамяство. Альберту не завязвалі вачэй, у ката не было белых пальчатак і маскі: сорамна прыкідвацца, калі робіш чорную справу. Я праплакала цэлыя суткі. Мне ўсё стала абыякава, я нічога не баялася і нічога не хацела. Адно дастала Алікаў пярсцёнак і надзела на правую руку. Не паслухалася пагроз і не здымала яго цэлы тыдзень. Шчыра шкадавала, што наша каханне не завяршылася нічым выніковым, што не запачаткавалася ўва мне новае жыццё. А начамі мяне палохала Алікава ўсмешка.

Неўзабаве нас вызвалілі саюзнікі. Агітавалі застацца ў Нямеччыне альбо з'ехаць у Амерыку. Але дзе там — нас чакала роднае поле. Не прычакала.

Са слязамі ад'язджалі некалі з роднай вёскі, са слязамі ступілі цяпер на бацькоўскую зямлю, са слязамі ж адправіліся неўзабаве ў лагер для перасыльных.

Сэрца маёй маці не вытрымала, адляцела пакутніца на неба. А я знайшла ў лагеры такога ж небараку, як сама. Таксама ў нямецкага баўэра практыку праходзіў. Пабраліся. Вярнуліся ў вёску. У нашай хаціне жылі іншыя. Сяк-так агаралі новую. Але муж мой падарваўся, памёр. Адна падымала і хату, і калгас, і нашага Юрачку. Так у беспрасветнай працы і прайшло жыццё.

Адно светлае імгненне было некалі, і тое слязамі сплыло...

— Маці, маці, ты, гэтаво, аглухла ад радасці? — ужо колькі разоў гукаў Юрак. — Ведама, добры жмут марак павінны даць. Гэтаво, давай, збірайся. Пойдзем у сельсавет.

Яна схамянулася, нібыта з зачараванага сну выбавілася. На твары яшчэ блукалі рэшткі нейкай нетутэйшай усмешкі, вочы святлелі нязвыклай глыбінёй, а на твары з'яўлялася рашучасць.

— Нікуды я не пайду, — прамовіла так ціха, што і сама сабе здзівілася.

— Што? — спытаў Юрак. І было не зразумець, ці ён не пачуў, ці не мог пачутаму паверыць.

— Нікуды я не пайду, сынок, — прамовіла гучней і з цвёрдай рашучасцю ў голасе. — Не, не пайду... А ты... Ты як сабе хочаш...

— Дак хто ж мне дасць, гэтаво? — роспачна выгукнуў сын.

— Не дадуць, то й не трэба. Не збяднеем больш, чым ёсць. Коўдру залатаю, ты сяннік свежай саломай напхаеш. З мяне хопіць, — сказала, і рашучая складка лягла на лоб. Пачала скідваць коўдру, апранацца.

Юрак не пярэчыў, ведаў: калі сціснула вусны, то ўсё, канец, ніхто яе не пераканае, не змусіць памяняць свайго рашэння. Ён скрушліва скрыгатнуў зубамі і выкуліўся за дзверы.

Алесь КОЗЕЛ



# ПРА КАХАННЕ І НАОГУЛ

***Колькі разоў ні еду праз вёску Ермакі,*** столькі сумую. Цяпер тут месцамі нават асфальт, а раней восенню і вясной па плоце чапляліся, бо пасярод вуліцы ў боты набярэш. Цяпер дарога лепшая, праўда, агароджы вакол дамоў няма. А навошта яна? Большасць дамоў знікла, у астатніх ніхто не жыве. Памірае вёска — вялікі, невыказны жаль! Балюча бачыць Ермакі ўвечары, калі ўцалелыя хаты ў роспачы глядзяць цёмнымі вокнамі на пустую вуліцу, нібы пытаючыся: «За што? Чым мы вам не дагадзілі? І навошта вы перліся вылупіўшы вочы да той заходняй «культуры» і багацця? Ну і што? Дасягнулі? Цяпер задаволеныя?»

А было ж жыццё, было. Біла праз край, нягледзячы ні на якія цяжкасці. І была павага да працоўнага, адукаванага або таленавітага чалавека, а не мардатага багацея і яго тоўстага кашалька. І хаты будаваліся, а не разбураліся. І вось тут, у прыгожым садку, збіраліся па вечарах вяскоўцы. Не, не моладзь. Моладзь ішла ў калгасны клуб, дзе была бібліятэка і можна было патанчыць пад гармонік, а раз на тыдзень або ў свята «круцілі» кіно. А тут збіраліся людзі сталыя, каб паслухаць мясцовыя навіны, палова ў якіх — звычайныя плёткі, і — галоўнае — выказаць свае думкі наконт апошняга фільма пра каханне. І наогул, паспрачацца, ці бывае такое, ці не. І колькі было людзей, столькі было і меркаванняў. Бо яно і зразумела: не бывае аднолькавых характараў, як не бывае аднолькавых адпячаткаў пальцаў. І каханне заўсёды непаўторнае і ў кожнага сваё. І прыкладаў у нашай вёсцы хапала. Куды там Антаніёні!..

Па нашых, вясковых, мерках пара гэтая была не зусім звычайная. Прычына вельмі простая — жонка амаль на галаву вышэйшая за мужа. Праўда, Антось і Антаніна, так іх звалі, нічога дзіўнага ў гэтай акалічнасці не бачылі, тым больш што Антось быў не такі ўжо і маленькі, нешта пад метр семдзесят, праўда, Антаніна — добра за метр восемдзесят. Ну а што тычылася ўсяго астатняга, то сям'я спраўная на зайздрасць. Не праходзіла і тыдня, каб сусед іх хоць раз не сказаў сваёй кабеце: «Брала бы прыклад з Антаніны. Культурная жанчына, сціплая. Ніколі голасу не ўзніме. Анёл проста, а не такое звягала, як ты». За што звычайна яго ўзнагароджвалі яшчэ большым лямантам не менш чым на паўгадзіны, у якім і тлумачылася, што гэта ўсё таму, што ў Антаніны Антось — мужык спраўны і працавіты, а не такі п'янчуга і валацуга, як у яе…

Склалася так, што Антось даволі доўга не жаніўся, гадоў амаль што да трыццаці. Усе яго сябры і сяброўкі даўно не толькі пажаніліся, але і дзяцей у школу павыпраўлялі. А Антось усё нежанаты. Чаго чакае, ніхто не ведае. І хлопец нябрыдкі, хоць і не прыгажун. А калі ў яго пыталіся пра гэта, то ён заўсёды адказваў: «Вось знайду дзеўку, што мне спадабаецца — адразу ажанюся. Але трэба, каб такая была, што пагляджу — і як маланкай працяла, каб з месца не сышоў». — «Ды якую ж табе трэба, глядзі, колькі дзевак. Прыгожыя, маладыя, чаго табе, дурню, яшчэ». — «Чаго трэба, таго і трэба, — адказваў Антось. — А гэта не дзеўкі, а пстрычкі нейкія, драбнота, што зверху, што ўсярэдзіне, ты паслухай, якія ў іх інтарэсы, пра што яны гавораць — панчохі, сукенкі, чаравікі — цьфу!» І весела рагатаў. А што тут дзіўнага? І так нядрэнна чалавеку жывецца. Хата спраўная, гаспадарка, не старыя яшчэ бацькі. Сам атрымаў сярэднюю адукацыю, што па мерках пачатку 60-х меў не кожны. Курсы шафёраў, потым — трактарыстаў. Даўно ўжо хацелі яго прызначыць брыгадзірам, але Антось пакуль што не згаджаўся, казаў, што лягчэй самому штосьці зрабіць, чым каго прымусіць, і быў сапраўды майстар на ўсе рукі, і — што немалаважна — не па-вясковаму любіў чытаць. Кнігі рэгулярна браў у сельскай бібліятэцы. Бацькі нават спадзяваліся, што сын хутка ажэніцца. Бібліятэкарка маладая, даволі прыгожая дзяўчына, іхняя суседка. Але Антось нават і ўвагі на яе не звярнуў. Паціху бацькі супакоіліся, справядліва думаючы: прыйдзе час — ажэніцца, а не — дык нічога не зробіш.

Было ў яго некалькі сяброў — маладых настаўнікаў, з якімі ён і бавіў вольны час. Бо з імі можна было пагаварыць не толькі пра жыццё, але і пра кіно, літаратуру, і яны нават чыталі творы беларускіх пісьменнікаў, якіх Антось яшчэ не ведаў. Асабліва яго зацікавіў малады пісьменнік Уладзімір Караткевіч, які пісаў і вершы, і прозу. Вельмі ж прывабнай была нават назва аднаго з твораў — «Каласы пад сярпом тваім». Антось ведаў загадзя, што твор гэты не можа не быць цудоўным. Хто-хто, а ён, хлебароб, проста адчуваў, што дрэннае так не называецца. Антось не баяўся добрай спрэчкі і свой пункт гледжання адстойваў цвёрда. Вось і ў гэты раз, як толькі брыгадзір, які быў неблагім чалавекам, спраўным, з моцнай гаспадарскай жылкай, але ў адносінах да любога мастацтва павярхоўным і нават несур'ёзным, стаў выказваць свае заўвагі і нават разважаць наконт твора, Антось вельмі рэзка заўважыў:

— Слухай, Адамік, кніг ты не чытаеш, газеты скурыў, радыё ў цябе сапсавалася — сядзі, слухай моўчкі — за разумнага сыдзеш.

Адамік, наадварот, не пакрыўдзіўся, ляпнуў у адказ Антося па плячах і весела адказаў:

— Не злуй, калі ты такі разумны — растлумач.

Антось сумеўся.

— Вось прывязуць кнігу, прачытаю і дам табе. Здаецца, мне і тлумачыць нічога не спатрэбіцца, сам зразумееш.

На тым і пагадзіліся.

Вядома, у кампаніі маладых хлопцаў размовы пра жанчын займаюць не апошняе месца. Гэты раз не стаў выключэннем. І калі Антось, як заўсёды, узгадаў каханне, яскравае, як маланка, адзін з маладых настаўнікаў, вясёлы, зухаваты хлопец, сказаў:

— Ёсць такая дзяўчына, незвычайная, паехалі ў сваты!

Чым яна незвычайная, так і не дапыталіся. Сказаў толькі, што жыве яна ў вёсцы Пранчэйкава, кіламетраў за дваццаць ад Ермакоў, адкуль і ён сам быў родам.

Настаўніка закідалі пытаннямі, і ён ахвотна адказваў на ўсе. Адукаваная, скончыла педагагічнае вучылішча, але працягвае завочна вучыцца ў інстытуце. Выкладае ў малодшых класах. Разумная дзяўчына, руплівая гаспадыня, ёсць бацькі, браты і сёстры. Яна старэйшая ў сям'і. Дзве сястры ўжо замужам, а яна пакуль што не. Хоць ёй ужо дваццаць чатыры гады, па тагачасных мерках нявеста ўжо не маладая. Прыгожая. У адносінах маралі ніхто пра яе нічога дрэннага сказаць не можа, каб нават і хацеў. Чаго ж не замужам? Хто ведае, можа, таксама маланкі чакае або грымотаў, пабачым.

За сталом настала нечаканая цішыня. Малады настаўнік перакуліў кілішак, з асалодаю хрумснуў салёным агурком і, хітравата прыжмурыўшы вочы, спытаў у Антося, які сядзеў, задуменна гледзячы ў сцяну:

— Ну дык што, едзем у сваты?

Тут падняўся такі лямант, што ледзь страха ў паветра не ўзнялася.

На разгубленыя пытанні Антося: «Якія сваты, чаго, куды едзем, на чым?» — яму цвёрда адказалі:

— Не твая справа, галоўнае — ты згодзен? — І перамігнуліся з Адамікам. — Ці ты нам толькі дурыў галаву сваёй маланкай? А можа, ты дзевак баішся?

Яно і зразумела, сваты і вяселле — гэта, я вам скажу, падзея не толькі ў маштабах адной вёскі, але і ўсяго навакольля. Уявіце сабе: два дні грае гармонік, звіняць цымбалы, грукае бубен і моладзь так дае абцасамі ў зямлю, што на тым кавалку сялянскага двара гады тры нават трава не расце.

Раніцай, на золку ўсе ехалі ў Пранчэйкава. Адамік не падвёў. Старшынёў «козлік» сапраўды стаяў на стане адрамантаваны, сам старшыня быў не супраць часовай экспрапрыяцыі, а шафёр сапраўды быў Адамікаў сябра. Антось час ад часу непакоіўся і пытаў:

— Хлопцы, ну якія сваты, а раптам нас там паганым памялом пагоняць?

— Чаго ты палохаешся? — адказваў настаўнік. — Пагоняць, дык павернемся ды і паедзем, і наогул мы едзем да маіх бацькоў, а да той дзяўчыны зойдзем проста па-суседску. Спадабаецца яна табе — будзе размова, не дык не. А можа, ты ёй не спадабаешся. Ніхто і не здагадаецца пра нашы намеры.

А як жа ж — ніхто не здагадаецца! Здагадаліся, высновы зрабілі і меры прынялі. Калі зайшлі ў хату, то стол быў ужо накрыты. А маладая гаспадыня спрытна, але без мітусні пагруквала чаркамі і талеркамі.

Антось сядзеў ні жывы ні мёртвы і не зводзіў вачэй з Антаніны. Усё праўда: прыгожая, нават вельмі, зграбная і гнуткая, як маладая вярба, і яшчэ вельмі высокая. Нават калі яна сядзела за сталом, то была вышэй за ўсіх амаль на галаву. Можа, каго б гэта і засароміла, але не Антося. Ён, як зачараваны, глядзеў на яе прыгожыя, маленькія, у параўнанні з ростам, чаравічкі, рукі з доўгімі пальцамі, а калі яна нейкім неверагодна прыгожым рухам закінула непаслухмяную пасму залацістых валасоў за ружовае вушка і глянула на Антося цёмнымі вялікімі вачыма — ён прапаў... Гэты позірк дасягнуў самай глыбіні Антосевага сэрца, і ён паплыў, салодка гайдаючыся, бы ў чоўне, у невядомую блакітную даль.

За сталом завязалася размова на добра вядомыя і блізкія ўсім тэмы ўраджаю і гаспадаркі. І Антаніна нешта спытала ў Антося, а Антось стаў адказваць, бо суразмоўцам быў добрым і за словам у кішэню ніколі не лазіў.

І вось тут настала чарга Антаніны здзіўляцца, і яна слухала Антося з узнятымі бровамі і шырока расплюшчанымі вачыма. Справа ў тым, што Антось меў адзін талент, нават не талент, а дар Божы — чароўнай прыгажосці голас: нейкай невыразнай аксамітнай афарбоўкі і вельмі моцны. Знянацку Антось не разлічыў, яго голас усплыў над сталом, і ў старажытным буфеце тоненька адгукнуліся крышталёвыя кілішкі, а ў акне пакрыўджана дзынькнула шыба.

Як казаў адзін з сяброў-настаўнікаў, такім голасам можна выпрасіць што хочаш. Антось, напэўна, мог бы стаць славутым спеваком, але ў яго не было музычнага слыху. Зусім. Так бывае: калі ў чалавека якога-небудзь таленту многа, то другога часцей за ўсё бракуе. Але хапала і размовы. У Антаніны было ўражанне, быццам нехта пяшчотна гладзіць яе па спіне. Хацелася проста сядзець і слухаць. Неяк непрыкметна здарылася так, што за сталом адначасова ішлі дзве размовы. На адным рагу стала сядзелі Антось і Антаніна, а на другім — усе астатнія. І ўсе былі задаволеныя. Маладым не перашкаджалі весці сваю цікавую толькі ім адным гутарку, а астатнія выпівалі сабе ды закусвалі пад свае размовы. Гаспадарскіх тэм, дзякуй богу, хапала.

Апынуўшыся дома, Антось з шалёнымі вачыма доўга хадзіў вакол хаты, час ад часу дзіўна ўсміхаючыся, мераў глухую сцяну, якая выходзіла ў бок лесу і штосьці мармытаў сабе пад нос. Бацька, які апынуўся непадалёку, жартуючы заўважыў:

— Калі будзеш жаніцца, то сцяну можна перанесці, месца хопіць. Атрымаецца яшчэ адзін пакой.

— Ага, — згадзіўся Антось. — Вось сюды, — і стаў адмяраць крокамі.

Пасля гэтых слоў у бацькі з рота вывалілася люлька, а маці, якая ціхенька стаяла за плотам і прыслухоўвалася, упусціла з рук даёнку.

Вяселле згулялі праз месяц. Ну што тут яшчэ скажаш. Пачалі людзі жыць як людзі. Дарэчы, сцяну ў хаце перанеслі, і пакой атрымаўся прасторны і светлы, з вялікімі вокнамі. Каля аднаго з вокнаў стаяў стол, за якім Антаніна любіла працаваць, правяраць школьныя сшыткі. Не цуралася яна і гаспадарскіх спраў. У свой час з'явіліся і дзеткі. Спачатку адзін, а потым адразу двое сыноў. Антаніну паважалі. Нават тое, што ёй не далі ніякай мянушкі, ужо пра нешта гаворыць. Нават у самога Антося была. Проста так зручней. Імёны часта паўтараюцца, прозвішчы таксама, бывала, што амаль палова вёскі адно прозвішча мае. І на пытанне: «Які Антось?» — адказвалі: «Вядома, Разумнік». Мянушка і някрыўдная, але ўсё роўна ўжывалася толькі за вочы. А ў Антаніны не было, хоць спроба была. Якраз тады, калі Антось сяткаваў нараджэнне двойні. Гэта значыць сядзеў на лаўцы каля хаты іналіваў усім, хто яго віншаваў, па поўнай шклянцы, а калі хто жадаў, то і болей. І вось адзін з хлопцаў, высокі і хударлявы, як жардзіна, пасля другой шклянкі няўдала пажартаваў наконт таго, што такая, маўляў, «пранчэйкаўская кабыла» не толькі двойню, але і сямёра народзіць. Пакуль Антось апомніўся ад такой нечаканай абразы, той некалькі разоў паўтарыў, як сам думаў, вясёлы жарт. Праз імгненне «жартаўнік» ужо ляжаў у лапухах, накрыўшыся нагамі. І апамятаўся не адразу. А калі апрытомнеў, то пастараўся запаўзці глыбей у крапіву, пакуль Антося трымалі трое мужчын. І невядома, ці доўга ўтрымалі б. Потым жартаўнік больш чым два тыдні еў толькі мяккую кашку і запіваў малаком, і, паколькі ўсім пра гэта стала вядома, паўтараць той «жарт» ніхто не рызыкнуў.

Усякае бывае ў сямейным жыцці, нават калі кола гэтага жыцця коціцца павольна і спраўна. Нават звычайнае кола ад звычайных калёсаў, я заўважаў, колькі яго ні змазвай, а дзе-нідзе, на якой-небудзь ухабіне ды скрыпне. Але ніхто не бачыў, каб Антось з Антанінай моцна сварыліся, а тым больш біліся. Безумоўна, анёлам Антось не быў. Спраўны мужчына, майстар на ўсе рукі, ён часта дапамагаў знаёмым у розных справах, і калі здаралася, то і ад чаркі ў добрай кампаніі адмаўляўся не заўсёды. Меру, як кажуць, ведаў, і было гэта нячаста, але любіў ён у гэтым стане пагаварыць пра ролю мужыка ў сям'і, яго галоўную ролю. Антаніна яго звычайна не вельмі слухала, займалася сваімі справамі, а калі муж настойліва патрабаваў увагі, то брала яго за каршэнь, выстаўляла на ганак і ласкава казала: «Антосік, пайдзі, мой любы, пад паветку, я там пасцяліла. Адпачні і прыходзь вячэраць, тады і пагаворым». Антось паслухмяна ішоў пад паветку, дзе ўлетку складалася сена, толькі мармытаў сабе пад нос: «От і здаровая ж, што той трактар!» Але ў голасе не было злосці, а толькі захапленне і любоў.

Шчасце асляпляе чалавека. Парой да таго, што ён перастае тое шчасце заўважаць і забывае, што чым яно большае, тым больш яно далікатнае і крохкае. А жыццё можа нагадаць пра гэта ў самы нечаканы момант.

Антаніна нават не адразу звярнула ўвагу. Ну пабольвае трохі ў баку, ну і што. А на другі дзень нават Антось заўважыў, адразу пабег да суседкі, мясцовай знахаркі, якую ўсе звалі Малітчанка, прынёс нейкія травы, настоі. Палягчэла. А ноччу стала зусім дрэнна. Антось не разважаў ні хвіліны, ён паімчаўся на стан па машыну. І правільна зрабіў. Адзіны тэлефон — у калгаснай канторы, пакуль ты знойдзеш сакратарку, пакуль пабудзіш, пакуль адчыніш… ноч на дварэ.

Вартаўніку, які ўздумаў запатрабаваць нейкую там пуцёўку, Антось паказаў ломік і лагодным голасам спытаў: «Замок ты адчыніш ці мне сваім «ключом» гэта зрабіць?»

Аперацыю зрабілі ноччу. Звычайны апендыцыт, але час сапраўды ішоў на хвіліны. Пажылы хірург паціснуў Антосю руку і сказаў: «Малайцом, своечасова». Антось прасядзеў у шпіталі ўсю ноч. Спрабаваў прабрацца ў аперацыйную, а раніцай амаль па голай сцяне залез на другі паверх, каб зазірнуць у палату і ўпэўніцца, што ўсё ў парадку.

Ведаеце, хто ў шпіталі самы вялікі і строгі начальнік? Не? Ну, значыць, вам да гэтага часу неяк шанцавала ў жыцці. І не прыходзілася вам прыносіць перадачу хвораму родзічу ці тым больш наведваць яго ў палаце. І не даводзілася размаўляць, а тым больш прасіць аб нечым шпітальнага вахцёра.

Грозная, мажная постаць жанчыны, якая стаяла на прахадной таго шпіталя, куды Антось прывёз Антаніну, магла спыніць каго хочаш, але не Антося. Яе ён не толькі не слухаў, але і не заўважаў. А пасля таго, як вахцёрка ўбачыла, як Антось вісіць на падаконні другога паверха, яна звала яго не інакш як «шалёны вар'ят» і ў часы яго вельмі частых візітаў адступала ўбок і апантана жагналася.

Праз два тыдні шчаслівы Антось на сваёй машыне прывёз Антаніну дадому. Вось так.

А мы тут разважаем пра каханне і наогул.

Лаўрэн ЮРАГА



*Яшчэ ў XIX — пачатку XX стст. шмат якія людзі наіўна верылі, быццам адны мовы чыстыя, а другія мяшаныя, адны багатыя, а другія бедныя. Так, сёння мы разумеем, што кожная мова дасканалая і ўнікальная па-свойму. А тады Максім Багдановіч, каб паказаць гнуткасць і багацце нашай мовы, свядома практыкаваў найразнастайнейшыя паэтычныя формы.*

*Але ёсць у пісьменстве сфера, якая не ў кожнай мове асягаецца, — гэта гістарычная стылізацыя. Багдановіч сваімі празаічнымі рэчамі «Апокрыф», «Апавяданне аб іконніку і залатару…» паказаў, што ў нашай мове — з яе доўгай і няпростай гісторыяй — стылізацыі маюць вялікую, амаль неабмежаваную прастору. Нездарма ж Уладзімір Караткевіч так высока ацаніў той пачын: «Я не ведаю дагэтуль у беларускай гістарычнай літаратуры лепшага твора, чым “Апавяданне аб іконніку і залатару…” І гэта нягледзячы на тое, што “гістарычнага” ў ім — акрамя антуражу ды мовы — уласна няма, а ёсць разважанні аб мастацтве. <…> І дорага б я даў, каб напісаць некалі нешта падобнае».*

*На жаль, з часоў Багдановіча імітацыі архаічнага стылю ў айчынным пісьменстве можна палічыць па пальцах. Даецца ў знакі агульнае няведанне мовы. Не кожны пісьменнік валодае ўсімі рэсурсамі беларускага слова, а той-сёй і не здагадваецца пра іх шырыню. Таму мне было асабліва прыемна пазнаёміцца з новымі творамі Лаўрэна Юрагі, аўтара «Маладосці» яшчэ з 90-х гадоў, і адкрыць для сябе яго стылізацыі — не павярхоўныя, а зробленыя з добрым веданнем актавай мовы, цікавыя як формай, так і зместам. Дарэчы, улюбёная Юрагава тэма — містычнага, загадкавага, страшнага — бярэ свой пачатак яшчэ ад Яна Баршчэўскага, але таксама слаба і неахвотна распрацоўваецца нашымі майстрамі пяра.*

*Я ні ў якім разе не раіў бы блытаць мову гістарычнай стылізацыі і сучасную беларускую літаратурную мову — яны жывуць як розныя полюсы. Але і зводзіць беларускае пісьменства да аднаго рэгістра, да сучаснасці, не варта. «Ёсць чары у забытым старадаўным…», — сказаў паэт. Дык паспрабуем і мы адчуць водар даўнейшага беларускага слова.*

Юры ПАЦЮПА

# СЕФАРД

*Арон бэн-Егуда,* называны га-Сефардзі, прыехаў у Менск на 13 дзень месяца мая 1494 року. Места наша няўдоўзе як адзержала магдэбурскае права і таму ахвотна адчыняла свае брамы для ўсіх прыходняў, пагатоў, калі яны маглі прыспорыць майстэрку ці гандаль, а прывілеі, адзержаныя яшчэ пры Вітаўце, да часу давалі жыдом пэўнасць на бяспеку ды супакой.

Ён прыбыў надвячоркам, перад самай цеменню, і таму быў упушчаны ў муры толькі дзякуючы ахвяраванаму шчодрай рукой срэбнаму орту, які кінуў вартавым.

Уехаў у мескія брамы на андалузкім, з шалёным вокам, жарабцы; векам сталы — мусіць, пад трыццаць гадоў, у чорным гішпанскім строі з залатою тасьмой дый сам смуглы і чарнявы, пры шпадзе. За ім сунуўся наладаваны воз, і ехала колькі слугаў конна. Яго б і прызналі за гішпанца ці влоха, але ў карчме, дзе спыніўся ён нанач, бэн-Егуда загаварыў з гаспадаром на гебрайскім дыялекце, і той прызнаў свайго. Мясцовыя жыды-ашкеназіі, прыбылыя некалі з цэсарскіх земляў, мяшалі даўнейшыя гебрайскія словы з нямецкімі, ён — з гішпанскімі, але паразумецца здалелі, а пагатоў зараз выяснілася, што чужаземец ведаў і нямецкую мову. Назаўтра ён купіў дом з садам на Татарскім канцы, аказаў на запатрабаванне вознага прывілей гішпанскага караля на нашэнне шпады ды пабываў у сінагозе.

Невялікая старазаконная грамада прыняла бэн-Егуду надта зычліва. Як кажнага сефарда (а чуткі пра выгнанне жыдоў з Гішпаніі ўжо дакаціліся і да Княства) яго адразу залічылі ў знаўцы старых пісьмёнаў, медыцыны ды Кабалы, што, зрэшты, пацвердзілася ў першых жа размовах з мясцовымі кніжнікамі, якія ўсхвалілі глыбіню ягоных ведаў. Ён, аднак, трымаўся напышліва, і сэрцаў жыдоўскіх да сябе не прыхіліў. Яшчэ больш ён выклікаў непрыяццe, калі зганіў тутэйшы ашкеназійскі абрад, і сказаў, што разам із слугамі сваімі будзе маліцца ўдома паводле кастыльскага рытуалу. Больш яго ў сінагозе не бачылі; ежу ён, аднак, купляў кашэрную, а мяса — толькі ў рэзніка. Вакол дома паставіў высокі паркан, за які рэдка каго пускаў. Аднак жа ўборздзе загаварыў на мове тутэйшага люду і, падобна да іншых жыдоў, змяніў імя — стаў называцца Аронам Егудовічам.

Прыехаў ён, аднак, у Менск не ў час: неўзабаве і тут зачаліся пераследы і седыцыі. Якраз пад гэтую пару прылучылася вядомае выгнанне жыдоў з Літвы, па якім яны многа летаў не маглі сяліцца на гаспадарскіх землях. Егудовіч не ўцякаў, падобна да іншых — ён годна выехаў у падарожжа, уперад прадаўшы дом садоўніку-караіму, што і было запісана актам у кнігах кгродскіх. Калі праз шмат часу пазней даўнейшы парадак аднавіўся, вярнуўся і Егудовіч — амаль не змяніўшыся абліччам, толькі з пасівелымі крыху скроньмі ды шнарам над вокам. Тыя, хто яшчэ дзецьмі бачылі яго, на гэтую пару былі ўжо згорбленыя старыя; ён жа захаваў юнацкую паставу і моцную руку — пра што і ўведалі рабаўнікі, якія мелі неасцярогу наехаць на яго ночным зладзейскім абыча́ем пад мескімі мурамі. Казалі, што гэта ягоная Кабала дае яму вечную маладосць. Моладзь з новааселых ашкеназійскіх жыдоў хацела вучыцца ў яго, але ён, як і ўпярод, нікога не дапускаў за высокі паркан адкупленага ў сям’і памерлага караіма старога дома.

Казалі, што вярнуўся ён дзеля золата, якое закапаў перад ад’еханнем недзе ў садзе. Хлопчык Хаімка, хаваючыся ад пекара, у якога сцягнуў халу, праседзеў да ночы на таполі, і бачыў дзіўнае. Нібыта, як апусціліся на зямлю прыцемкі, выйшаў з дому Егудовіч з запаленым рытуальным сямісвечнікам ды пайшоў уздоўж паркану, час ад часу спыняючыся і шэпчучы нейкія заклёны. Мо’ сваё золата шукаў, забыўшыся, дзе закапаў. А іншыя дзейкалі, што гэта ён паркан свой зачароўваў, каб ані злодзей улезці не мог, ані агонь падступіцца. І праўда, колькі пажараў было на Татарскім канцы, а ніводнага разу Егудовічаў дом не гарэў; дый злодзеі ніколі за паркан не ўбіліся.

А агулам пра Егудовіча нямала ўсялякага казалі, і не толькі жыды. Хрысцяне палохалі ім дзяцей, а спаткаўшы ў натоўпе жагналіся. Яны лічылі, што сваё золата ён вырабіў шатанскай аль-хеміяй, а маладосць захоўвае, дадаючы ў мацу крыві няхрышчаных немаўлятаў — і калі ў каго знікала дзіця, не раз натоўп прыходзіў на ягоны двор. Ды Егудовіч пільнаваўся, і людзі, прыбыўшы, знаходзілі там ужо вознага, а часам і енерала, якія на вестку пра злачын акурат дом аглядалі, а не

знайшоўшы анічога, абвяшчалі пра тое ўсім пры тым бытным і прымушалі натоўп разыходзіцца.

Так было да пары — аж пакуль праваслаўныя з лацціннікамі не прыступілі да царкоўнай Уніі. Не ўсе, аднак, праваслаўныя ў Унію пайшлі, з якой нагоды і ўсчаліся звады ды закалоты, як агулам у гаспадарстве, так і ў самым ваяводскім месце ў Менску. Уніцкія мніхі-базыльяне, што валодалі Петра-Паўлаўскай царквою і манастыром на Нямізе, разумеючы карысць якую могуць прынесці месту жыды, пачалі іх запрашаць і сяліць на сваіх землях, што акурат межавалі з Татарскім канцом. Праваслаўныя мяшчане-дызуніты, маючы і без таго ваёўныя намеры, знайшлі яшчэ адну нагоду азліцца на унітаў, маўляў, не толькі з лацціннікамі звечаваліся, а ўжо і нехрысцяў прывячаюць. Узбухтораныя магістратам менчукі рушылі на Нямігу, каб павыганяць жыдоў і тых унітаў з места. Учынілася тады найвялікшае ў месце Менску руйнаванне, калі соткі людзей пазабівалі і дзясяткі двароў папалілі.

Неспадзявана для ўсіх згарэў і дом Егудовічаў. Жыды, што ску́піліся ля высачэзнага паркану, маючы схавацца за ім ад агню ды сшалення людскога, раптам убачылі, як ад паходні, кінутае праваслаўнымі, занялася гаспадарка, як рассыпаўся ў порах у пякельнай гарачыні сам паркан ды курчыліся ў агні, казаў бы жывыя, яблыні... Не раз потым успаміналі гэтую падзею ацалелыя ад пагрому жыдоўскія кніжнікі, і змеркавалі, што паходня была запаленая ад асвечанай у хрысцянскай царкве свечкі, таму полымя і перамагло моц кабалістычных заклёнаў. Сведчыла гэта пра сілу хрысцянства, і шмат жыдоў тады навярнулася ў праваслаўе, неўзабаве, праўда, калі ўзяло сваю моц каталіцтва, — перайшлі на лацінскую веру.

Па ўсякай руіне настае пара рабункаў і лупаў. Так было і гэтым разам — шмат дабра не пагарэла. Але на папялішчы Егудовічавага дому не знайшлі ані золата, ані каштоўнасцяў — не засталося нават абсмаленых касцей чалавека ці жывёлы. Адно што адкапаў нехта ў попеле бронзавы сямісвечнік, аздоблены нязвыклым узорам. Дзіва брала, як ён не растапіўся ў такім моцным полымі. Сямісвечнік прынеслі да алтара ў праваслаўнай царкве як сімвал-ахвяру перамогі над нявернымі, ды як наўмысна царква праз тры дні згарэла. Сведкі бажыліся, дзей занялася яна ад полымя, якое шуганула з сямісвечніка.

Сярод жыдоў, выгнаных з Менску, — калі яны пра тое даведаліся, — пайшла новая дзейка — што сефард загадзя прачытаў у кнігах жывотаў пра тую руіну і ад'ехаў пакрыёму ўначы, забраўшы здабытак і слугаў; а хрысцянам на помсту пакінуў сямісвечнік з адмысловым праклёнам. Так яно было ці не, але не адзін потым казаў, што нібыта бачыў Егудовіча ці на Замчышчы, ці ў Верхнім горадзе, а то — на Траецкай гары; але бачыў здалёку, бо блізка падысці не мог, таму не можа і прысягнуць, ці гэта запраўды быў той сефард...



*Станіслаў Валодзька нарадзіўся ў 1956 годзе ў вёсцы Падольцы Астравецкага раёна Гродзенскай вобласці. У 1987 годзе завочна скончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Працаваў на Прыбалтыйскай чыгунцы. Цяпер жыве ў Даўгаўпілсе (Латвія) і працуе ў школе. Аўтар зборнікаў паэзіі «На хвалях хвалявання», «У вачах Айчыны», кніг для дзяцей.*

Станіслаў ВАЛОДЗЬКА

# «ЗАЎЖДЫ БЯРОГ Я Ў СЭРЦЫ МАРУ...»

## РАБІНЫ

Рабіны на радзіме так гараць!
Ізноў мне цёпла з імі размаўляць.
Дзяцінства ясна помніцца тут мне —
Рабіны гронкі ўкрасай у вакне.

І ў памяці ўсплыве яшчэ не раз
Рабінавая з горыччу зара,
Як раптам загарэўся марай я,
Бо згорклаю была любоў мая.

Я ўзяў рабіны гронку на далонь, —
Мяне ўспамінаў ветрам абдало.
Зноў бачацца мне ў роднай старане
Рабіны гронкі ў небе і ў акне…

## РУЧНІК

Адбелены расой
Ручнік — жыцця аздоба.
На ім не раз хлеб-соль
Сустрэнуць часам добрым.

Кранецца струн смычок,
Вяселле ўзрушыць хату, —
На грудзі праз плячо
Ручнік павяжуць свату.

У новы ўвойдуць дом,
Каб там пражыць да скону,
Як продкі, ручніком
Ахутаюць ікону.

Хто сэрцам не маўчыць,
З мінуўшчынай гаворыць,

Раскажуць шмат аб чым
На ручніку узоры.

Як родную зямлю
У ранішнім тумане,
Да твару прытулю
Ручнік, сатканы мамай.

Патрэбна помніць нам:
Не вечныя тут людзі.
І зорны там туман
Ручнік нагадваць будзе...

**НАРАЧАНСКІ КРАЙ**

Нарачанскі край,
Запаведны край
Рад мяне сустрэць,
Рад мяне прыняць.
Лечыць сэрца мне
Зёлак медаграй
І вада спяшыць
Маю стому зняць.

Нарачанскі край,
Благаславёны край
Асяніў крылом,
Азарыў кастром!
За твой добры люд
Тост падняць я рад
І за песні, што
Паднялі настрой!

Нарачанскі край,
Партызанскі край,
Аб героях ты
Памяць беражэш.
Запявае бор,
Падпявае гай.
І гараць-трымцяць
Свечкі зор бліжэй...

Нарачанскі край,
Хлебасольны край,
Я твайго цяпла
Не змагу забыць,
Аб сустрэчы зноў
Буду марыць я, —
Твае хвалі мне
Ў грудзі будуць біць...

**ЗА РЭЧКАЙ — ПОЛЕ**

За рэчкай — поле.
Ты
Глядзіш замглёна ўдаль:
За жніўным полем тым
Магільнік ледзь відаць.

Ой, рэчанька ў журбе
За шыю абняла,
Дарожанька цябе
Да поля падвяла.

Яснее полем дзень —
Праменіцца яно,
З надзеяй да грудзей
Хінецца збажыной.

І поле з рэчкай
больш
Хвалююцца ў душы.
І ты самім сабой
Застацца тут рашыў.

Узвеем не праслыць,
Мурой не зарасці, —
Не рэчку пераплыць.
Не поле перайсці...

**СЛОВА НА ПРОВАДАХ**

Каб не упала раптам неба,
Як шмат гадоў таму
ізноў
Сляпым дажджом свінцу
і снегам,
Пякучым снегам —
Сівізной
Матулям нашым на галовы,
Вось і табе прыйшла пара

Вялікай дружбаю салдацкай
Над намі неба падпіраць!
Сваю нялёгкую дарогу,
Як скатку, несці да пары,
Каб мог спакойна люльку міру
Твой дом штораніцы курыць!
Каб падаў дождж сляпы ад шчасця
І снег — вясёлай навіной,
Каб не упала неба з часам,
Як шмат гадоў таму —
вайной!

* * *

Не маўчы, маё сумленне,
Будзь, сумленне, гаваркім,
Каб не даў я волі лені, —
Як мой продак, быў такім!

Гавары на мове роднай,
Як бяроза, як ручай, —
Каб адчайным быў заўсёды
І — мінаў мяне адчай!

І хвілінаю маўчання
Ты, сумленне, не маўчы!
Не давай заснуць начамі,
Калі ёсць чаго, —
Крычы!

Аж да вечнасці прычала,
Як бы цяжка не было,
Толькі б ты не замаўчала,
Быццам мову адняло!

## МАЯ ГІТАРА

Гітары струны зноў перабіраю,
Іх гладжу, як каханай валасы,
Якую я так доўга за барамі
Шукаў, хоць часам не ставала сіл.

Як слова не было каму прамовіць,
З гітарай, як з сяброўкай, размаўляў.
Бяседу гэту шчырую, як споведзь,
Здаецца, чулі неба і зямля.

Таму заўжды бярог я ў сэрцы мару —
Мяне таксама мара берагла, —
Бо мой адчай адпрэчвала гітара,
Што мне ніколі здрадзіць не магла.

«Ты не крыўдуй, што рук мне не хапае,
І не раўнуй!» — гітары гавару,
Калі сваю каханую, бывае,
На рукі, як маленькую, бяру.

І быццам струны зноў перабіраю,
Маёй жанчыны гладжу валасы.
Яе шукаў я доўга за гарамі
І ў Госпада рукі яе прасіў…

## ІВАЛГІ

***(Пераклад
латышскай народнай песні)***

Белай бярозы веткі
Ціха гняздо калышуць.
Івалгі крошкі-дзеткі
Сэрца матулі цешаць.

А набяруцца сілы,
Крылы яны расправяць.
Як родны край ім мілы,
Хораша заспяваюць.

Сэрцам пачуць няцяжка,
Нават адчуўшы стому.
Гэтаю песняй пташкі
Клічуць мяне дадому.

## ЯК МНОГА ПЕСЕНЬ...

***(Пераклад
літоўскай народнай песні)***

Як многа песень, мая сястрыца,
З табою разам я спець магу.
Як зоркі ў небе, як снег, іскрыцца
Літвы багацце, што берагу...

З табой ад сэрца мы дзякуй скажам
Старой хаціне ў кутку лясным.

Дзяцінства наша, юнацтва наша
Прыходзяць часта у нашы сны...

Руку падай мне, мая сястрыца,
У вочы глянем адна другой.
Літва нас поіць з адной крыніцы,
Вядзе дарогай нас дарагой...

Ёсць многа песень, мая сястрыца,
Няма на свеце нам даражэй.
Як на Ёнінес касцёр, іскрыцца
Літвы багацце, што беражэм…

* * *

Зноў прайдуся дзядоўскімі сцежкамі,
Там, дзе мроямі быў я усцешаны.
Там, дзе некалі быў я садоўнікам,
Абняліся шыпшына з дзядоўнікам...

Зноў заглядвае ў вочы мне раніца,
Як калісьці мая там абранніца.
Там, дзе я абдымаўся з дзяўчынаю,
Абняліся дзядоўнік з шыпшынаю...

**ПАДАЛА ЗОРКА...**

Падала зорка з неба,
Я загадаў жаданне.
І мне жаданне гэта
Марай вялікай стала.
Бог за маё старанне
Узнагароду даў мне:
Іскра Яго
Мне зоркай
Проста ў душу
Упала.

Часам глыбокай ноччу
Я й шчэ не змежыў вочы.
Льецца святло з акенца.
І, калі хтось заблудзіць
У непагоду, ўгледзіць
Іскру — і ўжо не збочыць,
І пуцяводнай зоркай
Бачыць акенца будзе...

Іскра пячэ і грэе.
З ёю смяюся й плачу.
З ёю маё сумленне
Болей мяне трывожыць.
З ёю знаходжу ўдачы.
Толькі хай Бог прабачыць...
Ён жа, як даў, аднойчы
Іскру пагасіць можа...

**РАЗВІТАЛЬНАЕ**

Пабывалі мы ў роднай старонцы.
Ды не кажам тужліва: «Бывай!»
Мы ў душы павязём з сабой сонца,
Як падараны нам каравай.

Шчыра дзякуем вам за гасціннасць!
Хай і вашы дні весела йдуць!
На дарожку мы келіхі ўздымем
І зноў кінем манеткі ў ваду.

Мы няпрошаны смутак адпрэчым, —
Будзем жыць і ў нашчадках вякі!
Да сустрэчы, да новай сустрэчы,
Нашы родныя і землякі!

А як вёрсты дадому адмерым,
Ў гэты бок будзем мы паглядаць.
І, калі будзем марыць і верыць,
Хутка ўбачымся зноўку, Бог дасць!

Скажам: «Дзякуем вам за гасціннасць!
Хай і вашы дні весела йдуць!»
На дарожку мы келіхі ўздымем
І зноў кінем манеткі ў ваду.

Пабягуць, нас праводзячы, рэчкі,
Памахаюць нам веткі бяроз.
Да сустрэчы, да новай сустрэчы,
Наша маці-зямля Беларусь!



Анатоль Майко нарадзіўся ў 1932 годзе на Украіне. Закончыў факультэт журналістыкі Кіеўскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Аўтар некалькіх кніг дакументальнай і мастацкай прозы.

Анатоль МАЙКО

# ПОМСТА (Галубы паміраюць у палёце)

***Аповесць***

*Янка ведаў слова «вайна». Гэта калі «чырвоныя» з яго вуліцы наступалі на «белых» з суседняй, размахваючы драўлянымі шабелькамі, уяўляючы сябе вершнікамі, выкрыкваючы «Ура!», качаючыся на зялёнай траве. А потым, стаміўшыся і вымазаўшыся, разам ішлі да ракі.*

*Ён не ведаў пакуль жорсткага сэнсу гэтага, такога кароткага і на слых нягучнага, слова ў дарослых. Але неўзабаве грымне горкая часіна, і хлопчык зразумее...*

*Вайна — гэта боль.*

*Вайна — гэта кроў.*

*Вайна — гэта слёзы.*

## I

Мама плакала. А тата, трымаючы вінтоўку на плячы, прыціскаў да сябе сыночка, выкрыкваў штосьці вясёлае, смешнае. Таксама гучна смяяліся, жартавалі іншыя дзядзькі. Здавалася, ім было так весела, нібы яны збіраліся ісці разам на рыбалку. І аркестр іграў, грымеў гучна, бадзёра, заглушаючы ўсё вакол на плошчы перад вакзалам.

Але чаму і іншыя цёткі плачуць? Тата ж сказаў, што хутка прагоняць фашыстаў туды, адкуль яны прыйшлі, правучаць так, што больш ніколі не стануць замахвацца на чужы каравай. І ўсе байцы вось-вось вернуцца да сваіх дачушак і сынкоў, зажывуць, як жылі раней. І ніхто нікога не будзе пакідаць, і нікому не давядзецца плакаць пры расстаннях. Янка ганарыўся, што так хораша гаворыць яго тата, што ўсе так уважліва слухаюць яго.

З'явіўся камандзір з наганам на рамяні, штосьці строга загадаў, і адразу змоўклі ўсе размовы. Замоўк і аркестр. А ўсе мужчыны хутка пастроіліся ў доўгі ланцужок. Як піянеры на лінейцы. Дзіўна, але тата цяпер нібы не заўважаў, што сыночак непадалёку, не здагадваўся, што той хоча сказаць яму вельмі важнае. Няўжо раззлаваўся на маму за яе слёзы?

Гэта ж несправядліва. Бо Янка ніколі не бачыў, каб мама плакала. Затое заўсёды — з усмешкай. І калі праца-

вала ў полі. І калі прыцiскала да сябе сыночка пасля чарговай «вайны» з «белымі». І калі спявала. А як хараша яна спявала!

— Тата, не сярдуй! — раптам у маўклівай цішыні крыкнуў Янка. — Мама ніколі не будзе больш плакаць. Ну праўда-праўда!

На звонкі голас, які так нечакана прагучаў у цішыні, павярнула галовы ўся шарэнга.

А да Янкі хуткімі крокамі падышоў сам камандзір. Хлопчык разгубіўся, прадчуваючы нейкае пакаранне. Але замест гэтага камандзір злёгку нахіліўся, абняў яго за плячо, павярнуўся да шарэнгі і гучна спытаў:

— Чый гэта сыночак?

— Баец Медавар! — Бацька зрабіў крок наперад, выйшаўшы са строю. — Гэта мой, таварыш камандзір. Зробім вымову…

— Навошта — вымову, баец Медавар? Ён жа правільна сказаў: «Мама ніколі не будзе больш плакаць». І ўсе мамы не павінны плакаць. Вось чаму наш святы абавязак — як мага хутчэй раздушыць фашысцкае паскуддзе і вярнуцца да сваіх сыноў. — Пасля паўзы ўдакладніў: — І да дачок — таксама. Правільна?

З гэтым пытаннем ён ужо звяртаўся да Янкі.

— Правільна, — адказаў хлопчык.

— Але ты павінен ведаць: калі баец у страі па камандзе «Смірна!», то ён не можа ні з кім размаўляць. Нават з сынам. Зразумела?

— Зразумела!

— Няправільны адказ. Трэба сказаць: «Ёсць!»

— Ёсць! — адчаканіў Янка. Але, нібы штосьці ўспомніўшы, дадаў: — Таварыш камандзір. — І, якраз так, як гэта зрабіў тата, прыклаў выцягнутую далоньку да скроні.

Усе наўкола засмяяліся. Заўсміхаліся і байцы, нібы забыўшыся пра каманду «Смірна!» А камандзір паклікаў да сябе пальцам аднаго з вайскоўцаў, што стаялі ўбаку ад яго.

— Палітрук, перадайце наш плакат вось гэтаму, — нібы вышукваў патрэбнае слова, — вось гэтаму маленькаму байцу. Ён зараз у хаце галоўны мужчына. І хай павесіць яго на самым бачным месцы ў той дзень, калі яго бацька вернецца з перамогай. Як і ўсе бацькі!

Янка ўзяў плакат. Ён быў велізарны. А на ім — магутны прыгожы баец, над галавой якога — вялікая чырвоная зорка. І ботам сваім ён прыціснуў да зямлі худзенькага фашыста з прылізанай пасмачкай на лбе, з чорнымі, як у прусака, вусікамі.

Камандзір высока падняў галаву, абвёў поглядам усю плошчу і выгукнуў:

— За нашу перамогу! За хуткую перамогу. Ура!

Не вельмі дружным было зваротнае «ўра». У асноўным прагучалі галасы тых, хто ў шарэнзе. Ды і то не зладжана…

А з чаго яму быць дружным? Ніхто ж з іх раней не трымаў вінтоўку ў руках, не ведаў толкам, як яна зроблена, як разбіраць яе, як збіраць, што такое прыцэльная стральба, як ісці ўрукапашную са штыком. Сказалі, што перад адпраўкай на фронт навучаць, як трэба біць ворагаў. Але добра, калі тыя пабягуць, убачыўшы магутнага, як на тым камандзірскім плакаце, чырвонаармейца.

Адразу няпрошана паўставала сустрэчнае пытанне: а калі не пабягуць адразу як зайцы? У іх жа таксама ёсць вінтоўкі, штыкі, патроны. Значыць, не далічацца што з таго боку, што з гэтага…

І прыроджаная сялянская, ад зямлі, інтуіцыя не падводзіла…

Ужо які дзень шугала ў агні, патанала ў дыме ад тысяч разрываў снарадаў і мін

Брэсцкая крэпасць. Жменька мужных пагранічнікаў стрымлівала наступленне на нашу тэрыторыю цэлага варожага фарміравання, аснашчанага да зубоў усімі відамі найноўшага ўзбраення.

Менавіта тут упершыню за два папярэднія гады Другой сусветнай вайны так парадзелі шэрагі нахабных захопнікаў, так усеяўся іхнімі трупамі ўсяго толькі невялікі кавалачак зямлі нашай. Фронт усё далей адкочваўся на ўсход, а тут фашысты не маглі прасунуцца ні на крок…

Але зноў пытанні. Як яны маглі так свабодна «даляцець» да самага Кіева, так беспакарана скінуць бомбы на горад, які мірна спаў? Чаму іх не дасталі зенiткі? Дзе былі нашы знішчальнікі? І наогул, калі яны такія хліпкія і слабенькія, што іх можна адной рукой змахнуць, як змахваюць са стала муху, чаму адважыліся напасці на нас — такіх моцных і згуртаваных? Штодня ж радыё паўтарала песню «Если завтра война». І што ж абяцалі паэты-песеннікі? «Загудит самолёт, застрочит пулемёт, загрохочут железные танки. И пехота пойдёт, и линкоры пойдут, и промчатся лихие тачанки».

Дый пры чым тут «жалезныя танкі», калі ў Нямеччыне ўжо стваралася браня, якую не прабівалі «ў лоб» гарматы малога калібру? І пра якія тачанкі, прыдуманыя яшчэ калісьці атаманам Махно, магла ісці гаворка ў сярэдзіне дваццатага стагоддзя? Праўда, быў у гісторыі трагічны прэцэдэнт, калі насустрач нямецкім танкам з пяхотай, якія перайшлі польскую мяжу, мужна панёсся кавалерыйскі эскадрон. Хоць у той жа Нямеччыны ўжо была створана закаваная ў браню самаходка вялікай магутнасці.

Гэтыя вясковыя хлопцы ў чырвонаармейскай форме, што мешкавата глядзелася на іх, не былі моцныя ў геаграфіі. Але калі б яны зірнулі на палітычную карту Еўропы, то жахнуліся б — амаль па кожнай са сталіц ужо прайшоўся фашысцкі бот. Варшава, Прага, Белград і вялікі Парыж. Ды і справа не толькі ў сталіцах — на немцаў ужо працавала ўсё лепшае ў еўрапейскім прамысловым комплексе: перадавыя тэхналогіі, магутныя заводы, найноўшая тэхніка. Зараз галоўнай мэтай станавілася Масква.

І нікому з іх нават не магло прыйсці ў галаву, што ў першыя трагічныя гадзіны вайны падзе духам на нейкае імгненне нават усенародны правадыр. Толькі на дзясяты дзень вайны ён звернецца да свайго народа з эпахальнымі словамі: «Братья и сёстры!..» Яны пачуюць яго. Яны павераць у яго. Яны пойдуць за ім. І ўсё ж…

Так, напад быў подлым, каварным, здрадніцкім. Здрадніцкім не толькі з пункта гледжання юрыдычнага, бо былі груба парушаныя міждзяржаўныя дамовы і пакты. Але і з пункта гледжання маральнага — невыкананыя шматлікія абяцанні. Хоць для чалавека Каўказа слова мужчыны спакон веку шанавалася найвышэй за ўсё. І не было большай ганьбы, чым не стрымаць яго. Але ў тым і выяўлялася каварства, што абяцаў, даваў слова зусім не мужчына ў прамым фізіялагічным сэнсе гэтага слова…

Але навошта было ігнараваць той відавочны факт, што вораг пасля захопу Польшчы і Чэхаславакіі ўжо зусім упрытык стаў каля нашых дзяржаўных граніц, што ўвесь час парушаў нашу паветраную прастору, што праводзіў ваенныя вучэнні на вачах у нашых пагранічнікаў?

Як сталася, што не паверылі, што не ўзялі хоць бы да ведама шматлікія паведамленні, здабытыя з неверагоднымі цяжкасцямі і рызыкай для жыцця мужнымі людзьмі ў шматлікіх краінах свету? Як атрымалася, што калі не да прамых правакатараў, то да панікёраў быў прылічаны геніяльны разведчык па прозвішчы Зорге? Гэта ён не толькі рэгулярна паведамляў пра напад, які рыхтуецца на нас, але нават дакладна назваў саму дату — 22 чэрвеня 1941-га.

навачваннем супраць Мікалая Павалы з Тэнчава, сцвярджаючы, быццам у бітве пад Каронавам ён адолеў і ўзяў яго ў палон, але той, не занадта памятаючы пра свой гонар, занядбаў з'явіцца да яго, паводле дадзенага ім абавязацельства. Але паколькі Мікалай Павала адмаўляў гэта і прапанаваў прадставіць свае апраўданні, справа была перададзена рыцарскаму суду. Калі суд, абраны са шматлікіх рыцараў таго і другога боку, адкрыў пасяджэнне, немец-ісцец, паўтарыўшы сваю скаргу і настойліва сцвярджаючы, што ён адолеў і паланіў Мікалая Павалу, патрабаваў, каб суддзі аддалі яго яму і вымусілі прызнацца ў сваім паланенні. Мікалай жа Павала, каб адолець свайго саперніка-немца яго ж зброяй і словамі, пытае, ці ёсць у яго які-небудзь доказ ці рэч, упрыгожванне, якім ён мог бы пераканаць, што яго дзёрзкае сцвярджэнне праўдзіва. «Так, ёсць», — кажа ісцец і, не марудзячы, прад'яўляе суддзям жамчужную павязку, якую, як было вядома, падчас бітвы Мікалай Павала насіў на галаве. «Вось, — сказаў немец, — тое ўпрыгожванне, якое я з цябе сарваў, адолеўшы і паланіўшы цябе». Тады Мікалай Павала, моцна ўзрадаваны тым, што яго сапернік трапіў туды, куды ён жадаў, кажа: «У народаў, суддзі, быў і ёсць звычай, які выконваецца здаўна і да нашых часоў, а менавіта — што калі тыя, якія змагаюцца падчас рыцарскіх дзеянняў, бітваў, губляюць павязкі, упрыгожванні і падобныя знакі высакароднасці, іх маюць звычай хапаць і красці не людзі рыцарскага звання, занятыя бітвай, але рабаўнікі і нягоднікі. Такім чынам, прад'яўленае маім сапернікам упрыгожванне не толькі не пацвярджае, што я быў пераможаны, але выкрывае саперніка ў тым, што, пакінуўшы бой, ён разам з іншымі таго ж роду людзьмі, якім карысць, а не рыцарства ў клопат, заняўся збіраннем згубленых знакаў адрознення. Бо калі б ён адолеў і паланіў мяне, ён прадставіў бы на ваш суд іншыя доказы перамогі, належныя рыцарам, а не рабаўнікам». Суддзі, старанна разгледзеўшы заяву істца і пярэчанне адказчыка, згодным прысудам аб'яўляюць, што Мікалай Павала, каралеўскі рыцар, не быў захоплены ў палон і не быў абавязаны з'явіцца, і вызваляюць яго ад дамаганняў істца. І нават прускія суддзі пераследуюць апошняга такімі папрокамі: «Калі б ты паслухаўся нашых рад, калі мы адгаворвалі цябе ад гэтага спрэчнага суда, то пазбавіўся б ад абраз, у голас выказаных табе саeasy пернікам. Ці разумееш ты зараз, куды завяла цябе твая легкадумнасць, калі ты занядбаў нашымі радамі? Бо сапернік з вялікім для сябе гонарам увёў цябе ў цяжкую ганьбу і, уразіўшы цябе тваім жа мячом, пакінуў цябе зрынутым і зганьбаваным».

Затым, з ад'ездам Уладзіслава, караля польскага, і Аляксандра-Вітаўта, вялікага князя літоўскага, у станы сваіх войскаў, а магістра прускага ў Торунь, збор быў распушчаны.

### КАРОЛЬ УЛАДЗІСЛАЎ, АДДАЎШЫ ПАДОЛІЮ Ў ПАЖЫЦЦЁВАЕ ВАЛОДАННЕ АЛЯКСАНДРУ, ВЯЛІКАМУ КНЯЗЮ ЛІТОЎСКАМУ, РАЗМЯШЧАЕ ВОЙСКІ НА МЕЖАХ З ВЕНГРЫЯЙ І, СКЛАЎШЫ ДАМОВУ З ВЕНГЕРЦАМІ, АБ'ЯЗДЖАЕ РУСКІЯ І ЛІТОЎСКІЯ ЗЕМЛІ.

Калі заззяў наступны дзень пасля гэтай сустрэчы караля з прускім магістрам, Уладзіслаў, кароль польскі, аддае ў трыманне Аляксандру, вялікаму князю літоўскаму, Падолію, гэтую важную зямлю і частку Польскага каралеўства. Кароль адняў яе ў рыцара Пятра Уладковіца з Харбінавіц, падстолія сандомежскага, які многія гады быў яе кіраўніком і старастам. Гэта перадача была зроблена без ведама і згоды біскупаў і вяльможаў Польскага каралеўства, што выклікала з іх боку моцнае раз-

дражненне і незадаволенасць, бо кароль недастаткова ўзважыў будучыя разлады, якія могуць адбыцца з-за гэтага ў Польскім каралеўстве. Распусціўшы ў той жа дзень усё свае войска, як польскае, так і літоўскае, кароль Уладзіслаў пакідае свой стан і начуе ў Юніўладзіславіі. Адгэтуль жа праз Ленчыцу, Пётркаў і Апатаў ён прыбыў у Сандомеж. Дзень мясапуста ён праводзіць у Сандомежы разам са сваёю жонкаю, каралеваю Ганнай, якая прыбыла туды па яго выкліку. Імкнучыся, аднак, каб межы яго каралеўства, Польшчы, былі абаронены з боку Венгерскага каралеўства, ён пасылае туды ахоўныя атрады, якія, не здавольваючыся засцераганнем меж Польскага каралеўства, уварваліся ў межы Венгерскага каралеўства, раздзіраючы гарады, вёскі і сёлы шматлікімі рабаваннямі і пажарамі. Але рыцар Завіша Чорны з Гарбова, які быў прыдворным набліжаным як польскага, так і венгерскага каралёў, выступіў пасрэднікам паміж незадаволенымі каралямі і, здзейсніўшы некалькі паездак туды і сюды, прывёў да згоды, дзякуючы свайму выключнаму розуму, варожыя сэрцы каралёў.

Правёўшы маслены тыдзень у Сандомежы, каралева Ганна вяртаецца ў Кракаў. Уладзіслаў жа, кароль польскі, адпраўляецца ў Холмскую зямлю і, знаходзячыся каля Любомлі і Любохні ажно да серадапоснага тыдня, рупліва аддаецца паляванню.

Тым часам Завіша Чорны пасля розных перамоў дамагаецца заключэння паміж абодвума каралямі дамовы пра перамір'е тэрмінам да дня святога Марціна. Атрымаўшы пацвярджэнне перамір'я, кароль польскі Уладзіслаў, які заўсёды падазраваў венгерскага караля Жыгімонта ў варожых намерах і лічыў небяспечным адлучацца надоўга, упершыню са спакойнай ад асцярог душой, пакінуўшы па заканчэнні серадапоснага тыдня Холмскую зямлю, адправіўся ў Літву, якую ўжо даўно гарэў жаданнем пабачыць. Там кароль правёў усю вясну і лета, аб'язджаючы землі Літвы і Русі, усюды суправаджаемы вялікім князем Аляксандрам. Узышоўшы затым на карабель у Вільні, ён прыбыў у Коўна і, адтуль праехаўшы ў Юдборг, з захапленнем аддаваўся там некаторы час паляванню.

### СЦЯГІ КРЫЖАКОЎ ВЫВЕШВАЮЦЦА Ў КРАКАЎСКІМ КАФЕДРАЛЬНЫМ САБОРЫ.

Прыбыўшы з Леаполя да дня святога Марціна ў Непаломіцы і правёўшы тут пятнаццаць сутак, Уладзіслаў, кароль польскі, у дзень святой Кацярыны адправіўся пешшу ў Кракаў пакланіцца трунам святых Станіслава, Венцаслава і Фларыяна. Суправаджаемы мноствам біскупаў і вяльможаў, якія неслі разгорнутыя сцягі, захопленыя ў крыжакоў у вялікай бітве, ён уступіў перш у горад Казімеж і прыйшоў на Скалку[1]. Пакланіўшыся там астанкам святых, ён падняўся далей у Кракаўскі замак да кафедральнага сабора (перад ім неслі сцягі крыжакоў) і ў Кракаўскім кафедральным саборы святога Станіслава ўсклаў у знак вялікай перамогі ўсе сцягі крыжакоў. Гэтыя сцягі вісяць і дагэтуль па правую і па левую руку ад увахода, уяўляючы як мясцовым жыхарам, так і прыезджым пышнае відовішча, якое азначае вечны трыумф караля і паразу крыжакоў.

[1] Казімеж — горад недалёка ад Кракава, зараз раён Кракава. Скалка — старажытнае паселішча вышэй Казімежа, зараз таксама ў межах Кракава. Па паданні, у касцёле на Скалцы быў забіты каралём Баляславам II кракаўскі біскуп Станіслаў (гл. № 6/2010, 1410 г., ст. 86, заўв. 2). У капліцы касцёла сярод грабніц іншых найбуйнейшых дзеячаў польскай культуры знаходзіцца грабніца Длугаша.

Пяцьдзесят адзін сцяг ворагаў-крыжакоў, занесеных тады ў кракаўскі храм, больш славутага і прыгожага за які няма ў Польшчы, надалі храму бляск і прыгажосць, і палякі павінны зберагаць іх, і захоўваць навекі як помнік, і наўзамен струхлелых ткаць новыя, каб дзеля бязмернага і неверагоднага бою і трыумфу, атрыманага пад Грунвальдам, перад вачамі знаходзілася сведчанне такой вялікай перамогі і заўсёды б паўставалі яе часткай тыя самыя сцягі[1].

Тады ж было пастаноўлена агульным указам Уладзіслава, караля польскага, і ўсімі царкоўнымі і свецкімі саслоўямі заснавана па аднадушным жаданні і згодзе адзначаць дзень рассейвання апосталаў ва ўсім каралеўстве Польскім як вялікае і ўрачыстае свята. І хай бацькі навучаюць дзяцей сваіх, і ўнукаў, і праўнукаў, і ўсіх наступных нашчадкаў выконваць і захоўваць вечную памяць пра гэты дзень, у які літасць Божая явіла ў славе міласэрнасць сваю да народа і племя польскага; і хай усе цэрквы, як гарадскія, так і сельскія, якія існуюць у Польскім каралеўстве, адзначаюць з адмысловай урачыстасцю набажэнствамі, і абеднямі, і хрэснымі хадамі, і разам з вернікамі славяць дзень гэтай вялікай перамогі і ўзносяць Богу бязмерныя падзякі за дабрадзейства, падараванае ім польскаму племю.

[1] Вывешаныя ў саборы на Вавелі ў Кракаве трафейныя сцягі крыжакоў захоўваліся тут да канца XVI ст. Частка іх захоўвалася яшчэ і ў XVIII ст., таму што некалькі сцягоў дэманстравалася на выставе скарбаў Польскага каралеўства, наладжанай у Кракаве ў 1789 г. Маюцца звесткі, што нейкія з грунвальдскіх харугваў знаходзіліся ў 1797 г. у Ваенна-гістарычным музеі ў Вене, занесеныя туды, магчыма, удзельнікамі паўстання ў 1794 г. пад кіраўніцтвам Касцюшкі. У наш час у троннай зале былога каралеўскага палаца на Вавелі вісяць копіі грунвальдскіх сцягоў.

***Каментарыі Л. В. Разумоўскай, Б. В. Казанскага, А. П. Вашчанкі.***
***Пераклад Аляксандра ВАШЧАНКІ.***

Фелікс БАТОРЫН

# «З ДЗІВОСАЎ ДЗІВА ТЫ, ЖЫЦЦЁ ЗЯМНОЕ!»



*Фелікс Баторын нарадзіўся ў 1948 годзе ў Мінску. Скончыў Мінскі дзяржаўны мединстытут, працаваў урачом. Аўтар пяці паэтычных кніг. Перакладае з нямецкай, рускай, польскай і ідыш.*

* * *

Вецер бязгучны варушыць траву.
З купкай хмурынак плыву ў сіняву.
Плаўна лунаю, смугу калышу,
У небакрай уплятаю душу.

Толькі шукаць мяне марна між хмар:
Вока не знойдзе прытоеных мар,
Вуха паслухаць не зможа ані
Песню, што ў сэрцы жыве ў глыбіні.

Можна намацаць мяне на зямлі:
Ногі карэннем у глебу ўраслі,
Рукі зрастаюцца з веццем лясоў,
Птахі гняздзяцца сярод валасоў.

Перацякаю напорам крыві
Я цераз межы з краёў у краі.
Чую я кожнай часцінкай душы:
Людзі Зямлі, вы — мае спарышы!

Лёс падзялю я на хвілі — і вам,
Колькі змагу, без развагі аддам.
Так і ўліюся ў прастору і час
З жалем па вас і любоўю да вас.

* * *

Растрапалі вятры каляндар,
Намачыла дажджамі старонкі.
І жыву я, нібы валадар
Растрапанае, мокрай старонкі.

Эфемерная ўлада мая:
Над вятрамі й дажджамі не ўладны
Валадар, што накшталт вераб’я
У гняздзе за ляпнінай фасаднай.

Паўнамерная ўлада мая,
Бо, узяўшы звычайныя словы,
Раптам песню знітоўваю я, —
І яе хтосьці слухаць гатовы.

Апраўдаю мне дадзены дар,
Заглушаючы песняй знямогу.
Растрапаны стары каляндар
Пасыпае лісткамі дарогу.

* * *

Сонца выплюхнула шчодра
Асляпляльнае святло,
Быццам шэрай слоты ўчора
І ў паміне не было.

На крамяныя нябёсы
Аж баліць вачам глядзець.
Па траве прайшоўшы босы
Перад тым, як узляцець.

Быццам вырваўся з-за кратаў,
Распрастаў і плоць, і дух,
Захацеў крылом пакратаць
Аблачынкі цёплы пух.

Захацеў пазбыць маркоту
Цяжкіх страт і горкіх згуб,
Захацеў адчуць пяшчоту
Сарамлівых мілых губ.

Сонца выплюхнула ў ранак
Асляпляльнае святло,
Быццам смутна і пагана
Мне ніколі не было.

* * *

Хітнуўся, вохкнуў вецер — і замёр,
Завіс у пераплеценых галінах.
На звільгатнелых ад імжы цаглінах
Паволі праступіў таемны ўзор.

Бы выціснуў спакутаваны мур
З грудзей сваіх апошнія крывінкі,
А клён пачырванелыя слязінкі
Губляе, спачуваючы яму.

Так гінуць састарэлыя дамы
З кінжалам часу між цагляных рэбраў.
Іх змізарнелай памяццю не грэбуй,
Бо ў памяць ператворымся і мы.

* * *

Канатнаю дарогай павуцінкі
Над прорвай паміж яваю і мрояй
Вязуць у ранне зыркія расінкі
Рассыпанае сонца залатое.

Пад подыхамі сонечнага ветру
Абуджана зямное калыханне —
І мне відно цялеснае паветра,
І мне чутно жвіровае маўчанне.

А на вакне цяжкія зліткі восаў
Блішчаць у хатнім садзе традэсканцый
Сярод бязважка-прывідных дзівосаў,
Сатканых з найтрывалейшых
субстанцый.

З дзівосаў дзіва ты, жыццё зямное!
Свой спелю плён. А справіўшы
дажынкі,
Я незаўважна рушу ў далі мрояў
Канатнаю дарогай павуцінкі.

**БЯСКОНЦАСЦЬ**

Мкнуся душой да расінкі й да сонца я,
Быццам вясной першаквет.
Кожная кропля сусвету бясконцая,
Нібыта сам наш сусвет.

Сам я, бясконцы, працяты бясконцасцю
Душаў жывых, трапяткіх.
І немагчыма ніяк мне на скон сысці,
Тым не параніўшы іх.

Сам я паранены многімі стратамі,
Свет абрасіў я крывёй.

Не расплаціцца ніякімі платамі
Мне ні з людзьмі, ні з зямлёй.

Ані за прагу жыцця, што мне дадзена,
Ані за бліжніх любоў,
Ані за тое, што ў генах закладзена
Мне паўтарыцца наноў.

Хай завяршыць не паспею пачатае
Перш, чым мой век праміне —
Жыцці сыноўнія, жыцці ўнучатыя
Будуць працягам мяне.

Можа, раблю адкрыццё я не новае.
З ісцінай, вечна старой,
Я карані свае разгаліноўваю,
Свет запаўняю сабой.

* * *

Люблю перабіраць апалыя лісты,
На вока вызначаць былую
прыналежнасць,
Дзівіцца хараству, аплакваць
непазбежнасць —
І зноў перабіраць стракатыя пласты.

У памяці маёй лісты аджылых лёсаў
Пластуюцца штогод усё вышэй, вышэй.
Ступаю па лістах, як горасны філосаф,
І поступ мой штораз гучыць усё цішэй…

## ПАД ЦЫГАНСКІМ ДАЖДЖОМ

Паміж ноччу і раннем дажджу
інтэрмецца.
Звонка рыны пяюць, падпяваюць
рышткі.
Скрозь вясёлыя слёзы праменьчык
смяецца
І ласкоча бярозкам і ліпкам лісткі.

Я з-пад коўдры ў вакно сігануў
па-пацанску,
Ад халоднага дотыку кропляў вішчу.
Пакідайце сабе ўсе дарослыя цацкі:
Парасона не трэба, не трэба плашчу!

Шмат брыльянтаў буйных па сваёй
прастаце дам,
Шчодра іх натрасе вам праз вокны рука.
Не баюся здавацца здзяцінелым дзедам
Здзедзянелым падлеткам гадоў сарака.

* * *

Як настойліва ў шыбу маю стукацяць!
Гэта плойма начных матылькоў.
А пагасне святло — яны прэч паляцяць
Да чужых, да далёкіх агнёў.

Як шукаў я калісьці спагады твае,
Як благаў: «Прытулі, не гані!»
Але — шчоўк! — выключальнік,
і змрок настае,
І далёка чужыя агні.

* * *

Касцёр страляе злымі восамі.
На гранях зыбкіх, цёмных вод
Абстрактныя карціны ў возеры
Ствараюць вецер і заход.

Пераліваецца ў мелодыю
Філасафічны шум хваін.
І запрашае нас да одуму
Няспешны, ціхі плёск хвілін.

* * *

Вокамгненнай была сутычка
Дзвюх нябесных стыхій паганскіх:
Пракудахтала навальнічка,
Сыпанула дажджом цыганскім
І, прагнаная летняй спёкай,
Паляцела ў нязнаны край.
Толькі коратка з вадасцёка
Праспяваў ёй услед ручай.

* * *

Не трэба эмоцый,
Не трэба авацый!
Не велькае моцы —
Ды нельга здавацца.

Упартасць — не подзвіг.
А подзвіг — не мэта.
Пачніце — і пойдзе
Ці неяк, ці гэтак.

Дзе спраў завяршэнне,
Там новых пачатак.
Не трэба рашэнняў,
Не трэба пячатак.

Гайдаецца вецце,
Бялее бяроста.
Жывіце на свеце
Па людску, па-просту.

На цвёрдым базальце,
На жвіры бясплодным
Травой прарастайце,
Красуйце свабодна.

## СВІТАЛЬНЫ ПЕЙЗАЖ

Гусцеючы штохвілі, з люстра вод
Зыбучая смуга ўбірае пару,
І скрозь яе ледзь ружавее ўсход,
І скрозь яе цямнее захад шары.

У золкай непарушнай цішыні
Ні гукаў, ані фарбаў, ні абрысаў.
Раса, як снег, пакрыла камяні,
І попел тоўстай коўдрай лёг на прысак.

Прынаду мочаць вуды каля дна,
А толькі не спяшаюць брацца рыбы.
Вось скразнячок дыхнуў, нібы з акна
З неасцярожна выбітаю шыбай.

І зморшчылася цёмная вада,
Хітнуўшы, паплаўкі ў чарот пагнала.
Пакрэктваючы, качак чарада
На плёс плыве з зарослага канала.

І выбухнуў раптоўна пташы гам,
Рыўком смуга як расхінула крысы,
Вяртаючы асепленым вачам
Святло, адценні фарбаў і абрысы.






# КАСТРЫЧНІК

**1**

*75 гадоў з дня нараджэння Няхая Міхася Васільевіча (1935—?), беларускага літаратуразнаўца.*

**7**

*245 гадоў з дня нараджэння Агінскага Міхала Клеафаса (1765—1833), дзяржаўнага дзеяча Рэчы Паспалітай, кампазітара, літаратара.*

**10**

*70 гадоў з дня нараджэння (1940—2010) Тарасава Канстанціна Іванавіча, беларускага празаіка, публіцыста.*

**14**

*95 гадоў з дня нараджэння Краўчанкі Усевалада Ігнатавіча (1915—1961), беларускага празаіка, драматурга, перакладчыка.*

**19**

*120 гадоў з дня нараджэння Палуяна Сяргея Епіфанавіча (1890—1910), беларускага публіцыста, празаіка і літаратуразнаўца, аднаго з пачынальнікаў беларускай прафесіянальнай літаратурнай крытыкі.*

**20**

*90 гадоў з дня нараджэння Дорскага Сямёна Львовіча (1920—1992), беларускага перакладчыка.*

**21**

*110 гадоў з дня нараджэння Купцэвіча Фелікса Пілiпавіча (1900—1938), беларускага пісьменніка, крытыка.*

**21**

*85 гадоў з дня нараджэння Салаўя Льва Антонавіча (1925—1988), беларускага перакладчыка, літаратуразнаўца, крытыка.*

**25**

*75 гадоў з дня нараджэння (1935) Паўлава Уладзіміра Андрэевіча, беларускага празаіка, паэта.*

**26**

*105 гадоў з дня нараджэння Цітова Канстанціна Маркавіча (1905—1972), беларускага паэта, перакладчыка. Пісаў на беларускай і рускай мовах.*

* * *

*85 гадоў з часу выхаду ў свет (1925) навукова-папулярнага, краязнаўчага і метадычнага часопіса “Наш край”. Выдаваўся да 1930 г.*

*80 гадоў з часу стварэння (1930) Беларускай студыі оперы і балета. У маі 1933 г. рэарганізавана ў Дзяржаўны тэатр оперы і балета БССР.*



***Павел Паўлавіч БАРАДЗІН, Дзяржаўны сакратар Саюза Беларусі і Расіі (са студзеня 2000 г.), нарадзіўся 25 кастрычніка 1946 г. у горадзе Шахунья Горкаўскай (цяпер — Ніжагародскай) вобласці. Вучыўся ў Маскоўскім інстытуце хімічнага машынабудавання, закончыў эканамічны факультэт Ульянаўскага сельскагаспадарчага інстытута і Хабараўскую ВПШ.***

***Пасля заканчэння інстытута шмат гадоў працаваў на Крайняй Поўначы на самых розных пасадах. У 1990 годзе быў абраны народным дэпутатам РФ. Перайшоў на пастаянную працу ў Вярхоўны Савет. З вясны 1993 – у Адміністрацыі Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі: першы намеснік начальніка, затым — начальнік Галоўнага сацыяльна-вытворчага ўпраўлення. З лістапада 1993 г. па студзень 2000 г. — кіраўнік справамі Прэзідэнта РФ.***

***Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Расійскай Федэрацыі.***

***Узнагароджаны ордэнам «За заслуги перед Отечеством» II ступені (1996 г.), ордэнам Францыска Скарыны (2001), ордэнам Пашаны (2001), ордэнам Дружбы народаў (2006), Ганаровай граматай Урада Расійскай Федэрацыі (2006 г.).***

***Жанаты. Мае шасцёра дзяцей.***

# РАКА ЖЫЦЦЯ З ВЫСОКІМІ БЕРАГАМІ

Як ніколі віруе свет, падмацаваны высокімі тэхналогіямі, інтэлектам, шырокім дыяпазонам зносін розных краін і кантынентаў, з памкненнямі як мага лепш абсталяваць нашу планету, дзе панавала б атмасфера ўзаемаразумення, міру і чалавекалюбства. І разам з тым сучасная цывілізацыя штодзённа ўздрыгвае ад праяў тэрарызму, ад ураганных паводак, землятрусаў, пажараў, поўная жадання як мага хутчэй намацаць і ўмацаваць бяспечны грунт для далейшага развіцця пасля нядаўняга сусветнага эканамічнага крызісу. Пытанне міру і чалавекалюбства таксама застаецца адкрытым, але не адкінутым. Чалавецтва, а лепш сказаць, асобныя людзі выносяць вырашэнне гэтага пытання ці не на першы план развіцця ўсёй цывілізацыі... Вось чаму свой праект, прысвечаны праблемам сучасных дзяцей-падлеткаў, мы распачынаем расповедам пра Дзяржсакратара Саюзнай дзяржавы Паўла Паўлавіча Барадзіна, які вельмі даўно, сорак гадоў таму ўзяў за аснову свайго жыцця прынцып: дапамажы бліжняму, і Бог дапаможа табе!

Цяжка расказаць пра жыццё Чалавека, калі яно, як магутная, шырокая рака, імкліва імкнецца ў сваю далеч і ты ведаеш, што ў гэтай рацэ ёсць свой пэўны выток. Я магла б і пачаць з вытоку, але перадусім хочацца згадаць нядаўняе пятнаццаціхвіліннае выступленне Барадзіна ў Еўрапарламенце на канферэнцыі «Словы міру для Еўропы», якое чатыры разы перапынялася гучнымі




*Павел Паўлавіч Барадзін у Еўрапарламенце падчас свайго выступлення.*

апладысментамі, у той час як натхняльніку і ініцыятару гэтай канферэнцыі шаноўнаму Прэму Равату, які шмат гадоў займаецца дабрачыннай дзейнасцю, апладзіравалі толькі адзін раз пасля заключнага слова яго выступлення, ды інакш і быць не магло. «Спадар віцэ-прэзідэнт, спадар Рават, члены Еўрапейскага Парламента, паважаныя госці, дзякуй вам за ласкавае запрашэнне выступіць у гэтым прадстаўнічым еўрапейскім інстытуце і прыняць удзел у абмеркаванні асноватворных пытанняў міру і чалавекалюбства, — распачаў Павел Паўлавіч Барадзін сваё выступленне. — Гэтая тэма вельмі блізкая мне. На мой погляд, чалавекалюбства і дабрачыннасць з'яўляюцца неад'емнымі элементамі міру, яны прыносяць надзею і пачуццё годнасці тым, хто мае патрэбу ў іх. Гуманітарная дзейнасць Прэма Равата добра вядома ў Расіі. Я высока ацэньваю яго высакародную дзейнасць дзеля найбольш бедных людзей усяго свету і асабліва — дзяцей, якія маюць у гэтым патрэбу.

На жаль, у Расіі і сёння ёсць бяздомныя дзеці. Дзяржава клапоціцца пра іх, але таго, што робіцца, усё роўна недастаткова. Вось ужо сорак гадоў, як я імкнуся ў меру сваіх магчымасцей дапамагчы такім дзецям-сіротам…»

І далей у сваёй прамове Павел Барадзін расказаў пра дабрачынны вопыт свайго жыцця, які мне асабіста хочацца назваць цудадзейнымі ўчынкамі аднаго чалавечага сэрца, якое дало рэальны шанц у жыцці нават ужо не сотням, а тысячам дзяцей, якія ўпэўнена ўступілі ў сваё дарослае жыццё з пачуццём уласнай годнасці і з дастаткам. Не была абмінута ў прамове і яго дзейнасць у сацыяльнай сферы як Дзяржаўнага сакратара Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі, дзе да ліку самых прыярытэтных накірункаў адносіцца аказанне лячэбна-аздараўленчай, прафілактычнай, дыягнастычнай і рэабілітацыйнай дапамогі дзецям, якія падвергліся радыяцыйнаму ўздзеянню пасля аварыі на Чарнобыльскай атамнай станцыі. «З цягам часу гэтыя праблемы, на жаль, не перастаюць быць актуальнымі, — прамаўляў Барадзін. — Сотні тысяч беларускіх і расійскіх дзяцей і сёння пражываюць на забруджаных тэрыторыях. Мы ведаем, што ў дапаўненне да нацыянальных праграм аздараўлення такіх дзяцей разгарнуў сваю дзейнасць шэраг еўрапейскіх дабрачынных арганізацый. За кошт бюджэта Саюзнай дзяржавы таксама болей за тысячу дзяцей штогод накіроўваюцца ў лепшыя аздараўленчыя цэнтры…»

Я знаёмлюся з далейшым тэкстам прамовы Дзяржсакратара, дзе называюцца дзясяткі праграм, дзіцячых конкурсаў, фестываляў, алімпіяд школьнікаў, спаборніцтваў па самых розных відах спорту, злётаў юных турыстаў і эколагаў з Беларусі і Расіі, для правядзення якіх неабходныя сродкі выдзяляюцца Саюзнай дзяржавай, а ў думках усё вяртаюся і вяртаюся да гутаркі з Паўлам Паўлавічам Барадзіным у яго працоўным кабінеце ў Маскве на славутай Старой плошчы, дзе мне пашчасціла разам з начальнікам Дэпартамента сацыяльнай палітыкі і інфармацыйнага забеспячэння Пастаяннага Камітэта Саюзнай дзяржавы Таццянай Мікалаеўнай Кавалёвай пачуць адказы на тыя пытанні, якія



*Свята дзяцей — яго свята.*

хацелася яму задаць. І найперш пра тое, у які момант узнікла, адкуль у ім гэтая непамерна глыбокая душэўная цеплыня, гэтае жаданне працягнуць руку падтрымкі і дапамогі безабароннаму жыццю яшчэ зусім маленечкага чалавека, які прыйшоў у наш свет, не маючы ніякай апоры ў ім, але пра гэта яшчэ не ведае. Пра тое, што па нечай злой волі яму наканавана сірочае дзяцінства, ён дазнаецца пасля.

Немаўляткі часта ўсміхаюцца ў сне. У народзе кажуць, што гэта анёлы з імі забаўляюцца, а што і хто выкліча шчаслівую дзіцячую ўсмешку, калі дзіця ўважліва і дапытліва вывучае свет вакол сябе і няма каму адгукнуцца на яго першыя, закладзеныя ў ім самой прыродай гукі: ма-ма, та-та... І ці шмат хто з нас, людзей дваццаць першага стагоддзя, задумваецца над гэтым? Павел Паўлавіч Барадзін не проста задумваецца, ён — дзейнічае, ідзе на голас такой яшчэ ранімай дзіцячай душы, такога пудкага дзіцячага сэрца...

Аднойчы пачула: «Барадзін — чалавек-легенда, ён як ніхто іншы працягвае руку падтрымкі дзецям-сіротам…» Так, працягвае, але сказанага недастаткова, каб раскрыць, паказаць, колькі дзіцячых лёсаў уратавана ім, колькі дзяцей адчула гэтае цёплае і ўтульнае паняцце: сям'я! Хай сабе і праз дзіцячы дом, але дом сямейнага тыпу, які цалкам разбурае нашы ранейшыя ўяўленні пра падобныя казённыя ўстановы. Сам Павел Паўлавіч Барадзін вось што сказаў пра такія дзіцячыя дамы ўсё на той жа канферэнцыі ў Брусэлі: «...Сёння асаблівую ўвагу мы ўдзяляем двум маскоўскім дзіцячым дамам, створаным з дапамогай нашага дабрачыннага фонду «Бацькоўскі Дом», і наведваем гэтыя дзіцячыя дамы рэгулярна. Гэта так званыя сямейныя дзіцячыя дамы. Лічым, што яны — найбольш прыдатная форма дзіцячых дамоў для дзяцей, у якіх няма бацькоў. Жыццё ў такіх дзіцячых дамах набліжае іх да таго, чаго яны былі пазбаўлены з ранняга дзяцінства — сямейнай атмасферы. Адзін такі дом складаецца з шасці кватэр, другі — з васьмі. Кожная кватэра злучана з агульнай тэрыторыяй для гульняў і вучобы, такім чынам дзеці з усіх кватэр могуць кантактаваць адно з адным. У кожным доме ёсць свой уласны басейн і спартыўная пляцоўка. У штаце дзіцячага дома — урач і псіхолаг. У кожнай з кватэр



*Валянціна Аляксандраўна Барадзіна.*

ёсць мама-выхавацельніца, якая апякуе да васьмі дзяцей, як правіла, рознага ўзросту. Гэта стварае вельмі моцныя, можна сказаць сямейныя сувязі паміж дзецьмі ў перыяд іх сталення…»

Да гэтых слоў Паўла Паўлавіча хочацца дадаць адно: заснавальніцай і старшынёй папячыцельскага Савета фонду «Бацькоўскі Дом» з'яўляецца яго жонка — Валянціна Аляксандраўна Барадзіна, якая калісьці і ў Якуціі апекавалася і ўзначальвала дзіцячыя дамы.

Якуція! Тут ужо трэба звяртацца да біяграфіі Паўла Паўлавіча Барадзіна, да тых жыццёвых прыступак, што ўжо даўно знаёмы шырокаму колу жыхароў, як Расіі, так і Беларусі. Барадзін жа — той палітык, тая постаць, пра каго мала сказаць: вядомы! Ён назаўжды ўпісаны ў наш час, у нашу эпоху і нават ужо тое, што ў 2009 годзе ён стаў ганаровым грамадзянінам «Лондан-Сіці» — сусветнага фінансавага цэнтру, куды ўва-

ходзяць дзевятнаццаць мільярдэраў свету, гаворыць само за сябе. Барадзін — чацвёрты па ліку ганаровы грамадзянін. Першыя два абіраліся ў 1812 годзе, трэці — у 1899, і больш як праз сто гадоў гэтым ганаровым тытулам ушанаваны Павел Паўлавіч. Але вярнуся ў Якуцію, дзе з 1973 года Барадзін працаваў на самых розных пасадах — ад будаўніка і намесніка генеральнага дырэктара ВА «Якуцкгеалогія» да старшыні Вілюйскага райвыканкама, быў старшынёй гарвыканкама ў Якуцку, узначальваў Якуцкі гарадскі Савет народных дэпутатаў, абіраўся мэрам Якуцка... Там жа, у Якуцку, у 1975 годзе ўпершыню наведаў дзіцячы дом, пазнаёміўся з умовамі, у якіх жылі дзеці, і адразу ж пасля гэтага стаў дапамагаць тром дзіцячым дамам... З гэтага моманту абяздоленыя дзеці, дзеці-сіроты, якія па-сапраўднаму яшчэ і цеплыні чалавечай не зведалі, набылі ў яго асобе добрага чарадзея, які з няпростага будзённага побыту імкнуўся стварыць ім казку. У 1978 годзе Барадзін ужо быў намеснікам старшыні папячыцельскага Савета Якуціі.

Я адразу заўважыла, з самага пачатку нашай гутаркі, што ў Барадзіна многае можна прачытаць у вачах, зразумець па тэмбры яго голасу... Вось ён робіць паўзу, задумваецца і прамаўляе прыглушана-сцішана:

— Быў 1986 год... У Вілюйску мне давялося наведаць дзіцячы дом, які размяшчаўся ў былой канюшні.

Ён паднімае позірк... І не трэба ніякіх тлумачэнняў, я разумею, што трэба проста мець глыбокае, шчодрае на цеплыню сэрца.

Чалавеку ўласціва штосьці сумяшчаць, параўноўваць... Аддаючы шмат часу дзецям, прымаючы іх дзіцячыя трывогі і спадзяванні ў сваю душу, ці згадвалася калі-нікалі Барадзіну сваё дзяцінства? Мне цікава даведацца, у якой сям'і ён вырас, якія самыя галоўныя словы чуў ад бацькоў?

— Свайго бацьку я страціў рана, — гаворыць Павел Паўлавіч. — Ён памёр у 1964 годзе. Як і яго старэйшы брат Мікіта Фёдаравіч Барадзін, які быў знакамітым палкаводцам, ён ваяваў у час Вялікай Айчыннай вайны. Трапіў у палон, з якога яго вызвалілі амерыканцы. Прапаноўвалі амерыканскае грамадзянства, ад чаго, вядома ж, бацька адмовіўся. А вярнуўшыся дамоў, патрапіў



*Павел Паўлавіч Барадзін з дзецьмі на прыродзе.*



*Лепшае пажаданне — на ўсё жыццё.*

пад сталінскія рэпрэсіі, пасадзілі ў турму. Быў рэпрэсіраваны і дзядзька. Пасля смерці Сталіна абодвух рэабілітавалі, вярнулі вайсковыя званні...

Нарадзіўся ж Павел Паўлавіч Барадзін у горадзе Шахунья, тады Горкаўскай вобласці. Але там сям'я пражыла нядоўга. Пасля таго як бацьку арыштавалі, маці — Ліна Іванаўна Барадзіна — разам з дзецьмі пераехала спачатку ў Омск, а потым у горад Кызыл Тувінскай рэспублікі.

— У сваім раннім дзяцінстве я толькі аднойчы быў у піянерскім лагеры, — кажа Барадзін. — Кожнае лета працаваў. Увогуле, працаваць пачаў вельмі рана, у шэсць гадоў мама ўладкавала мяне ў адну з гаспадарак на падсобныя работы. Штолета працаваў і ў свае студэнцкія гады, калі вучыўся. Спачатку гэта быў Маскоўскі інстытут хімічнага машынабудавання, дзе падчас сесій усё здаваў на «пяць», а потым была вучоба на эканамічным факультэце Ульянаўскага сельскагаспадарчага інстытута.

Помню, мама ўвесь час мне казала: «Вучыцца, вучыцца і яшчэ раз вучыцца!» Што я і стараўся рабіць, дарэчы, заўжды любіў чытаць. Раней, у маладосці, за дзень мог прачытаць чатырыста старонак, пазней — дзвесце, ну а цяпер — старонак сто… Без чытання нельга ў жыцці. Што мы бачым на тэлеканалах: кагосьці забілі, некага зарэзалі… Нельга, каб дзеці такое бачылі. Яны ўбіраюць у сябе ўсё, як губка. Трэба, каб была пэўная дзяржаўная праграма, і асабліва па абяздоленых дзецях, каб да праблем, звязаных з дзецьмі, падключаліся мэры гарадоў, кіраўнікі раёнаў…

Калі я быў мэрам Якуцка, у нас былі гарады-пабрацімы на Алясцы, у Кітаі, Японіі, Германіі… Там існуе дакладна вызначаная функцыя муніцыпальнай адукацыі…

Наша гутарка зноў пераходзіць на дзяцей. Якім павінен быць клопат пра іх, каб жыццё не палохала і не збівала з тропу пасля, у іх дарослай будучыні, і што галоўнае ў іх выхаванні. Але гэта ўжо другая частка расповеда пра Дзяржсакратара Саюза Беларусі і Расіі.

# БАРАДЗІН І ДЗЕЦІ



Падчас нашай гутаркі з Паўлам Паўлавічам я запыталася ў яго, што, маўляў так, ён неаднойчы працягваў сваю дужую цёплую руку многім і многім дзецям і нават рабіў іх членамі сваёй сям'і, дык колькі ж у яго дзяцей, сваіх і прыёмных? І адразу ж пасля яго адказу зразумела ўсю нетактоўнасць гэтага свайго пытання. Барадзін адказаў, што ён ні ў якім разе не дзеліць сваіх дзяцей на родных і прыёмных. Яны ўсё роўна ўсе яго дзеці — дзеці Паўла Барадзіна, — і іх у яго шасцёра. Ёсць і сем унукаў. Сапраўды, сям'я не малая, але калі ўлічыць, што ён апякуе дваццаць пяць дзіцячых дамоў у Расіі і пяць у Беларусі, дзе ён таксама свой, родны чалавек, дык колькі ж дзяцей з яго дапамогай і падтрымкай выйшла на трывалую жыццёвую дарогу, дзе не без яго ўдзелу яны ўладкоўваліся і на працу, і абзаводзіліся ўласнай кватэрай! Дзіцячы ж дом хай сабе і вельмі ўтульны, ён усё роўна толькі часовы бераг, і без пэўнай апоры цяжка выйсці ў дарослае жыццё.

— За ўсе гэтыя трыццаць пяць гадоў нашай з Валянцінай Аляксандраўнай дабрачыннай дзейнасці толькі з Якуціі мы дапа-

маглі перабрацца ў Маскву васьмідзесяці чатыром дзецям і дапамаглі ім, як гэта і трэба ў жыцці, уладкавацца ў поўным сэнсе гэтага слова. У іх з'явіліся і свае кватэры, і праца па душы, — гаворыць Павел Паўлавіч. — Увогуле ж у Якуціі мы падтрымліваем пяць дзіцячых дамоў і, дарэчы, столькі ж у Беларусі ў Віцебскай вобласці.

— А дзе яшчэ? — пытаюся ў Барадзіна і па яго адказе разумею, што сваю дапамогу найчасцей ён скіроўвае ў дзіцячыя дамы тых мясцін, дзе калісьці пакідаў частачку сваёй душы, што незабыўнае дагэтуль. Падтрымку ад яго маюць і тры дзіцячыя дамы ў горадзе Шахунья, дзе ён нарадзіўся, і пяць — у Ульянаўскай вобласці (у Ульянаўску ён закончыў сельскагаспадарчы інстытут), і адзін — у горадзе Кызыле (там ён жыў да сямнаццаці гадоў), а яшчэ адзін — у Ленінградскай вобласці. Штогод аднаразовую падтрымку ён аказвае і дзіцячым дамам у Сібіры: у Омску, Абакане.

— У Расіі шмат прыстойных людзей, якія адгукаюцца на дзіцячую бяду і гатовы ў любы момант аказаць ім падтрымку, — гаворыць Павел Паўлавіч. — Яны дапамагаюць і дабрачыннаму фонду «Бацькоўскі дом», які ўзначальвае мая жонка Валянціна Аляксандраўна. Дарэчы, у нас ёсць пагадненне з муніцыпалітэтамі горада Масквы аб прадастаўленні нашым выхаванцам жылля па дасягненні імі васямнаццаці гадоў. Сваю падтрымку аказваюць нам і бізнес-структуры, і прыватныя спонсары, і грамадскія арганізацыі. Дапамога ад іх адчувальная, яна можа быць ад пятнаццаці да дваццаці мільёнаў расійскіх рублёў. Тут можна назваць і імёны, скажам, такіх людзей як Прэзідэнт футбольнага клуба ЦСК Яўген Гінер, прадпрымальнік Міхаіл Прохараў, Іван Абаленцаў, які ўзначальвае расійскі Аграсаюз, ды і шмат іншых, каму не абыякавы лёс нашых маленькіх грамадзян, што апынуліся ў складанай жыццёвай сітуацыі.



*Павел Паўлавіч Барадзін з будучымі чэмпіёнамі.*

Рыхтуючыся да сустрэчы з Барадзіным, я падрыхтавала некалькі пытанняў, якія неяк парушыліся самі па сабе. Барадзін расказваў пра сябе, і частка пытанняў адразу ж адпадала. А тыя, што заставаліся, ужо не ўпісваліся ў плынь размовы, што складвалася. І ўсё ж, калі наша гутарка была блізкая да свайго завяршэння, я задала адно са сваіх пытанняў:

— Павел Паўлавіч, відаць, не памылюся, калі скажу, што наша пакаленне вырастала на «Пунсовых ветразях» Аляксандра Грына, а ў нас у Беларусі — на «Палескіх рабінзонах» класіка нашай літаратуры Янкі Маўра. Гэтая пунсова-рабінзонаўская рамантыка была такой кранальна-чыстай! Хлапчукі з класа запускалі папяровага змея ў неба і падчас дажджоў пускалі папяровыя караблікі на ваду ў звычайных лужынах, бачачы ў гэтых карабліках свае вялікія караблі. Папяровыя караблікі ў наш час дзецям замянілі камп'ютарныя гульні, і кожны другі падлетак, напэўна, марыць пра свой вялікі бізнес. Ці патрэбна рамантыка дзецям новага стагоддзя? Тут можна згадаць «Вішнёвы











**1.** *У глядзельнай зале перад канцэртам.*

**2.** *На кацеры да берага мары.*

**3**. *З Валянцінай Аляксандраўнай Барадзіной і дзецьмі пасля экскурсіі.*

**4**. *Першыя дні восені, а сонца такое цёплае!*

**5.** *«Cheese», — у каго лепш атрымаецца!*

сад» Чэхава. Прыходзяць людзі новай фармацыі, і які ўжо там вішнёвы сад!..

— Нашым дзецям найперш патрэбна духоўнасць, — адказвае Барадзін, — ім трэба ўбіраць у сябе высокую культуру, увесь той культурны пласт, які мы ўсе атрымалі ў спадчыну. Вера таксама ім патрэбна, яны павінны насіць яе ў сабе, як нашы продкі. Адным словам, трэба жыць ім духам, чымсьці глыбока чалавечым і чыста сямейным, чым жылі нашы папярэднікі, перадаючы лепшае з пакалення ў пакаленне. Вось чаму мы імкнёмся, каб у кожным дзіцячым доме панаваў дух, атмасфера сям'і, без чаго няма чалавека. Трэба, каб кожнае дзіця чула і «Добрай раніцы», і «Добрай ночы»...

Мае думкі міжволі пераскочылі ў маё ранняе дзяцінства з падушачкамі, на якіх былі вышыты мамаю галубкі на зялёнай галінцы і надпіс: «З добрай раніцай!» Сапраўды, відаць, ёсць у гэтых словах нейкі магічны сэнс, своеасаблівы код, праекцыя на ўвесь наступны дзень: з добрай раніцы пачаў, добрым днём усё і завяршыцца. А Павел Паўлавіч тым часам гаворыць, што людзям трэба даваць як мага болей зямлі, каб чалавек будаваўся, мог мець вялікую заможную гаспадарку, трэба думаць, і вялікую сям'ю. «Палюбі бліжняга», — пачынаецца з сям'і, дзе любові і не вучацца, яна проста ёсць. Мне адразу ж згадалася даўняя традыцыя, якая калісьці, яшчэ ў сярэдзіне мінулага стагоддзя, жыла ў нас у Беларусі. Калі вельмі старымі станавіліся бацькі ці, барані бог, хтосьці адзін паміраў з іх, нехта з дзяцей абавязкова пераязджаў у вёску на Бацькаўшчыну, каб захаваць бацькоўскі дом, каб можна было ўсім спадчыннікам, як і пры бацьках, разпораз збірацца ў ім, адчуваць сваю прыналежнасць да яго і сваяцкія, радзінныя сувязі. Потым гэта ўсё пачало рушыцца, састарэлых бацькоў пачалі забіраць у свае гарадскія кватэры, а вясковыя хаты прадавалі ці проста закалочвалі вокны. І колькі цяпер паўпустых такіх вёсак, якія атрымалі назву неперспектыўных!

Гаворыць Барадзін і пра дзяржаўную праграму занятасці, якая павінна быць выразна акрэсленай і дзейснай. Тая ж самая цаліна ў мінулым, той жа БАМ... Найчасцей трактаваліся як энтузіязм, камсамольская рамантыка, а па вялікім рахунку такім чынам вырашалася праблема занятасці насельніцтва, даваліся рабочыя месцы, ліквідавалася беспрацоўе... З гэтым нельга не пагадзіцца.

Наша гутарка завяршаецца. Напрыканцы ў падарунак я атрымала фотаальбом: «Бородин и дети». Ніякага каментарыя, ніякіх подпісаў, адно — фотаздымкі і фотаздымкі. Ды і ці патрэбен які каментарый, калі кожны здымак гаворыць сам за сябе, дзе ў імгненні можна пабачыць цэлы расповед ці нават навелу са шчаслівым канцом, дзе ўсе жыццёвыя драмы далёка ззаду, а ёсць толькі гэтае радаснае імгненне. Іх — шмат, і героі гэтых радасных імгненняў розныя, але нязменна яны побач з ім — Паўлам Паўлавічам Барадзіным. Я дазволю сабе зрабіць пад гэтымі імгненнямі подпісы.

Мне невядома, дзе і калі фіксавала гэтыя імгненні фотакамера, але, несумненна, яны ўжо дзесьці далёка ў мінулым. Толькі вось твары дзяцей аднолькава бестурботна-радасныя, усё роўна як з будучыні, якую сваёй дабрачыннасцю ўсё набліжае і набліжае да сённяшняга жыцця Павел Барадзін, паказваючы ўсім нам сваім клопатам пра абяздоленых дзяцей: вось такімі павінны заўжды быць дзеці, праз чыюсьці любоў да сябе ім трэба верыць у свой заўтрашні дзень. І няхай ніколі іх не пакіне гэтая вера.

А сам Барадзін у сваім выступленні ў Еўрапарламенце, пра якое згадвалася ў першай частцы гэтага артыкула, пра сваю дабрачынную дзейнасць сказаў так: «...Я вельмі ганаруся дасягненнямі дзяцей з нашых дзіцячых дамоў і шчаслівы, што адыграў невялікую ролю ў прадастаўленні ім рэальнага шанцу ў жыцці. Шчыра спадзяюся, што ўсе гэтыя дзеці знойдуць «мір, пачуццё ўласнай годнасці і дабрабыт» у сваім жыцці, іншымі словамі, тыя каштоўнасці, якія выдзяляе Прэм Рават і яго фонд у якасці асноватворных і якія я цалкам падтрымліваю.

Спадзяюся, што ўсе мы можам натхніць новыя пакаленні і перадаць ім эстафету дабрачыннасці і дабра, для таго каб яны таксама дапамагалі тым, хто ў гэтым мае пільную патрэбу…»

***Раіса БАРАВІКОВА***

*Ілюстрацыйны матэрыял:*
*выкарыстаны здымкі А. Спіцкага*
*з фотаальбома «Бородин и дети».*



# Няма «брыдкіх качанят» — ёсць проста падлеткі!

*Праект ажыццёўлены пры падтрымцы
Пастаяннага Камітэта Саюзнай дзяржавы.*

# ДАЦЬ ТОЕ, ЧАГО НЕ ДАЛА СЯМ'Я

У папярэднім матэрыяле нашы чытачы пазнаёміліся з дабрачыннай дзейнасцю Дзяржаўнага сакратара Саюза Беларусі і Расіі Паўла Паўлавіча Барадзіна. Але не толькі ў дзіцячыя дамы трапляюць дзеці. Ёсць установы, у якіх штогод апынаюцца дзясяткі і дзясяткі дзяцей-падлеткаў. Адна з такіх устаноў — Магілёўскае дзяржаўнае спецыяльнае прафесійна-тэхнічнае вучылішча закрытага тыпу № 2 дрэваапрацоўкі. Чаму закрытага тыпу? — міжволі ўзнікае пытанне. І адказам на яго можа быць біяграфія аднаго з навучэнцаў, кавалачкі з якой працытую: «...Я нарадзіўся ў г. Магілёве. Не помню, як я трапіў у дзіцячы дом і там быў да шасці гадоў. Потым мяне забрала цётка... Я ў яе жыў да адзінаццаці гадоў, потым трапіў у інтэрнат з-за сваіх памылак. Цётку не слухаўся, звязаўся з сябрамі і пачаў курыць, піць, красці... У школу не хадзіў, прагульваў... З дому выносіў усялякія каштоўныя рэчы разам з грашыма. Рэчы прадаваў. Потым мяне з цёткаю выклікалі ў райвыканкам... Цётку пазбавілі апякунства, а мяне адправілі ў школу-інтэрнат у г. Касцюковічы. Адправілі як мага далей ад дому, думалі, так будзе лепш. Але гэта мне нічога не дало, я пасябраваў з другімі хлопцамі і там таксама пачаў красці... Вось так я і трапіў у гэтае вучылішча закрытага тыпу... Мне здаецца, што я зарэкамендаваў сябе ў вучылішчы добра. Закончыў тут школу, атрымаў прафесію сталяра. Зараз атрымліваю прафесію станочніка дрэваапрацоўчых станкоў... Мы з'яўляемся фанатамі гандбольнага клуба «Машэка»... Яшчэ мы ездзім у Расію ў г. Себеж. Там праходзяць Алімпійскія гульні паміж вучылішчамі закрытага тыпу... Бацькоў сваіх я ніколі не бачыў, яны памерлі. Пасля выхаду з вучылішча думаю пайсці працаваць па спецыяльнасці, а потым у войска».



*Аляксандр Міхайлавіч Белавешкін.*

Мне аднойчы давялося наведаць гэтае вучылішча: была запрошана на літаратурную сустрэчу. А вось напрыканцы сёлетняга лета паехала туды, каб пагутарыць з яго дырэктарам Аляксандрам Міхайлавічам Белавешкіным. Гэтай гутаркай і адкрываем праект «Маладосці» «Няма брыдкіх качанят — ёсць проста падлеткі».

**— Аляксандр Міхайлавіч, у жыцці, на жаль, не бывае так, як у казцы, дзе Брыдкае качаняператвараецца ў прыгажуна лебедзя... І ўсё ж... Я ўжо некалькі гадзін у вашым вучылішчы. За гэты час паспела добра агледзецца, тое-сёе пабачыла, шмат што ўразіла: тут у вас даволі**



*Майстар-клас у сталярнай майстэрні.*

**ўтульна, нават камфортна. Ды і навучэнцы вашы калі і не казачныя прыгажуны, дык самыя што ні ёсць звычайныя падлеткі, па-добраму ўсмешлівыя і ветлівыя. Дык раскажыце, хто яны і як да вас трапілі? З якога яны ўзросту тут і якая ваша асноўная задача ў працы з імі?**

— Калі коратка, дык мы маем справу з непаўналетнімі ва ўзросце ад чатырнаццаці гадоў, якія маюць патрэбу ў асаблівых умовах выхавання, навучання і ўтрымання, асуджанымі з прымяненнем прымусовых мер выхаваўчага характару ў выглядзе змяшчэння іх у спецыяльныя вучэбна-выхаваўчыя ўстановы альбо тымі, хто здзейсніў грамадска небяспечныя дзеянні, прадугледжаныя Крымінальным кодэксам нашай краіны, але не дасягнуў узросту, з якога пачынаецца крымінальная адказнасць.

**— Значыцца, асноўная ваша задача — перавыхаванне?**

— Мяркую, што так. Вучым сваіх выхаванцаў грамадзянскай культуры, фарміруем працавітасць, адказнасць, самастойнасць, творчую актыўнасць, імкненне да самаўдасканалення. Мэтаю ўсяго вучэбна-выхаваўчага працэсу з'яўляецца стварэнне ў вучылішчы гуманнага выхаваўчага асяродка, які садзейнічае развіццю асобы, яе сацыялізацыі, фарміраванню грамадзянскасці і актыўнай жыццёвай пазіцыі. Мы аказваем сацыяльна-псіхалагічную і педагагічную дапамогу навучэнцам, у якіх ёсць адхіленні ў паводзінах альбо якія адстаюць у навучанні. Усе падлеткі, што апынуліся ў нашым вучылішчы, маюць магчымасць працягнуць вучобу ў агульнаадукацыйнай школе, што размяшчаецца на нашай тэрыторыі, з шостага па дванаццаты клас. У школе ёсць дзевяць кабінетаў матэматычнага і гуманітарнага цыкла, дванаццаць класных пакояў. Усе кабінеты выдатна абсталяваныя, з патрэбнай вучэбнай і метадычнай літаратурай.

**— А якія прафесіі ў сценах вашай установы набываюць падлеткі?**

— Усё наша прафесійнае навучанне праводзіцца па вучэбных спецыяльнасцях: «Сталярныя, паркетныя і шкляныя работы», кваліфікацыя «Сталяр другога разраду», і «Эксплуатацыя абсталявання і тэхналогія дрэваапрацоўчых вытворчасцей», кваліфікацыя «Станочнік дрэваапрацоўчых станкоў другога разраду». Тэрмін навучання па кожнай спецыяльнасці — адзін год. Калі падлетак знаходзіцца ў нашым вучылішчы больш года, ён можа атрымаць абедзве прафесіі альбо павысіць разрад на трэці ці чацвёрты. Скажу таксама, што для прафесійнай падрыхтоўкі ў нас ёсць дзевяць вучэбна-вытворчых майстэрняў, з якіх восем сталярных і адна механічнай апрацоўкі драўніны, шэсць навучальных кабінетаў па прадметах спецыяльнага цыкла. Як бачыце, застаецца толькі адно: добра вучыцца і атрымліваць патрэбную ў жыцці прафесію.

**— Аляксандр Міхайлавіч, пагадзіцеся, што словы «закрытага тыпу» трошкі насцярожваюць... Вучылішча заўжды было такім? Хацелася б пачуць пра гісторыю яго стварэння.**

— Праз чатырнаццаць гадоў наша вучылішча будзе адзначаць сваё стагоддзе. Яно ўзнікла на базе Першай Усебеларускай сельскагаспадарчай камуны для беспрытульнікаў, якая была арганізавана ў 1924 годзе.

Потым жа паступова гэтая камуна ператварылася ў дзіцячую выхаваўчую працоўную калонію, гэта ўжо была ўстанова, падначаленая НКУС. У архівах нашага вучылішча нават захаваліся дакументы за подпісам Берыі. І толькі ў 1964 годзе яно было выведзена з падпарадкавання МУС і перададзена ў Міністэрства адукацыі, якому мы і цяпер падпарадкоўваемся. Калі азірнуцца назад, дык тым часам па былым СССР было рэарганізавана ў вучылішчы болей пяцідзесяці такіх дзіцячых калоній. Нават цяжка ўявіць, што калісьці на нашай тэрыторыі былі дзеці ў чорных вушанках і фуфайках.

**— Ад тых часоў у вас тут, напэўна, захавалася толькі строгая прапускная сістэма?**

— Жартуеце, ды ў тыя часы тут паўсюль быў калючы дрот! Цяпер жа да паслуг нашых падлеткаў — більярдная, бібліятэка, камп'ютары з гульнямі, фільмы, унутраныя і міжнародныя спаборніцтвы. Да ўсяго, ладзім сустрэчы з цікавымі людзьмі: пісьменнікамі, артыстамі... У нас былі ўсе алімпійскія чэмпіёны Магілёва. Мы штогод робім у вучылішчы рамонт. Вось вы сказалі, што словы «вучылішча закрытага тыпу» трошкі насцярожваюць... І самі падлеткі, калі яны толькі прыходзяць у вучылішча, успрымаюць яго як месца для адбывання пэўнага тэрміну, а потым, калі пажывуць тут, ва ўсё ўнікнуць, дык нават называюць піянерскім лагерам. Мы паўсюдна ствараем для іх камфорт, каб не было агрэсіўнага асяродка, каб усё, што акружае, выклікала станоўчыя эмоцыі. Хаця... і залатая клетка ўсё роўна застаецца клеткай. Каб разбурыць такое адчуванне, тут ужо патрэбны да іх адпаведныя адносіны...

**— І якія ж яны? Што вы маеце на ўвазе?**

— Ведаеце, у нас жалезны прынцып: калі выкладчыкі ці выхавацелі ўладкоўваюцца да нас на працу, дык у іх абавязкова павінны быць свае сем'і, свае дзеці, каб чалавек ужо ведаў, адчуваў у сабе бацькоўскія пачуцці... Многія нашы навучэнцы не зведалі на сабе гэтых пачуццяў, многія з няпоўных сем'яў, ёсць і такія, у каго бацькі пазбаўлены бацькоўскіх правоў альбо проста злосныя выпівохі... Да нашых падлеткаў трэба ставіцца па-бацькоўску, даць тое, чаго ім не дала сям'я. Асабіста я, як і ўсе нашы супрацоўнікі, кіруюся толькі такім падыходам.

**— Аляксандр Міхайлавіч, а ў вас былі выпадкі, калі да некага з навучэнцаў ставіліся з асабліваю цеплынёю, душою прывязваліся?**

— Быў адзін хлопчык... З Полацка... Саша Мялешкін. Такі вельмі маленькі ростам, а кемлівы-кемлівы... Мы з ім, здаралася, маглі гадзінамі гуляць у нарды... У сям'і, дзе ён рос, не ўсё было добра, адсюль, напэўна, і яго ўласныя няшчасці. Ён заўжды будзе ў маёй памяці. Я шкадаваў яго, больш такіх дзяцей не помню. А я ж у вучылішчы ўжо працую дваццаць тры гады, з 1987 года. Закончыў Магілёўскі педагагічны інстытут, прыйшоў працаваць сюды выхавацелем. Потым быў намеснікам дырэктара па выхаваўчай працы, ну а з 1997 года — дырэктар.

**— Праца ваша няпростая, а ці здараюцца хвіліны нейкай унутранай задаволенасці?**

— Наконт задаволенасці не ведаю, а вось вельмі вялікую адказнасць заўжды адчуваю. У любы момант можа штосьці здарыцца. І



*Пасадка саду.*



*З любімай настаўніцай на занятках.*

ваюць майстры дрэваапрацоўкі Яўген Міхайлавіч Сцефаненка і Валерый Міланавіч Бердэр...

**— Аляксандр Міхайлавіч, у нашай гутарцы, як гаворыцца, толькі адзін бок поўні — усё самае добрае! Але ёсць жа яшчэ і другі... Вашы навучэнцы не проста правапарушальнікі, я паспела пагутарыць з некаторымі з іх, яны самі разумеюць, што нават той жа самы крадзёж — гэта ўжо злачынства. Якія праблемы ўзнікаюць у вас, што найболей трывожыць?**

— Напэўна, самая вялікая трывога, калі нашы выхаванцы кідаюцца ва ўцёкі, хтосьці проста збягае... Вось тут і робіцца страшна: а раптам, пакуль яго расшукваюць нашы супрацоўнікі, здзейсніць што-небудзь непапраўнае, раптам у што-небудзь уцягнуць былыя сябрукі? Ён жа стаў ужо нам не чужым, ён наш выхаванец, і трывожышся за яго ўсім сэрцам. І яшчэ адзін момант... Калі я толькі прыйшоў на працу ў вучылішча, сярод навучэнцаў квітнела такая «дзедаўшчына!» Давялося пазмагацца, у падлеткавым узросце вельмі балюча ўспрымаецца любое прыніжэнне. Яны альбо замыкаюцца ў сабе, робяцца выключна некантактнымі, альбо перапаўняюцца агрэсіяй... Цяпер, вядома, ёсць сярод іх лідары, але няма прыніжэння годнасці іншых. Проста ёсць старэйшыя і малодшыя.

ў сценах вучылішча, і тады, калі адпускаем сваіх навучэнцаў дамоў у водпуск. Заўжды жывеш трывогай: ці не паўтораць ранейшай памылкі? Там жа ўсё тыя ж бацькі і тыя ж сябры... Падлетку лёгка падпасці пад чыйсьці ўплыў. І ўсё ж большасць з іх у нас сталее, яны робяць пэўныя высновы... І якая радасць бывае, калі ў вучылішча прыязджаюць былыя нашы выпускнікі і ў іх усё добра! А ў нас ёсць такія, кім мы можам ганарыцца. Напэўна, мала хто ведае, што наша вучылішча заканчваў славуты артыст Пётр Алейнікаў, які быў беспрытульнікам. І вось ужо сённяшнім часам наш выпускнік з Полацка Ілья Рыжыкаў закончыў у Магілёве будаўнічы тэхнікум, і неяк мне давялося ад яго пачуць: «Так, былі нулі ў галаве, а цяпер моцна зачапіўся за жыццё, ажаніўся, атрымалася добрая сям’я». Магу згадаць і яшчэ аднаго выпускніка, мінчаніна Сяргея Даражка, які завочна вучыцца ў політэхнічнай акадэміі. Вучылішча стараннямі нашых выхавацеляў, псіхолагаў, педагогаў адыграла ў іхнім жыцці, магчыма, самую галоўную ролю. А ў нас выдатныя і выхавацелі, і педагогі. Скажам, тая ж Таццяна Васільеўна Сідарава — выхавацель з вялікім стажам, аксакал у нашай сістэме, яна ўмее аб’ядноўваць нашых падлеткаў вакол сябе. Тое ж можна сказаць і пра вядучага выхавацеля Аляксандра Віктаравіча Антонава. А колькі ведаў адкрылі і далі навучэнцам Людміла Мікалаеўна Гарбушына — наш матэматык, ці, скажам, фізік Анатоль Аркадзевіч Бурачэўскі. А любоў да прафесіі ім прывіваюць

**— А спонсары, як гаворыцца нашым часам, у вас ёсць? Без грамадскай падтрымкі ўстановам, падобным вашай, напэўна ж, цяжка. Тут патрэбна асаблівая ўвага. Калі падлетка адкінулі ад сябе бацькі, скажам, ужо тым, што іх пазбавілі бацькоўскіх правоў, трэба, каб не адкідвала грамадства, каб яны адчувалі, што ў некага ёсць клопат пра іх.**

— Самы вялікі клопат мы адчуваем з боку дзяржавы, мы ж дзяржаўная ўстанова і заўжды пад увагай Міністэрства адукацыі, дзе адгукаюцца на ўсе нашы патрэбы. Некалькі гадоў таму да нас прыязджаў



*Падчас спартыўнай алімпіяды ў Себежы.*

міністр Аляксандр Міхайлавіч Радзькоў і вось, паглядзіце, які запіс пакінуў: «Кожны чалавек мае права на годнае жыццё... Патрэбны дзяржаўныя людзі з высокай адказнасцю і добрай душою. Я пабачыў такіх людзей у гэтым спецыяльным вучылішчы. І дзяцей, якія да іх цягнуцца…» Для нас гэтыя словы гучаць як падзяка. А ў гэтым годзе ў нас быў старшыня Федэрацыі гандбола Рэспублікі Беларусь Уладзімір Мікалаевіч Канаплёў і ад гандбалістаў прывёз нашым дзецям падарункі: буцы, форму, тэлевізар, мячы... Гэта была акцыя «З верай у дабро!» Толькі на чалавечай дабрыні дзяцей можна навучыць, каб і яны самі былі добрымі.

**— Аляксандр Міхайлавіч, яшчэ жні-вень, у вашай школе няма занят-каў. Камусьці з дзяцей дазволілі паехаць дамоў у водпуск, а як астатнія? Дзе і як адпачываюць вашы падлеткі? Ці, можа, усё лета знаходзяцца тут, на тэрыторыі вучылішча? Я заўважыла ў двары вялікае ажыўленне.**

— Гэта да нас прыехалі расіяне. Вось ужо дзесяць гадоў, як мы сябруем з Себежскім спецыяльным прафесійным вучылішчам № 1, што на Пскоўшчыне. Да нашага сяброўства далучылася і спецыяльнае вучылішча Санкт-Пецярбурга. Дырэктары гэтых вучылішчаў разам са сваімі навучэнцамі зараз гасцююць у нас, а частка нашых дзяцей паехала да іх. У Себежы заўжды вельмі добра адпачываецца, там надзвычай маляўнічыя мясціны. І цікавыя мерапрыемствы праводзяцца: і спартыўныя спаборніцтвы, і фестываль «Анёл на абочыне»... На Пскоўшчыне — знакамітае Міхайлаўскае, таму абавязкова там наладжваем вандроўкі па пушкінскіх мясцінах... Думаю, што і ў нас ім някепска. Мы арганізоўваем ім паездкі ў Мінск, яны наведваюць Хатынь і іншыя мемарыяльныя комплексы, а на тэрыторыі вучылішча адбываюцца спартыўныя спаборніцтвы. Як правіла, за год мы ладзім для нашых дзяцей некалькі такіх сустрэч, не менш трох. Такія кантакты садзейнічаюць выхаванню, абуджаюць у дзяцей дух сяброўства, а калі яны выйграюць, скажам, у спартыўных спаборніцтвах, тут ужо — гонар за сваю краіну, пачуццё патрыятызму.

Зразумела, што і ў нас, і ў Себежскага вучылішча, і ў Санкт-Пецярбургскага адна задача — дапамагчы дзецям, якія аднойчы спатыкнуліся, стаць на годны жыццёвы шлях, і мы да дзяцей дастукваемся праз лепшыя чалавечыя пачуцці, тое ж самае і ў нашых сяброў. Але ў Себежы, скажам, выкарыстоўваюць яшчэ і «казкатэрапію». Што гэта такое, можаце пачуць ад дырэктара Себежскага вучылішча. Калі хочаце, я наладжу вам сустрэчу з расіянамі.

*Я падзякавала Аляксандру Міхайлавічу Белавешкіну за нашу гутарку і, вядома ж, пагадзілася на яго прапанову. Сустрэча адбылася. Але гэта ўжо быў дзень наступны.*

***Гутарыла Р. БАРАВІКОВА.***



# ...ДЗЕЛЯ ЗАЎТРАШНЯЙ РАДАСЦІ

***Калі чакала гасцей Магілёўскага спецыяльнага прафесійна-тэхнічнага вучылішча закрытага тыпу № 2 у кабінеце яго дырэктара, мне схацелася па тых матэрыялах, якія былі там, пазнаёміцца з горадам Себежам і непасрэдна з Себежскім спецыяльным вучылішчам, куды найчасцей прыязджаюць на сумесныя сустрэчы навучэнцы з Магілёўскага і Санкт-Пецярбургскага спецвучылішчаў.***

***Себеж — старажытны рускі горад. Пра яго ўпершыню згадваецца ў летапісах у 1414 годзе, а ўвогуле на Себежскай зямлі людзі жывуць на працягу 5-6 тысячагоддзяў, пра што сведчаць археалагічныя раскопкі. Гэта — заходняя ўскраіна Рускай дзяржавы, што наклала адбітак на ўсю гісторыю Себежа. Падчас Паўночнай вайны Пётр I асабіста кіраваў у ім будаўніцтвам умацаванняў. Вайна з Напалеонам і Першая сусветная таксама прайшлі паўз яго, а з сёмага ліпеня 1941 па сямнаццатае ліпеня 1944 года Себеж быў акупіраваны войскамі фашысцкай Германіі. У 1992 годзе горад зноў стаў памежным. За ім — Расія, наперадзе — Беларусь.***

***Себежская зямля звязана з імёнамі дзекабрыста П. Песцеля, класікаў рускай літаратуры Г. Дзяржавіна і Д. Фанвізіна... Гэта вельмі маляўнічы край з багатай прыродай, дзе шмат азёр. Себежскае спецвучылішча якраз і знаходзіцца на беразе аднаго з гэтых азёр побач з сасновым борам, на тэрыторыі нацыянальнага парку «Себежскі» Федэральнай службы лясной гаспадаркі Расіі.***

***З пытання пра прыроду і распачалася наша гутарка, калі ў кабінет увайшлі дырэктар Себежскага спецвучылішча Сяргей Рыгоравіч Сямёнаў і Валерый Уладзіміравіч Міронаў, які ўзначальвае спецыяльнае прафесійна-тэхнічнае вучылішча закрытага тыпу ў Санкт-Пецярбургу.***

**Раіса Баравікова:** Мне хочацца спачатку звярнуцца да вас, Сяргей Рыгоравіч. Напэўна, маючы такую непаўторную ў сваім харастве прыроду, нельга было не скіравацца да казкі, каб менавіта яе зрабіць адным з асноўных метадаў выхавання цяжкіх падлеткаў, скарыстаць так званую «казкатэрапію»?



**Сяргей Сямёнаў:** Сапраўды, прырода ў нас вельмі маляўнічая, але яна толькі фон, на якім мы выхоўваем сваіх дзяцей, ну і, вядома, умацоўвае іх здароўе, нармалізуе псіхіку. Разумееце, калі я стаў дырэктарам нашага вучылішча, а было гэта пятнаццаць гадоў таму, адразу пабачыў, што ў душах нашых падлеткаў жыве крымінальная рамантыка. Яна, як іржа, раз'ела іх светабачанне і ўжо, здавалася, назаўжды. Самым мярзотным было раздзяленне выхаванцаў па «масцях», калі кожны займаў нейкую пэўную нішу, і самым прыніжаным дзецям было надзвычай цяжка. Такое становішча лічылі нармальным і самі дзеці, і нават, на вялікі жаль, некаторыя педагогі. Патрэбна была ідэя, якая б усё змяніла, змагла б павесці за сабой. Вось аднойчы раніцай, прачнуўшыся, я і адчуў — гэта «Брыдкае качаня» славутага Андэрсена! Якраз ад яго і можна адштурхнуцца, таму што і Брыдкае качаня такое ж, як і нашы падлеткі, — пакінутае, самотнае. Жыццё самога Андэрсена — яркі прыклад пераўтварэння Брыдкага качаняці ў Белага лебедзя. Шмат хто з педагогаў паверыў у поспех, і разам мы сталі ствараць мадэль

увасаблення казкі ў жыццё. Паступова, не без цяжкасцей стала адыходзіць усё крымінальнае. У дзяцей з’яўлялася звычайная юначая рамантыка — імкненне да спартыўных дасягненняў, жаданне атрымаць як мага больш глыбокія веды, яны пацягнуліся да дабра і справядлівасці.

Пачыналі мы з казкі «Брыдкае качаня», а потым усе разам падышлі і да казкі «Стойкі алавяны салдацік». Яму таксама не пашанцавала ад нараджэння. Ад лыжкі-маці не хапіла волава... Але асабліва шануецца ў нашым вучылішчы казка Андэрсена пра стары чароўны ліхтар. Адданасць, высакароднасць, павагу да старасці — вось што можна ўзяць з гэтай казкі. У нас на тэрыторыі вучылішча ёсць нават два «чароўныя ліхтары». Яны сімвалізуюць бабулю і дзядулю. Калі нашы падлеткі пакідаюць вучылішча, яны павязваюць стужачку са сваім імем на адзін з ліхтароў. І яна ўсім нагадвае пра хлопца, які пакінуў нас.

**Р. Б.:** Валерый Уладзіміравіч, зразумела, што ў вашым вучылішчы ў Санкт-Пецярбургу свой падыход да выхавання няпростых падлеткаў, дык вы знайшлі нешта сваё, свой адметны метад ці, магчыма, арыентуецеся на Себежскае вучылішча?



**Валерый Міронаў:** У Себежы знайшлі сваё і ў гэтым накірунку паспяхова працуюць. Мы ж абралі метад выхавання на кантрасце: проста даць падлетку добрае жыццё, тое, чаго ён ніколі не бачыў. У адрозненне ад Магілёўскага і Себежскага вучылішчаў у нас зусім невялікая гісторыя, мы ніколі не былі дзіцячай калоніяй, сталі спецвучылішчам закрытага тыпу толькі ў 1986 годзе на базе звычайнага прафтэхвучылішча.

**С. С.:** І разам з тым у іх ужо ёсць чаму павучыцца. З іхняга вопыту мы многае пераймаем.

**Р. Б.:** І які ж гэта вопыт, Валерый Уладзіміравіч?

**В. М.:** 1986 год... Памятаеце той час? Па тады агульнай краіне ішла перабудова ва ўсіх сферах, жыццё рэзка пагоршылася, у ім было шмат жорсткасці. Усё гэта выклікала падлеткавую злачыннасць, звычайная школа не магла яе стрымаць. Да нас прыходзілі цяжкія дзеці, на паводзіны якіх адпаведна рэагавалі выхаваццелі. І мы ад гэтага вельмі хутка адмовіліся, выйшлі з сістэмы пакарання, тут патрэбны былі новыя падыходы. Тады мы і ўзялі за асноўны прынцып у сваёй працы гуманізм, толькі гуманныя адносіны да дзяцей. Як можна казаць падлетку, што хочаш для яго толькі дабра, і ў той жа час не выказваць, не праяўляць да яго ніякай дабрыні?!

**Р. Б.:** Іншымі словамі, вы стараліся не бачыць у сваіх выхаванцах непаўналетніх злачынцаў, а ўспрымалі іх як звычайных дзяцей з няпростым і нялёгкім лёсам?

**В. М.:** Хутчэй за ўсё так! Мы імкнуліся наблізіць іх да хатняга цяпла, даць ім тое, што яны страцілі, чаго пазбавіліся ці ўвогуле ніколі не мелі. І гэта пачало спрацоўваць. У нашым вучылішчы нават высокага плота вакол яго няма, выглядае як звычайная навучальная ўстанова.

**С. С.:** Мы таксама даўно адмовіліся ад высокага плота, дакладней, у нас яго ўвогуле няма. Калі дзеці схочуць збегчы з вучылішча, яны ўсё роўна збягуць, і плот не стане для іх перашкодай.

**Р. Б.:** І часта ў вас збягаюць дзеці? Што можа быць таму прычынай?

**С. С.:** Ды што заўгодна... Хтосьці пакрыўдзіў са старэйшых дзяцей (яны да нас паступаюць з адзінаццаці гадоў, а пакідаюць вучылішча ў васямнаццаць). Ці проста камусьці схацелася дадому, не ўсе ж яны сіроты. Многа дзяцей, бацькі якіх пазбаўлены бацькоўскіх правоў. Але дзеці, і даволі часта, усё роўна іх ідэалізуюць, якімі бацькі ні былі б. Мы стараемся пры дзецях нічога кепскага не казаць пра бацькоў, хоць тыя нярэдка паразітуюць на дзецях. Ёсць маці, якім нават выгадна, каб іх пазбавілі бацькоўскіх правоў, каб дзіця атрымала дзяржаўную сацыяльную абарону. Я, напрыклад, ведаю, што ў Даніі значна болей такіх дзіцячых устаноў, як наша, адпаведна і цяжкіх дзяцей там больш, але

бацькоў бацькоўскіх правоў не пазбаўляюць. Наадварот, прымушаюць прыязджаць да дзяцей.

**В. М.:** Якімі б добрымі ні былі ўмовы ў нашых вучылішчах, як бы сардэчна мы да дзяцей не ставіліся, але ніхто з нас пасапраўднаму ім не заменіць бацькоў. Мы ж усё роўна толькі выхавацелі на розных пасадах, гэта проста наша праца, як, скажам, у доктара ў клініцы...

**Р. Б.:** А ўсынавіць ніколі нікога не хацелася?

**В. М.:** Да гэтага асабіста я, ды і ўвогуле ўсе нашы супрацоўнікі яшчэ не гатовы.

**С. С.:** Каб узяць падлетка ў сваю сям'ю — гэта надзвычай вялікая адказнасць, ды і з матэрыяльнага боку яшчэ цяжка, — у такіх установах, як наша, працуюць людзі з даволі сярэднім дастаткам.

**Р. Б.:** Сяргей Рыгоравіч, вось вы сказалі, што да вас прыходзяць дзеці з адзінаццаці гадоў, а пакідаюць вучылішча яны ў васямнаццаць. А калі тэрмін навучання ў вашым вучылішчы заканчваецца раней, куды яны ідуць? Дзе знаходзяць далейшы прытулак? Не ў кожнага ж з іх ёсць бацькі, дык нейкім чынам вы адсочваеце далейшы лёс сваіх выхаванцаў?

**В. М.:** Макаранка калісьці напісаў, што ў кожнага дзіцяці абавязкова павінна быць заўтрашняя радасць, іншымі словамі, нармальнае дарослае чалавечае жыццё. У Себежы пра гэта думаюць.

**С. С.:** Лёс мы не адсочваем, але праблему, калі падлетку пасля заканчэння тэрміну навучання ў нашым вучылішчы няма куды ісці, спрабуем вырашыць. Тут мы распрацавалі спецыяльную праграму «Домік на паўдарозе» — паміж вучылішчам і дарослым жыццём. Пакідаем падлетка на яшчэ адзін




*Канцэрт у гонар сяброў, г. Себеж.*

тэрмін навучання, і юрыдычна ён застаецца ў складзе навучэнцаў вучылішча, але жыве ў асобным спецыяльным пасёлку. Першыя крокі ў гэтым напрамку рабіліся яшчэ ў 1998 годзе, але былі беспаспяховымі. І толькі ў 2005 годзе мы атрымалі матэрыяльную і маральную падтрымку ад дзяржаўных, грамадскіх арганізацый і прыватных асоб Даніі. Увайшлі ў еўрапейскі праект, па якім пачаў рэалізоўвацца першы этап нашага ўласнага праекта «Домік на паўдарозе». Яго першымі ўдзельнікамі сталі дзесяць нашых выхаванцаў. Гэта новы крок у развіцці вучылішча.



*Падчас фестывалю «Нептун», г. Себеж.*

**Р. Б.:** А з чаго пачалося сяброўства з Магілёўскім спецвучылішчам? Як гэта ўсё адбывалася?

**В. М.:** Існуе такі выраз: «Каб спазнаць сябе, трэба спазнаць свет».

**С. С.:** Але нам усё-ткі дапамог не проста выраз... У мяне жонка беларуска, родам з Хойніцкага раёна. Аднойчы вырашылі з нашымі выхаванцамі паехаць у Беларусь, у Полацк, тым больш што гэта не надта далёка ад Себежа. Вось там і пачулі, што ў Магілёве ёсць такое ж спецвучылішча, як наша. Сталі выходзіць на яго, такім чынам і завязалася сяброўства. Мы бачым, што ёсць у Беларусі, і ацэньваем сябе. Падлетку трэба бачыць свет і параўноўваць... У нашых сумесных мерапрыемствах заўжды прысутнічае дух добрага спаборніцтва, мы імкнёмся адно перад адным выглядаць як мага лепш, ну і, вядома, дзелімся вопытам.

**В. М.:** Нашы падлеткі звычайна два летнія месяцы адпачываюць у Себежы. Калі туды пачалі прыязджаць выхаванцы з Магілёўскага спецвучылішча, яны сталі і для нашых выхаванцаў сябрамі. Цяпер мы разам з себежцамі з задавальненнем наведваем Магілёў. Беларусь, як і калісьці, стала для нас вельмі блізкай.

**С. С.:** Нядаўна я дазнаўся, што і ва Украіне, у Данецкай вобласці, ёсць такое ж спецвучылішча, як нашы — у Себежы, у Магілёве і Санкт-Пецярбургу. Трэба пачынаць наладжваць з імі кантакты. Калісьці мы ўсе жылі ў адной краіне, цяпер жывём у розных, але ў нас агульная мэта: з «Брыдкага качаняці», якое апынулася ў нейкі момант на ўзбочыне жыцця, выхаваць прыгожага «Белага лебедзя».

**Р. Б.:** Вялікі дзякуй за гутарку. Мне застаецца толькі пажадаць вашым выхаванцам высокага і шчаслівага палёту.

**P. S.** Калі я пакідала галоўны корпус Магілёўскага спецвучылішча, у яго актавай зале пасля ўручэння прызоў пераможцам спартыўных спаборніцтваў ішоў вялікі канцэрт. Падлеткі раскрывалі свае таленты на сцэне, а ў мяне наперадзе была яшчэ адна сустрэча — гутарка з педагогам-псіхолагам Святланай Мікалаеўнай Калачовай. І гэта ўжо як падказка бацькам... Пагадзіцеся, хай сабе і «Брыдкае качаня», але яно ўсё роўна застаецца падлеткам, якому трэба своечасова працягнуць сваю дужую цёплую руку, каб ён у родных сценах бацькоўскага дома вырас у «Белага лебедзя».

***Р. БАРАВІКОВА***



# ЗАЛАТЫ КЛЮЧЫК — У РУКАХ КОЖНАГА

***Пакуль чакала Святлану Мікалаеўну Калачову (яе паклікалі па нейкай пільнай справе), перагледзела свае ўчарашнія запісы ў блакноце. Не маглі не крануць некалькі старонак, дзе была занатавана кароткая гутарка пераважна з выхаванцамі Санкт-Пецярбургскага спецвучылішча, з якімі пазнаёмілася ўчора на спартыўнай пляцоўцы.***

***Арцём Паротаў вучыцца ў адзінаццатым класе вучылішча, сам з Нарыльска. Самая вялікая радасць, што нарадзіўся і жыве на планеце Зямля. Пад Нарыльскам родная Хатанга, дзе ён вельмі любіць запрагаць аленяў. Беларусь вельмі ўразіла яго — прыгожыя дамы, вельмі чыстыя вуліцы, шмат кветак...***

***Андрэй Харын у вучылішчы толькі тры месяцы, вучыцца ў дзявятым класе, ён з горада Бронніцы, што ў Маскоўскай вобласці. Марыць, калі адвучыцца, абавязкова скокнуць з парашутам. Беларусь — чароўная краіна, цудоўны Мінск, людзі ветлівыя, шмат прыгожых дзяўчат...***

***Эдуард Ільін у вучылішчы два гады і дзевяць месяцаў, вучыцца ў адзінаццатым класе, з Мурманскай вобласці. Беларусь — краіна вельмі гасцінная, можна сустрэць людзей розных нацыянальнасцей. У Расіі любяць Беларусь і беларусаў. У Магілёве другі раз, хоча вывучыць беларускую мову. Марыць пайсці служыць у пагранвойскі...***

***Анатоль Суднішчыкаў з Іванава, пятнаццаць гадоў, выхаванец Себежскага спецвучылішча. У Магілёве другі раз, вельмі добрыя людзі ў Беларусі, дзівіцца, як паўсюль чыста. Пасябраваў з беларусам Барысам, марыць стаць будаўніком, каб будаваць прыгожыя дамы...***

Напэўна, захаваю гэты блакнот у сваім архіве, вельмі кранальныя гэтыя хлапечыя прызнанні... Наўмысна не запыталася ні ў кога з іх: чаму яны апынуліся ў спецвучылішчы? Пакінула гэтае пытанне для Святланы Мікалаеўны, а калі больш дакладна, запыталася ў яе, калі яна вярнулася:

**— Дзе ж пачатак, з чаго пачынаецца для падлетка той хісткі шлях, які ў выніку і прыводзіць яго да нейкага крымінальнага ўчынку?**

— Антон Сямёнавіч Макаранка сказаў бы вам, што дзяцей выхоўвае кабінет бацькі. Усё фіксуецца і змалёўваецца з таго, як паводзяць сябе бацькі, як яны ставяцца да дзіцяці і ўвогуле да людзей. Асоба фарміруецца да дзесяці гадоў. У гэтым узросце яшчэ можна пераканаць у нечым, а пасля дзесяці — любыя перакананні не дзейнічаюць, ва ўсялякім выпадку калі ёсць відавочныя адхіленні ў паводзінах, пераконваць ужо цяжка. Ну, а самыя маленькія дзеці, да пяцігадовага ўзросту, яны ўвогуле як губка: усё ўспрымаюць без крытыкі. Расійскія вучоныя-псіхолагі правялі такі эксперымент: прапанавалі шасці-сямігадовым дзецям пагуляць у Дзень нараджэння. І тыя адразу пачалі падрабляцца пад застолле, разыгрывалі з сябе п’яных, пачыналі спяваць...

**— Ну добра, я згодна, што многае змалёўваецца з бацькоў, але жыццё нярэдка паказвае, што бываюць вельмі нават**

**добрыя бацькі, а дзіця — і не ў бацьку, і не ў маці, як быццам і няроднае. Тады застаецца адно: гаварыць пра асяродак, пра чыйсці дрэнны ўплыў.**

— Так, на падлетка можа паўплываць кампанія, дзе, як правіла, ёсць свой лідар, які можа падштурхнуць да любога ўчынку... А вы задумайцеся над тым, чаму падлетак ідзе ў тую кампанію. Значыцца, усё-ткі не знайшоў нейкага паразумення дома, сярод сваіх хатніх, блізкіх людзей. Вельмі часта бацькі робяць вялікую памылку, калі пачынаюць ушчуваць, распінаць сваё дзіця і ставіць некага іншага ў прыклад. Маўляў, і чаго ты ў нас такі бесталковы, не можаш урокаў рабіць без памарак, і спіш доўга — не дабудзіцца, і з двара прыбягаеш увесь запэцканы, а вось паглядзі, які Ванечка з суседняй кватэры. Ён і акуратны заўжды, і яго ў школе настаўнікі хваляць... Вось і ўсё! У хлапчука адразу ўзнікае нянавісць да Ванечкі, а ў адносінах да бацькоў — думкі кшталту: значыцца, лічыце, што я такі ўжо бесталковы, дык вось вам, атрымлівайце! Я яшчэ больш нараблю памарак у сшытках і заўжды буду са школьнага стадыёна прыбягаць брудным! З гэтага і пачынаюцца кепскія паводзіны, адчужанасць, недавер да бацькоў, а потым можа з'явіцца іншы асяродак, дзе яго прымуць усялякага, без лішніх папрокаў, а наадварот, яшчэ і падхваляць... Каб збегчы з урока, не трэба ніякіх намаганняў, а ў асацыяльным асяродку падобнае ўспрымаецца як геройства.



*Святлана Мікалаеўна Калачова.*

**— Святлана Мікалаеўна, на жаль, у нас шмат так званых няпоўных сем'яў. Дзеці, як правіла, застаюцца з маці, і яна не заўжды можа з імі саўладаць, калі дзеці пачынаюць сталець... Вы ж самі ведаеце, многія вашы навучэнцы якраз з такіх няпоўных сем'яў. Дык што, на вашу думку, з'яўляецца тым самым упушчаным момантам у выхаванні? Дзе і калі маці магла штосьці прагледзець, што да падлетка ўжо не даходзяць ніякія яе словы: ён можа збягаць з дому, прагульваць урокі, потым пачынаецца выпіўка... Вынікам усяго гэтага найчасцей і становіцца злачынства.**

— Па-першае, калі сям'я распадаецца, а вельмі часта гэта адбываецца па віне мужа, былая жонка ад крыўды, ад свайго жаночага болю пачынае помсціць яму праз дзіця: не дапускае бацьку да яго. І гэта — памылка, якая потым, праз час можа адбіцца на дзіцяці, якое выгляду і не падасць, а ў душы можа вельмі перажываць, што жыве ў няпоўнай сям'і, што ў сяброў ёсць бацька, а ў яго толькі адна маці. Калі жанчына другі раз выходзіць замуж, скажам, сын ад першага шлюбу далёка не заўжды можа ўспрыняць айчыма як блізкага чалавека. Ды і айчым таксама не заўжды знойдзе з ім агульную мову. Адсюль вынікае адно: разыходзяцца муж і жонка, але не дзеці. Дзеці абавязкова павінны кантактаваць, сустракацца і з маці, і з бацькам... З дзіцёнкам, асабліва да дзесяці гадоў, трэба шмат размаўляць і знаходзіць час, каб выслухаць яго, а не кіравацца прынцыпам — я цябе накарміў, апрануў, а на твае дзіцячыя размовы няма часу... Пры такіх адносінах дзіця знойдзе іншыя вушы, якія яго выслухаюць. А з падлетка-

мі вельмі часта здараюцца сітуацыі, калі ім трэба выказацца, выліць з сябе штосьці негатыўнае, што іх трывожыць, гняце, ад чаго яны пакутуюць. Трэба адкласці ўсё, а дзіця выслухаць, і супакоіць, маўляў, ты ж у нас такі разумны, усё гэта мінецца і ў цябе ўсё атрымаецца, давай разам паглядзім, абмяркуем, як лепш выйсці з гэтай сітуацыі... Дзеці павінны не баяцца бацькоў, а ісці да іх з даверам, з разуменнем, што тыя ўсё зразумеюць і дапамогуць.

**— Святлана Мікалаеўна, многія з выхаванцаў вашага вучылішча трапілі сюды і за злоснае хуліганства, і за кражы, колькасць якіх павялічылася, калі з'явіліся мабільныя тэлефоны — іх найчасцей крадуць у той жа школе. А што яшчэ падпадае пад злачыннасць непаўналетніх, ад чаго павінны бацькі засцерагаць сваіх дзяцей?**

— Цяпер гэта трошкі аціхла, а яшчэ некалькі гадоў таму было вельмі распаўсюджана так званае «жульніцтва». Сярод падлеткаў нярэдка сустракаюцца вельмі тонкія псіхолагі. Яны адразу намацваюць, заўважаюць у некага з аднагодкаў слабыя кропкі і пачынаюць маніпуліраваць, асабліва і не схіляючы, і не настойваючы, каб той выносіў з дому каштоўныя рэчы, грошы... Калі гэта нейкім чынам раскрываецца, у гэтага «тонкага псіхолага» адзін адказ: «А я што, яго прымушаў?! Ён сам выносіў…» Бацькам абавязкова трэба ведаць, якія сябры ў іхняга сына, з кім ён найбольш кантактуе. Нярэдка падлеткі самарэалізуюцца не тым шляхам, сцвярджаюцца за кошт іншага, усяляк прыніжаючы больш слабога. І падлетак баіцца расказаць пра гэта сваім бацькам, баіцца свайго «лідара», яго яшчэ большых прыніжэнняў.

— Скажыце, а бацькі часта прыязджаюць да вашых выхаванцаў? І ці ёсць такія, што забываюцца на іх?

— Ну, апошняе здараецца рэдка, а калі і бывае, што, скажам, да некага маці доўга не прыязджае і мы бачым, што падлетак перажывае ад гэтага, пачынаем яе расшукваць, сазваньваемся з ёю, просім, каб прыехала. У нас ёсць спецыяльны «бацькоўскі пакой», дзе бацькі могуць пабыць нават некалькі дзён, могуць пазнаёміцца з усім нашым побытам, паглядзець, у якіх умовах жывуць іх дзеці. Многія пакідаюць свае запісы, выказваюць словы падзякі за сына ці за ўнука... Дзеці накіроўваюцца да нас праз суд, але мы толькі выхаваўчая ўстанова і стараемся даць сваім выхаванцам усё тое, што дапаможа ім у далейшым жыцці, усяляк тлумачым, ад чаго ім трэба пазбавіцца, каб стаць годным, прыгожым чалавекам, які ўжо ніколі не паўторыць ранейшых памылак. У большасці выпадкаў гэта нам удаецца. Хаця, вядома, бываюць і вельмі цяжкія падлеткі, надзвычай канфліктныя, агрэсіўныя. І ўсё залежыць ад таго, наколькі яны кантактныя. Тут ужо шукаем нейкія асаблівыя падыходы да іх.

**— Святлана Мікалаеўна, як і ў себежскага вучылішча, у вашай установе ёсць эмблема… У іх на эмблеме — белы лебедзь з качаняткам, у вас — белы бусел і бусляня з залатым ключыкам у дзюбе. Што сімвалізуе гэты ключык? Відаць, тое ж самае, што і ў славутай казцы пра Бураціна?**

— Мяркую, што прыблізна так, хоць і хочацца паразважаць. Ключык адчыняе дзверцы ў нешта чароўнае. А што можа быць больш чароўным за чалавечае жыццё? Праўда, гэтую жыццёвую чароўнасць трэба стварыць. Само па сабе нічога не даецца, вось і атрымліваецца, што жыццё і залаты ключык вельмі спалучаны. Імкнешся зрабіць сваё жыццё прыгожым, поўным, акрыленым, нармальным чалавечым жыццём — значыцца, ёсць у цябе і той самы залаты ключык.

**— Дзякуй за гутарку.**

***Вяла гутарку Р. БАРАВІКОВА.***

# «ЛІТАРАТУРА — БАРАЦЬБА СА ЗЛОМ»






***Алесь ПАПЛАЎСКІ — яркая асоба ў літаратурным жыцці Берасцейшчыны. Ведаюць яго і як паэта, і як празаіка. Летась новая кніга пісьменніка «Пастка для рэха», якая пабачыла свет у мінскім выдавецтве «Літаратура і Мастацтва», была адзначана Прэміяй Брэсцкага аблвыканкама імя Уладзіміра Калесніка.З таленавітым творцам і сустрэўся наш карэспандэнт.***

**— Алесь, як жывецца ў правінцыі пісьменніку? Ці цяжкі ў яго творчы хлеб?**

— Чалавек можа быць тым, кім ён ёсць, толькі там, дзе ён некалі нарадзіўся. З гэтым месцам ты звязаны інтэлектуальна, духоўна, генетычна. І дзе б ты ні быў, куды б ні паехаў, цябе заўжды будзе цягнуць туды, дзе твае карані, дзе пахаваны твае продкі. З узростам усё выразней адчуваеш, што гэтае месца, гэты горад, дзе ты жывеш і працуеш, і ёсць твой надмагільны камень, з-пад якога табе ніколі не выбрацца. Ды і навошта?

Правінцыя… Усё гэта настолькі адносна. Ва ўсякім разе для мяне. Мы жывём там, дзе жывём. Іншая справа — як і дзеля чаго. Калі шчыра, мяне заўжды турбавала іншае, — мой унутраны свет, душа, калі жадаеце. Важна, каб яна не абяднела, не скацілася ў простань ціхамірнай «правінцыйнасці», не пагразла ў непралазным балоце самалюбства і самадастатковасці, куды кідай не кідай камяні, а кругі не разыходзяцца. Безумоўна, ёсць у свеце Вялікія гарады, дзе б хацелася пабыць хоць аднойчы, але не болей таго. Ведаю, што шмат дзе ўжо не пабуду. Але калі ў цябе ёсць хоць кропелька фантазіі, а пісьменнік без фантазіі — не пісьменнік, калі ў цябе ёсць мэта, можна вырашаць пры жаданні і гэтыя праблемы. Правінцыя ніякім чынам не перашкаджае табе падарожнічаць летуценна, віртуальна, у часе і ў прасторы.

Я люблю свой горад. Не той вонкава гламурны, які адкрываецца турыстам, людзям транзітным, а горад, які жыве ў свядомасці пераважнай большасці сталых гараджан, які жыве паралельна і незалежна ад нечых жаданняў, які прыходзіць і да мяне ў маіх думках і летуценнях. Магчыма, таму мяне цягне ў Крэпасць. Люблю гуляць па старым гарадзішчы. Там Буг — сведка нашай мінуўшчыны. Там душа старога горада. Таго, якога даўно ўжо няма. Горада ў нябёсах. Люблю размаўляць з людзьмі, пераважна з незнаёмымі. Яны больш шчырыя і адкрытыя ў сваіх выказваннях. Шмат чытаю. А чытанне, як сцвярджае Жазэ Сарамага, і я цалкам згодны з ім, — адна з форм прысутнасці там, дзе ты ніколі не быў і, магчыма, ніколі не будзеш. Так што як і дзе жыць чалавеку — залежыць ад самога чалавека.

**— Летась вашу кнігу «Пастка для рэха» адзначылі прэміяй Брэсцкага аблвыканкама імя У. Калесніка. Ці натхняюць прэміі на новыя здзяйсненні? І ўвогуле, што значыць для пісьменніка прэмія, грамадская ўвага?**

— Не хацелася б спыняцца на нейкіх матэрыяльных аспектах гэтага пытання, але і абысці іх бокам немагчыма. Насамрэч быць пісьменнікам — вялікая раскоша. І дазволіць тое сабе могуць хіба толькі людзі багатыя ці, наадварот, апантаныя фанатыкі. Калі твой розум заняты думкамі, як накарміць сям'ю, калі ты вяртаешся з працы

стомлены і ўнутрана спустошаны, ды яшчэ ў дадатак дома сутыкаешся з плоймай хатніх праблем, сямейных, то табе, безумоўна, не да творчасці. Быць пісьменнікам — гэта працаваць дваццаць чатыры гадзіны ў суткі. Неаднойчы жартую: «Я працую нават тады, калі не працую». Безумоўна, разлічваць, што з дапамогай прэмій можна палепшыць хоць неяк сваё матэрыяльнае становішча і тым самым атрымаць неабходную пісьменніку незалежнасць, мякка кажучы, — наіўна. Застаецца толькі адно — спадзявацца, што прэміі нейкім чынам павялічваюць грамадскую ўвагу да тваёй творчасці, а тым самым павялічваецца і кола зацікаўленых людзей, чытачоў. Але і тут ёсць свая небяспека. На прэмію звычайна вылучаюцца канкрэтныя творы, і таму, безумоўна, хацелася б найперш прыцягнуць увагу грамадскасці менавіта да іх, а не да канкрэтнай асобы, да аўтара. У жыцці атрымліваецца наадварот. І тут варта патлумачыць, што я маю на ўвазе. Па маім перакананні, пісьменнік — гэта акумулятар канкрэтных думак, ідэй. Як там у Сенэкі: «Усё, што сказана карыснае, — маё, кім бы яно ні было сказана». І сапраўды, важна, якую энергетыку нясе твая думка, твае слова, якія ўздзеянні яны маюць на іншых людзей. Таму што любая творчасць — гэта найперш наш уплыў на іншых. Мы выказваемся, і наша думка пачынае жыць незалежна ад нас і нашай волі. Колькі такіх прыкладаў, калі мы нават не задумваемся, хто аўтар той ці іншай ідэі, выдаём яе за сваю, апелюем ёю да грамадства. Карацей кажучы, калі ўвагу прыцягвае не твой твор, а твая асоба, а такое здараецца найчасцей, то на авансцэну абставіны выцягваюць цябе, а твае думкі застаюцца незаўважанымі. Запускаецца механізм нейкіх «людскіх» і часам не самых лепшых эмоцый: зайздрасць, шальмаванне і г. д. Гэта не можа спрыяць творчай працы. Наадварот, перашкаджае, адцягвае ўвагу ад галоўнага. Так што з якога боку яшчэ на гэта ўсё паглядзець. З аднаго, прэміі — гэта добра, а з другога — не вельмі. Усё залежыць ад канкрэтнай асобы. Быць чалавекам вядомым, публічным насамрэч пякельны цяжар, які людзі набываюць свядома, а потым не ведаюць, што з гэтым рабіць.

**— Ці хвалюе вас тое, якім чынам на вашу працу адгукаецца літаратурная крытыка?**

— Безумоўна, хвалюе. На жыццёвым шляху нам сустракаюцца розныя людзі. Адны ўзбагачаюць нас, іншыя — разбураюць. І калі мы імкнёмся супрацьстаяць гэтаму гвалту, адразу ж нажываем сабе ворагаў. Адна справа, калі аналізуюць твой твор, іншая — калі ты сам становішся даследуемым аб'ектам. Узнікае ўражанне, што перад табой не літаратурны крытык, а літаратурны касталом, паталагаанатам. Суадносячы аўтара з героямі яго твораў, праводзячы паміж імі несумяшчальныя паралелі, гэтыя людзі фактычна ўмешваюцца ў тваё асабістае жыццё і дазваляюць сабе рабіць хуткаспелыя высновы, выносяць даволі сумніўныя вердыкты. І часцей толькі на той падставе, што пісьменнік абраў форму свайго аповеда Я-герой. У гісторыі сусветнай літаратуры існуе безліч прыкладаў, калі пасля такіх неабгрунтаваных «наездаў» калялітаратурных «бульдозераў» замаўкалі надоўга таленавітыя творцы, а то і зусім сыходзілі з жыцця. Такі лёс пасціг вядомага польскага пісьменніка Тадэвуша Бароўскага. Вынесці нечалавечыя здзекі і пакуты фашысцкіх лагераў і пайсці з жыцця толькі з-за непаразумення сваіх калегаў — па-мойму, гэта жахліва. Пасля выхаду ў свет яго кнігі «Развітанне з Марыяй» Бароўскага фактычна абвінавацілі ў здрадзе і толькі за тое, што ў сваіх творах ён праўдзіва паказаў трагедыю фашысцкіх канцлагераў. Ён рабіў акцэнт на тым, што злачынная логіка іх стваральнікаў прывяла да знішчэння ўсяго чалавечага ў ахвяры. І, каб выжыць, людзі пачалі знішчаць сабе падобных. На жаль, гісторыя нічому нас не вучыць. Хапае такіх «крытыкаў» і ў сённяшні час. І логіка іх прадказальная: «Я гэтага не разумею, а значыць, твор кепскі». У такіх выпадках я заўжды спасылаюся на выказванне паважанага мною Джона Фаўлза: «Літаратура — гэта найперш тэксты, а не брудная бялізна іх складальніка».

Калі гаварыць пра сябе, то, прызнацца шчыра, мне на крытыкаў пакуль што шанцуе. Крытычныя артыкулы на мае апошнія празаічныя творы Алы Брадзіхінай, Жанны Капусты і Юрыя Паталкова мне даспадобы. І не таму, што яны «хвалебныя», а таму, што задача крытыка — аналіз твора, спроба давесці да чытача тое, што засталося недасказаным, паміж словамі ў паўзах. І хто, як не крытык, павінен тонка адчуваць гэта.

**— Вашы творы друкуюцца і ў блізкім замежжы — у прыватнасці, у Польшчы. Што даюць такія стасункі? У гэтых кроках выяўляецца пошук новага чытача ці нешта іншае?**

— Не думаю, што гэта пошукі новых чытачоў, хаця не выключаю і такой магчымасці. Хутчэй за ўсё, гэта пошук новых сяброў, аднадумцаў. Калі я дасылаў упершыню свае «Пірамідзі» Яну Чыквіну, я не быў знаёмы з ім асабіста. Я мог і ўвогуле не пазнаёміцца з гэтым шаноўным чалавекам і творцам, не дашлі я яму ў «Тэрмапілы» свой твор. А значыць, і жыццё маё было б нашмат бяднейшае. Бо з кім павядзешся, ад таго і набярэшся. Насамрэч такія стасункі — гэта дадатковая магчымасць далучыцца да нечага, раней невядомага табе, да нейкай іншай думкі, да іншага светапогляду, пераняць нешта, навучыцца нечаму. Гэта той выпадак, пра які я згадваў вышэй, калі знаёмствы ўзбагачаюць цябе і інтэлектуальна, і духоўна. Мінулай вясной па запрашэнні літаратурнага аб'яднання «Белавежа» мы, берасцейскія літаратары Алесь Каско, Мікола Пракаповіч і я, наведалі Беласточчыну. Сябры і калегі адтуль прыязджалі да нас з творчымі візітамі. Спадзяюся, што гэтыя сустрэчы карысныя і неабходныя і нам, і ім.

**— Апошнім часам адна за другой у выдавецтве «Літаратура і Мастацтва» з'явіліся кнігі берасцейскіх аўтараў. Ці можна гаварыць пра нейкую адмысловую літаратурную атмасферу ў Брэсце, на Берасцейшчыне?**

— Не думаю, што гэта так. Памкненні стварыць гэтую атмасферу былі і, магчыма, ёсць. Скажу болей, вакол гэтага пытання вялася і вядзецца палеміка, не сціхаюць размовы. Некалі на вочы мне трапіў артыкул майго земляка і паэта Макса Шчура «Берасцейская школа: ухвала ценю». Ён лічыць, што існавала нават «берасцейская школа паэзіі». Не стану спрачацца з ім, бо калі яна была, то я ў яе не хадзіў. Я быў злосным «прагульшчыкам», і мне цяжка штонебудзь гаварыць наконт гэтага. Безумоўна, творчы чалавек «прывязаны» да месца, дзе жыве і працуе. Але ён не «прывязаны» да часу. Ён па ідэі павінен апярэджваць яго. Безумоўна, ёсць пэўныя традыцыі: моўныя, культурныя, бытавыя. І ўсё гэта не можа не ўплываць на творцу. Але нам з вамі, спажыўцам, заўсёды цікавае тое, што вытыркаецца з агульнага кантэксту. Нашу ўвагу прыцягвае навізна, а не звыклыя штампы. А што такое ёсць школа? Гэта нешта праграмнае, прадказальнае. Не, гэта не для творчасці, не для мастацтва.

**— Вы настойліва і адважна працуеце і ў паэзіі, і ў прозе. Чаму аддаяце перавагу? Ці адчуваеце складанасці ад такога вось «сумяшчальніцтва»?**

— Ёсць такія паняцці ў літаратуры, як малыя формы — апавяданне, эсэ, навела, і буйныя — аповесць, раман... І тут што каму даспадобы, дакладней, што каму па сілах. Гэта як у спорце, як у лёгкай атлетыцы, напрыклад, ёсць бегуны на кароткія дыстанцыі, а ёсць на адлегласныя. І тыя, і іншыя дасягаюць пэўных вынікаў. Прыкладна тое ж самае, на маю думку, адбываецца і ў літаратуры. Не ўсе могуць быць майстрамі кароткага апавядання, якім быў, ёсць і будзе Сяргей Даўлатаў. Але і не ўсе могуць стварыць такі буйны твор, як «Вайна і мір». Для мяне найбольш прыдатная форма — невялічкая аповесць. Некаторыя мае сябры называюць мае творы вялікімі апавяданнямі. Я не спрачаюся з імі, няхай будзе так. Верш таксама можна было б далучаць да малых формаў. Але з паэзіяй усё нашмат складаней. Калі проза — гэта чысты «падман», то паэзія — наадварот. Ёсць нешта такое, назавём яго ўмоўна Пачуццём, чаго ніякай іншаю мовай, акрамя як моваю паэзіі, не выкажаш. Так, час ад часу я таксама пішу вершы. Вось бачыце, сказаў *пішу* — і схлусіў. Вершы пішуцца самі альбо ўвогуле не пішуцца. Тое апошнім часам і адбываецца.

**— Ці ёсць у вас пэўныя персаніфікаваныя мастацкія арыенціры? Каго болей чытаеце і болей шануеце з класікаў? Айчынных? Замежных?**

— Я скончыў рускую школу, таму беларускай мове давялося навучацца ў нашых класікаў: Кузьмы Чорнага, Івана Мележа, Уладзіміра Караткевіча і, безумоўна, у Васіля Быкава. Так, я цікаўлюся творчасцю і сучасных беларускіх пісьменнікаў, маіх калегаў, імёны якіх на слыху — Андрэя Федарэнкі,

Анатоля Казлова, Алеся Наварыча. Але маім арыенцірам заўжды была і ёсць сусветная літаратура. Я захапляюся творамі сучасных пісьменнікаў такіх як: Дж. М. Кутзэе і Салман Рушдзі, Піліп Рот і Жазэ Сарамага, Гюнтэр Грас і Пітэр Акройд, Томас Пінчон і інш. Спіс можна доўжыць. Адно з апошніх маіх адкрыццяў — шведская пісьменніца Майгуль Аксельсон і яе раман «Апрельская ведьма» (назва даецца паводле рускамоўнага перакладу). У нас часта імкнуцца падзяляць паэзію, прозу на мужчыскую і жаночую. Такія падыходы мне, мякка кажучы, не даспадобы. Я не разумею гэтага. Чытаеш Майгуль Аксельсон альбо Вірджынію Вулф ці тую ж Ніколь Краўс — і асацыяцый «жаноцкасці» іх творы не выклікаюць. Гэта і ёсць сапраўдная літаратура.

**— Пісьменнікі не заўсёды ахвотна расказваюць пра свае планы... А вы гатовы падзяліцца новымі творчымі задумамі?**

— Я не трымаю сакрэтаў. Ні ад каго. Наадварот, мне хочацца гаварыць пра тое, пра што пішу, абмяркоўваць некаторыя вострыя, нязручныя і нават не заўжды зразумелыя мне (такое таксама здараецца) моманты. Паверце, у мяне столькі ідэй і задумак, абы толькі хапіла жыцця і сіл, каб усё гэта здзейсніць. Працую цяпер над новай аповесцю «Lapido». Верагодна, не мае сэнсу пераказваць сюжэт гэтага твора, але, карыстаючыся магчымасцю, дазволю сабе крыху адхіліцца ад пытання і паспрабую паразважаць пра тое, над чым працую. На мой погляд, любая свядомая істота, якая прыходзіць аднойчы ў гэты свет, прыносіць разам з сабою ў сваіх генах і шмат розных успамінаў, у тым ліку і ўспамін аб справядлівасці. У Дж. М. Кутзэе ёсць адно вельмі блізкае мне выказванне: «Калі чалавек пакутуе ад несправядлівасці, сведкі ягоных пакут асуджаныя на пакуты ад сораму». Гэтай думкай задаецца галоўны герой рамана «У чаканні варвараў», інтэлігентны чалавек, суддзя па адукацыі, вяртаючыся кожны дзень дамоў з працы. Мяне таксама хвалююць гэтыя пытанні, толькі адносна тых людзей, з кім мне даводзіцца сутыкацца кожны дзень, адносна таго часу, у якім жыву я і жывуць мае героі. Ці асуджаныя мы на гэтыя пакуты? Ці засталіся яшчэ ў свеце людзі, далёкія ад першапачатковай, біблейскай дасканаласці, якія здольныя пакутаваць ад сораму? Гэтыя пытанні — стрыжнявыя для майго новага твора. Удакладню толькі, што «Lapido» — гэта аповед пра сучасных маладых людзей, пра іх радасці і пакуты, пра здраду і пакаянне. Адным словам, і пра нас з вамі, пра людзей...

**— Алесь, а што ўвогуле для вас азначае літаратура?**

— Баюся нейкіх банальных, паношаных і засованых людзьмі і часам штампаў-выказванняў, але так склалася, што літаратура сапраўды стала для мяне не толькі духоўным ці душэўным апірышчам, але яшчэ і нечым неад'емным, тым, што не заўжды паддаецца логіцы і аналізу з боку пераважнай большасці людзей. І ўсё ж паспрабую адказаць на ваша пытанне. Найперш гэта сустрэча са Словам. З яго прыгажосцю і мілагучнасцю. Па-другое, усе тыя пытанні, якімі я задаюся ў сваіх творах, я задаю найперш для сябе. Часта атрымліваецца так, што не я вяду па жыцці сваіх герояў, а яны мяне. Не паверыце, але гэта так. Я ніколі не планую ніякіх сюжэтных ліній, не задаюся жаданнем выпісаць зараней той ці іншы тыпаж сваіх герояў. Усё атрымліваецца спантанна. Пачынаеш разматваць клубок чужой гісторыі, невядомай табе раней, і ўсё пачынаецца. Як у жыцці. У Марыны Цвятаевай ёсць такія радкі: «Поэт издалека заводит речь, поэта далеко заводит речь…» І гэта сапраўды так. Пра будучыню гаварыць рана, да яе яшчэ трэба дажыць. І задача адна — усё, што можа быць для цябе карысным, ёсць зараз і цяпер. І кожны новы дзень уносіць свае карэктывы. Ты ніколі не ведаеш, чым усё гэта скончыцца. Баюся паўтарыцца, бо неаднаразова гаварыў ужо пра гэта, але мне даспадобы наступнае вызначэнне: «Літаратура ёсць барацьба са Злом, не з тым вонкавым, што ёсць у грамадстве, а з тым глыбока схаваным, што дрэмле ў кожным з нас…»

**— Дзякуй, Алесь, за размову. Новых твораў вам і новых адкрыццяў!**

***Гутарыў Мікола БЕРЛЕЖ.***

# «ЯНЫ — МІНУЛЫ ЧАС У НОВЫМ ЧАСЕ»

## *Аркадзь Куляшоў — Аляксандр Твардоўскі: сувязныя з часам і людзьмі*

Паэзія Аркадзя Куляшова — асобая з'ява ў нашай літаратуры. І колькі б ні пісалася навуковых работ пра асобу паэта, яго мастацкі вопыт — па-сапраўднаму значная з'ява заўсёды пакідае даследчыкам магчымасці новага прачытання вядомых ці невядомых момантаў пражытага, здзейсненага ў жыцці і літаратурнай справе.

Асабліва цікавай і значнай бачыцца постаць А. Куляшова, калі прачытаць яго творчасць у кантэксце літаратурных пластоў суседняга народа. Руская літаратура ў жыцці А. Куляшова пазначана найперш такімі імёнамі, як А. Пушкін, М. Лермантаў, А. Твардоўскі. Так, неаднойчы беларускімі літаратуразнаўцамі вялася размова (Р. Бярозкін, В. Бечык, В. Куляшова і інш.) пра характар узаемаадносін А. Твардоўскага і А. Куляшова, пісьменнікаў, якія вышэй за ўсё ставілі творчасць, служэнне Паэзіі і жылі пастаянным клопатам пра тое, як сказаць сумленнае слова пра свой час і свае стасункі з ім. Ёсць у А. Куляшова дзівосныя і таленавіта-ёмістыя радкі:

> Я — акіяна жытняга калоссе:
> Мільёны лёсаў змешчаны ў маім,
> Яшчэ да дна не вычарпаным лёсе.
>
> *(«Мне кожны год нібы жыццём другім...»)*

Сапраўдны сэнс гэтых слоў, глыбіня адкрываюцца толькі тады, калі паспрабуеш убачыць за імі лёс чалавека і чалавецтва, сувязь вякоў і пакаленняў, культур і цывілізацый. Разам з тым бачыцца і лёс канкрэтнага чалавека, паэта-беларуса, жыццё якога арганічна і непадзельна было злучана з духоўным і творчым вопытам А. Твардоўскага. Кожны з іх з асобай увагай, радасцю і цеплынёй будзе адгукацца на мастацкія пошукі і адкрыцці сябра, шчыра перажываць жыццёвыя і творчыя набыткі і страты адзін аднаго.

У 1970 годзе А. Куляшоў прысвяціў аўтару знакамітай паэмы «Васіль Цёркін» артыкул «Аб новай зямлі», у якім асноўная ўвага скіравана, аднак, на паэму «Краіна Муравія», паколькі менавіта яна, — па прызнанні Аркадзя Аляксандравіча, — «зрабіла на нас, першых яе чытачоў, ашаламляльнае ўражанне». Твор для таго часу сапраўды быў выключнай з'явай. Нездарма праз гады сталы і абазнаны ў літаратурнай справе майстар дакладна сфармулюе думку пра мастацкую значнасць для савецкай паэзіі ў цэлым і для сябе асабіста згаданага шэдэўра: «І хоць у кожнага з нас выйшла з друку не адна кніжка вершаў, мы зразумелі, што, па сутнасці, намі яшчэ нічога не створана. Мы — маладыя тады паэты — па-добраму зайздросцілі Твардоўскаму і радаваліся, зразумеўшы, якой павінна быць паэзія».

Дарэчы, праўдзівасць слоў А. Куляшова адносна паэмы «Краіна Муравія» і яе ўздзеяння на літаратурную моладзь хораша дапаўняюць успаміны рускай паэтэсы М. Алігер, якая належала да таго ж літаратурнага пакалення, што і ён: «В поэме Твардовского было нечто такое, что ставило ее вровень с классикой, — зрелость, значительность, крупность и замысла, и выполнения <...>. Ей ни к чему было тратить силы на внешние ухищрения, ни к чему были никакие мудреные приемы, ей было что сказать людям, огромно было что сказать людям, и великий смысл ее задачи объяснял непререкаемую простоту и классическую ясность ее формы». Артыкул М. Алігер пад назвай «Тропинка во ржи» змешчаны ў зборніку «Воспоминания об А. Т. Твардовском», другое выданне, 1982.

Такім чынам, з сярэдзіны 30-х гадоў імя А. Твардоўскага назаўсёды ўваходзіць у літаратурны лёс і творчае жыццё А. Куляшова. Збліжэнню паэтаў садзейнічала многае: франтавая біяграфія, дух зямляцтва, апан-

танае служэнне паэзіі, выключная патрабавальнасць да ўсяго, што пакідае ў слове творца, і многае іншае.

Дзякуючы сяброўству, творчым кантактам ішоў працэс духоўна-мастацкага ўзаемаўзбагачэння гэтых унікальных мастакоў слова. Пасля знаёмства з паэмай «Сцяг брыгады» Твардоўскі з вялікай увагай сачыў за развіццём таленту беларускага паэта, за яго ўдачамі і дасягненнямі ў 60—70-я гады. Адразу пасля выдання вершаў 1956—1963 гг. пад назвай «Новая кніга» ў перакладзе Я. Хелемскага на рускую мову ў газеце «Правда» А. Твардоўскі надрукаваў артыкул «Сталасць таленту». Асноўны акцэнт зроблены на тым, што сярод мастацкіх набыткаў А. Куляшова ёсць творы, над якімі не ўладны самы строгі суддзя — капрызны, патрабавальны і непадкупны час. Менавіта «Новая кніга», — лічыў аўтар артыкула, — з'яўляецца «нібы роздумам услых», пры гэтым лірычная мова «эканомная ў словах, класічна падцягнутая, дысцыплінаваная без напружанасці, строгая без сухасці і празрыстая, у той жа час дастаткова складаная».

У сваю чаргу, А. Куляшоў паэмай «Варшаўскі шлях» сказаў балюча-таленавітае слова пра пісьменніка і чалавека, у творчасці якога адбілася цэлая эпоха развіцця савецкай літаратуры.

Цікавую інфармацыю наконт літаратурнага асяроддзя 60—70-х гадоў утрымліваюць пісьмы Марыі Іларыёнаўны Твардоўскай, жонкі рускага паэта, адрасаваныя А. Куляшову. Яны захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва [БДАМЛіМ. Ф. 411. В. 1. Спр. 235. Л. 1—33] і дадаюць нямала новага ў характарыстыку тагачаснай агульнай культурна-творчай атмасферы. Занятая ўпарадкаваннем літаратурнай спадчыны вялікага і трагічнага, як сама эпоха, паэта, у якую наканаваў яму лёс жыць і тварыць, яна давала ацэнку ўсяму, што было ўключана ў арбіту мастакоўскага быцця Твардоўскага. Адсюль бярэ свой выток яе ідэя сабраць і апублікаваць як адзінае цэлае ўспаміны тых, хто ведаў Твардоўскага, сустракаўся з ім. Разумела, што кожная дэталь, якая засталася ў памяці кагосьці, дапоўніць новымі падрабязнасцямі і характарыстыкамі не толькі чалавечае і творчае аблічча паэта, але ў новых ракурсах высвеціць і саму эпоху.

Пісьмы Марыі Іларыёнаўны да А. Куляшова дапаўняюць старонкі доўгага і плённага супрацоўніцтва і сяброўства паэтаў, а яшчэ дадаюць новыя штрыхі ў гісторыю напісання А. Куляшовым паэмы «Варшаўскі шлях», штуршком для стварэння якой якраз і паслужыла просьба Твардоўскай даслаць матэрыялы для кнігі ўспамінаў. Так, у лісце ад 5 чэрвеня 1972 года чытаем: «Переписка, конечно, небольшая, безусловно уступающая Вашим (и А[лександра] Т[рифоновича]) личным контактам, которые, увы, — развеяны временем. Но, что безусловно видно из нее, это чувство искренней, дружеской, я бы не побоялась сказать, братской нежности и нежной снисходительности старшего брата к младшему, ещё не всё познавшему. М[ожет] б[ыть] я ошибаюсь? Может быть не вдумалась, но мне кажется, что какой-то оттенок снисходительности как к ребёнку (не к стихотворцу — тут одно уважение и признание), а к меньшему, который ещё не все тумаки получил».

Гэта адказ на дасланыя А. Куляшовым лісты А. Твардоўскага. З пісьма Марыі Іларыёнаўны вынікае, што беларускі паэт быў сваім у сям'і Твардоўскіх — яго любілі, паважалі, разумелі. Пра многае гаворыць, напрыклад, хоць бы вось гэты зварот «дорогой Кулешок» або так далікатна выказаная просьба-пажаданне напісаць мемуары: «Теперь бы написать что-то о встречах (или встрече?), разговорах, взглядах на искусство и действительность — совсем было бы хорошо. Подумайте. Готовится книга «Воспоминаний современников». Не встанет ли в строй авторов её «маленький капитан».

За ўсім адчуваецца выдатнае веданне натуры Куляшова, яго вельмі ўзважаныя і патрабавальныя адносіны да ўсяго, што звязана з праблемай памяці, з маральна-этычным аспектам далучэння да вядомасці, славы іншага, няхай і блізкага, роднага па духу, жыццёвых і творчых прынцыпах чалавека. Калі ж прыслухацца да інтанацыі, тону выказанай просьбы, то можна выразна пачуць: аўтар ліста амаль не спадзяецца на станоўчы адказ. Крыху пазней у сваім лісце-адказе ад 28 чэрвеня 1972 года на куляшоўскае стаўленне да напісання мемуараў Марыя Іларыёнаўна дасць змястоўнае — сваё — тлумачэнне пазіцыі беларускага адрасата: «Писать, чтобы «вклиниться»

в книгу, — Вам не к лицу, а главное, Вы это не сделаете, даже если вся комиссия по Литературному наследию будет просить Вас, стоя на коленях».

Разуменне куляшоўскай натуры, характару выключнае. Сказанае жонкай А. Твардоўскага выдатна стасуецца з тым, што гаворыць пра бацьку В. Куляшова ў сваёй кнізе «Лясному рэху праўду раскажу...»: «Мне неаднойчы даводзілася чуць меркаванне, што Куляшоў, відаць, быў абыякавы да ўшанавання і ўзнагарод. Думка слушная толькі ў тым сэнсе, што бацька не змагаўся за ўсё гэта і тым болей не імкнуўся атрымліваць тое, чаго не заслужыў». Сапраўды, яшчэ ў 1956 г. А. Куляшоў прызнаваўся: «Я не супраць пашаны», добра разумеючы ўвесь цяжар «пасады» творцы. Увогуле ж праблема дачыненняў са славай сур'ёзна хвалявала аўтара «Новай кнігі». Пераконваюць у гэтым не толькі вершы пачатку 60-х гадоў («Мы славу параўноўваем з віном...», «Апошняя кніга»), але і тое, што падобныя думкі і адчуванні доўгі час не пакідалі паэта. Нездарма ў 1973 годзе ён зноў вернецца да такой няпростай для творчай асобы праблемы:

З тых дзён, калі падносяць кубак славы,
Я лішняе спакусы не глыну...

*(«Пра славу»)*

Гэтая цэльнасць натуры А. Куляшова некалі моцна здзівіла і ўразіла П. Панчанку, пра што сведчыць яго дзённікавы запіс, зроблены ў 1972 годзе: «Аркадзя Куляшова я заўсёды любіў. Але яго закруціла, замуціла «світа». Паэзія і грошы. Здаецца, не сумяшчальна. А ў яго неяк сумяшчаецца. А паэт — выдатны. Мы ледзь не равеснікі, а я ў яго многаму навучыўся».

Але вернемся да слоў Марыі Іларыёнаўны. Ёсць у тым, згаданым, лісце і вельмі асабістае: як балюча гартаць пражытае і перажытае праз такую яшчэ кароткую адлегласць ад страты: «А мне даже эти строчки ещё больно писать. Что же будет, если начать мне ворошить — где хорошее и дурное, светлое и мрачное перемешалось и склеилось? Надо, видимо, подождать, чтоб не возобладала одна какая-то тенденция в чувствах, а она предаст всему неверную окраску, исказит, опорочит или, что для меня хуже — залижет».

Праз асабісты боль яна добра разумела і стан Куляшова, якому так няпроста было падступіцца да такой тэмы, як Твардоўскі — чалавек, пісьменнік — у жыцці і пасля, у іншым ужо часавым вымярэнні. Нагадаем, што над сваім, напрыклад, эсэ «Наш Караткевіч» Я. Брыль пачаў працаваць толькі праз год пасля смерці сябра: час крыху суцішыў боль, дазволіў успамінаць, адсейваючы пры гэтым не вельмі істотнае ці выпадковае. Разумеючы ўсю складанасць і драматызм сітуацыі, у якой аказаўся А. Куляшоў, аўтар ліста патлумачыць сваю просьбу спецыфічнымі асаблівасцямі памяці, якія нельга не ўлічваць у працэсе мастацкага пераствараэння рэальнасці: «Если и было с моей стороны какое-либо напоминание, так это с целью побудить Вас не уклоняться далеко от этой темы и набрасывать клочками, что вспомнится. Ведь память — странная штука: молчит-молчит, а вдруг какой-то звук или встреча — короткая, случайная — вытаскивает великий ворох дней». Дарэчы, пра тую ж памяць. Некалі «з падачы» Твардоўскага ўзнікла паэма «Далёка да акіяна». Твор аўтабіяграфічны. Тады, напрыканцы 60-х, сапраўды яшчэ верылася паэту,

Што да вытокаў жаданых —
блізка
І што далёка —
да акіяна.

Цяпер зноў азваўся Твардоўскі, але ўжо ў новай якасці, з новым — недаступным жывым — пазнаннем таямніц чалавечага быцця.

Па часе (пройдзе цяжкі, балючы год без Твардоўскага) і Марыя Іларыёнаўна напіша Куляшову ў лісце ад 15 студзеня 1973 года пра той момант, калі да аўтара паэмы «Варшаўскі шлях» прыйдзе новае — арганічнае — паразуменне з Твардоўскім і яго ўспрыманнем эпохі: «Вы всё точно осмыслите у А[лександра] Т[рифоновича]. И постепенно дойдёте до той сути, когда Вам будет с ним свободно, как было при жизни. Для полной точности хочу добавить к Вашей мысли об участии в великих событиях. А[лександр] Т[рифонович], помню, добавлял при этом, что желательно, чтобы эти великие события совпадали с творческим максимумом писателя, с его подъёмом, расцветом. И тогда совершается чудо. В противном случае, как это, возможно, получилось с нашим великим писателем — великие события остались сами по себе, а великий писатель сам по себе».

У сваіх развагах-парадах Куляшову аўтар ліста застаецца верным прынцыпам высокай маральнасці і праўдзівасці. Галоўнае — не «зализать» біяграфію майстра, не прыфарбаваць ні час, ні справы, пра якія пісаў творца. У сваім імкненні зразумець супярэчлівасць эпохі, драматызм быцця вялікага Таленту жанчына прымушае і сябе, і Куляшова, а зараз і сучаснага чытача шукаць адказы на складанае пытанне адносна размежавання вялікіх падзей і вялікага пісьменніка: «В чём дело? Или весь запал ушёл на те великие события, которые совпали с его молодостью и творческим подъёмом, или ... (не хочу верить и тем более повторять слух, который ходил о нём и распространился главным образом потому, что всё остальное после его «главной книги» разительно отличалось в дурную сторону).

Слово «льстили» (настороженность издателей) — слово точное и верное в данном случае. Вообще для данной ситуации годится одна семейная аналогия — из последней вещи — раз власть так считает, значит «житель», — значит того стоит. Эти концепции из одного корня, вовсе не от силы, а скорее даже от слабости, от трудности жить в сомнении. Дай-ка я построю теорию и мне будет хорошо. А[лександр] Т[рифонович] много создавал, по ходу в жизни, таких теорий-утешений. Он любил позитивность, ясность, цель, а что приходилось иногда во имя этой цели подчищать углы (чтоб не задевали), незаметно искажать правду, — это проходило у него как-то честно, искренне. Другому это никак бы не удалось. Тут играли роль ум и простодушие души. Хотя у другого это оборачивалось в хитрость».

Эпісталярый М. Твардоўскай цікавы і тым, што наскрозь пранізаны не толькі памяццю пра выдатнага паэта, але і сур'ёзным клопатам пра стан паэзіі, літаратуры першай паловы 70-х гадоў. І размова вядзецца на ўзроўні глыбокай дасведчанасці, пра што гавораць многія лісты. Зацікаўлена, нават нецярпліва чакала магчымасці пазнаёміцца з новай паэмай Куляшова, паказаўшы пры гэтым дакладнае адчуванне таленавітага, дасведчанага чытача, якому так не хапала сапраўдных літаратурных адкрыццяў: «О стихах ваших ходят здесь всякие слухи. Иной раз поражаешься, как от одного источника, причём индивидуального и портативного, без привлечения общественных коммуникаций, уже общественность мобилизована и жаждет «воспринять». Я тоже хочу почитать что-то хорошее и серьёзное. В горле пересохло от полного отсутствия источников настоящего слова. Пустыня. Выжженная».

Варта звярнуць увагу і на тую ацэнку, якую дала Марыя Іларыёнаўна паэме «Варшаўскі шлях», калі твор нарэшце трапіў да яе: «Не писала вам о Шляхе и не пишу. Разговор долгий и серьезный. Одно скажу, — чем больше повторно и в третий раз я читаю это произведение, тем более оно мне нравится и выявляются его новые, глубинные и неброские стороны. Это вещь не только сердца, но и ума. Уникально для настоящего момента». Сапраўды твор унікальны. І найперш па той прычыне, што паэт здолеў арганічна спалучыць у адно мастацкае палатно размову пра час і грамадства, пра Твардоўскага і ролю паэтычнага слова ў духоўна-культурнай прасторы свету.

Неаднойчы, як сведчыць эпісталярый, звярталася да гэтай праблемы Марыя Іларыёнаўна, чытала, перажывала, думала, захаплялася і нават рабіла пэўныя заўвагі аўтару. У лісце ад 4 красавіка 1974 года яна не абыходзіцца простай канстатацыяй, што «Варшаўскі шлях» — твор не толькі складаны, але і ўскладнены, а дае сваё разуменне-тлумачэнне сутнасці, характару мастацкай ускладненасці твора, напрамую звязаўшы яе са спецыфікай жанру, духоўна-маральным і творчым аблічам самога аўтара. Толькі неаднаразовае прачытанне, — разумее аўтар ліста, — дазваляе наблізіцца да той мастацкай праўды, якая ўласціва куляшоўскай паэме: «Дело, — так мне думается, — в сложной авторской позиции. Здесь мы видим мемуариста, человека, вспоминающего не только того, кто покинул этот мир, но и, главным образом, того, кто вспоминает самого себя и совместно с тем ушедшим, и отдельно от него. А любые мемуары обязательно должны давать личность того, кто их пишет. Иначе они лишены той отметины, рубрики, от которой идет отсчет соотношений автора и героя (о котором вспоминают) <...>. Пока я не чувствую характера автора (пусть даже я не буду ему верить), я не знаю, как относиться к тому, что он рассказывает. С Вашей личностью все в порядке».

Асэнсоўваючы многія трагічныя моманты жыцця Твардоўскага або ягоных геро-

яў, Куляшоў, адштурхнуўшыся ад рэальнай асновы, ставарае новае мастацкае поле, у прасторы якога валадарыць не толькі знаёмы сюжэт ці вобраз, але выразна праступае рытмічны малюнак радка ці страфы, а то і ўсяго верша Твардоўскага.

Бадай, цяжка знайсці артыкул ці манаграфію пра жыццёвы і творчы лёс А. Твардоўскага, якія б вызначаліся такім эмацыянальным напалам, такой інфармацыйнасцю пры выключнай сціласці і лаканізме, такой глыбінёй спасціжэння мастацкай змястоўнасці і арыгінальнасці таленту рускага паэта, як гэта праявілася, напрыклад, у паэме А. Куляшова «Варшаўскі шлях». У ёй не толькі боль ад незваротнай страты, тут яшчэ і жаданне майстра пагаварыць пра таго, хто, — спашлёмся на словы дачкі паэта, — быў для Куляшова тым «з нашых вялікіх землякоў, чый лёс, падобна лёсу Міцкевіча ці Купалы, нёс на сабе адбітак гістарычнага лёсу як пячатку генетычнай сувязі з ім». Сам жа А. Куляшоў прызнаваўся: «“Варшаўскі шлях” — незвычайная для мяне рэч у сэнсе таго эмацыянальнага напалу, які я ў яе ўклаў». Такога эмацыянальнага напалу мастак дасягаў за кошт свайго душэўнага стану, за кошт таго, што, працуючы над паэмай, даводзілася пастаянна судакранацца з творчым вопытам, мастацкім светам А. Твардоўскага, «дзе пачуццё было невыпадковым».

Шырока ўводзіць А. Куляшоў у кантэкст свайго паэтычнага мыслення многае з таго, што датычылася чалавечага і творчага жыцця Твардоўскага — біяграфічны факт, мастацкі вобраз, інтанацыю, рытм... Гэта ўсё тое, што вызначала ідэйна-эстэтычны змест і эмацыянальна-псіхалагічны малюнак тых альбо іншых мастацкіх набыткаў А. Твардоўскага. Па сутнасці, паэма «Варшаўскі шлях» — гэта своеасаблівы (паэтычны!) помнік рускаму паэту. Ужо на самым пачатку размовы Куляшоў паўстае выключна нацыянальным паэтам: вобразны пачатак яго вершаванага радка ўвабраў адметнае харαство беларускага прыроднага свету. Самым дасканалым і знакавым бачыцца аўтару паэмы вячысты бор, адвечны спадарожнік жыццёвага лёсу беларуса. Бор — гэта і прыкмета нашай зямлі, і сімвал-знак харαства і дасканаласці, суладнасці, гармоніі. Нездарма ў мастацкай прасторы паэмы Куляшова постаць Твардоўскага, яго жыццё, паэзія — усё пазначана ключавым для беларуса словам «бор».

Шумелі тут вяршыні баравыя,
Ствол да ствала — гудзеў лясны арган.
Цяпер ён змоўк, як песні, што ў курган
З сабой забралі песняры былыя.

Хораша ўключае ў кантэкст паэмы аўтар і яшчэ адзін «лясны» вобраз — слова «дзялянка» («яго дзялянка ўсім відна цяпер»). Дзякуючы гэтаму становіцца бачным тое, што нясе адзнаку паэтычнага генію Твардоўскага. І калі бор-арган спыняе сваю суладную мелодыю — тады асабліва выяўна праступаюць жахлівыя прагалы: застаюцца нерэалізаваныя планы, нявыказаныя думкі, ненапісаныя паэмы, вершы, артыкулы... Разам з вялікім творцам знікае і той вялікі мастацкі свет, які мог бы нарадзіцца, сцвердзіцца ў слове-вобразе:

З такім і наш зямляк сустрэўся горам.
Як бор, ён абжываў мясцовасць борам,
Арганным рэхам бед і перамог.
Ніхто таго не дагаворыць хорам,
Што ён адзін дагаварыць бы мог...
Мог, каб, як бор той самы, не палёг.

Адчуваецца і той эмацыянальны напал, пра які згадваў Куляшоў, і яго разуменне быцця ў літаратуры Твардоўскага, якое аўтарам паэмы ўспрымаецца роўным подзвігу ратнаму. Каму, як не Куляшову, было ведаць і тое, колькі жыццёвых сіл адбірала ў яго знакамітага земляка пасада галоўнага рэдактара часопіса «Новый мир».

Выключная дасведчанасць Куляшова ў мастацкіх пошуках і адкрыццях Твардоўскага праяўляецца ў паэме «Варшаўскі шлях» з зайздросным пастаянствам і адкрытасцю. Не раз беларускі аўтар будзе ўключаць паэтычныя вобразы Твардоўскага, шырока выкарыстоўваць цытаты з твораў рускага мастака. Часам гэта дакладна ўзноўленыя радкі, а часам цытаванне бывае «прытоеным». Сэнс захаваны дакладна, але сам радок падаецца зыначаным, хоць пры гэтым лёгка ўгадваецца арыгінал. Нельга не заўважыць пэўнай пераклічкі з Твардоўскім, напрыклад, у наступных радках паэмы «Варшаўскі шлях»:

Я ў тайны сэнс свайго быцця другога
Не веру, хоць лячу.
Затое веру,
Што там, дзе я не буду жыць зусім,
Не толькі мне, не дадзена Гамеру
Сказаць аб тым, што адляцела з ім.

Аркадзь Куляшоў быў перакананы ў тым, што арыгінальную творчую індывідуальнасць немагчыма замяніць ніколі і нікім, а таму гэтак знакава і значна гучаць наступныя радкі: «Ніхто таго не дагаворыць хорам, // Што ён адзін дагаварыць бы мог». Пераклічка з Твардоўскім асабліва адчувальная, калі суаднесці працытаваныя паэтычныя радкі з вершам Твардоўскага «Вся суть в одном-единственном завете».

Вся суть в одном-единственном завете:
То, что скажу, до времени тая,
Я это знаю лучше всех на свете —
Живых и мертвых — знаю только я.

Сказать то слово никому другому
Я никогда бы ни за что не мог
Передоверить. Даже Льву Толстому —
Нельзя. Не скажет — пусть себе он бог,

А я лишь смертный. За свое в ответе,
Я об одном при жизни хлопочу:
О том, что знаю лучше всех на свете,
Сказать хочу. И так, как я хочу.

І значнасць думкі, і асаблівасці яе вобразнага напаўнення, і рытмічны лад радка — усё набліжана да мастацка-паэтычнай рэальнасці верша Твардоўскага.

Лісты М. І. Твардоўскай да А. Куляшова, — думаецца, — дадаюць нямала цікавага, вартага ўвагі ў гісторыю быцця вялікіх майстроў паэтычнага слова.

«5 июня 72 г.

Дорогой Аркадий Александрович!

Простите мне задержку ответа в подтверждение полученного от Вас очень ценного материала. Переписка, конечно, небольшая, безусловно уступающая Вашим (и А[лександра] Т[рифоновича]) личным контактам, которые, увы, — развеяны временем. Но, что безусловно видно из нее, это чувство искренней, дружеской, я бы не побоялась сказать, братской нежности и нежной снисходительности старшего брата к младшему, еще не все познавшему.

М[ожет] б[ыть] я ошибаюсь? Может быть не вдумалась, но мне кажется, что какой-то оттенок снисходительности как к ребенку (не к стихотворцу — тут одно уважение и признание), а к меньшому, который еще не все тумаки получил. Спасибо, дорогой Кулешок. Теперь бы написать что-то о встречах (или встрече?), разговорах, взглядах на искусство и действительность — совсем было бы хорошо. Подумайте. Готовится книга «Воспоминаний современников». Не встанет ли в строй авторов ее «маленький капитан»?

Передайте мой привет Ксении Федоровне[1] и лучшие пожелания дому вашему.

Мария Илларионовна».

*28.VI.72*

«Дорогой Аркадий Александрович,

всецело согласна с Вашим пониманием задачи писания мемуара об А[лександре] Т[рифоновиче]. Писать, чтобы «вклиниться» в книгу, — Вам не к лицу, а главное, Вы это не сделаете, даже если вся комиссия по Литературному наследию будет просить Вас, стоя на коленях.

Если и было с моей стороны какое-либо напоминание, так это с целью побудить Вас не уклоняться далеко от этой темы и набрасывать клочками, что вспомнится. Ведь память — странная штука: молчит-молчит, а вдруг какой-то звук или встреча — короткая, случайная — вытаскивает целый ворох дней.

Мне тоже приходится (к моей досаде и горечи) выслушивать пожелания детей, особенно Вали, чтобы я «вспоминала». А мне даже эти строчки еще больно писать. Что же будет, если начать мне ворошить — где хорошее и дурное, светлое и мрачное перемешалось и склеилось? Надо, видно, подождать, чтоб не возобладала одна какая-то тенденция в чувствах, а она придаст всему неверную окраску, исказит, опорочит или, что для меня хуже — залижет».

«Дорогой Аркадий Александрович!

Крайне довольна Вашей аккуратностью и деловитостью. Редчайшая смесь: поэтический размах и житейская деловитость. Да, сбываются в наше время мечты гоголевской невесты.

Шутки шутками (издевки же никакой), но, если по-серьезному, то кроме чувства благодарности и приязни — ничего не испытываю.

Спасибо.

[1] Ксенія Фёдараўна — жонка А. Куляшова.

О стихах Ваших ходят здесь всякие слухи. Иной раз поражаешься, как от одного источника, причем, индивидуального и портативного, без привлечения общественных коммуникаций, уже общественность мобилизована и жаждет «воспринять». Я тоже хочу почитать что-то хорошее и серьёзное. В горле пересохло от полного отсутствия источников настоящего слова. Пустыня. Выжженная.

Как Ваши дела? Когда собираетесь быть в Москве? У нас все по-прежнему. Обрабатываю материал архива. Идет период накопительства и собирательства.

Мой привет Ксении Федоровне.

Вам здоровья и доброй работы.

М. И. Твардовская».

«Дорогой Аркадий Александрович, не согласна с Вашим толкованием. Конечно, название сначала было однозначным. Но потом появились варианты. А[лександр] Т[рифонович] любил «вариации».

*29 июня 1972*».

«Дорогой Аркадий Александрович!

Что-то опять Вы умолкли. Наверно хорошо отдыхаете. Иначе когда же мы забываем других, как не тогда, когда нам хорошо?

Недавно получила письмо от П. Бровки (был у меня допрос по поводу одного выступления А[лександра] Т[рифоновича]), в котором он сообщает, что поэма Ваша, посвященная А[лександру] Т[рифоновичу], ему очень понравилась. Когда же будет перевод? Впрочем, я охотно посмотрела бы Вашу вещь и на белорусском языке, словарь которого мне вовсе не чужой. Не пришлете ли до перевода, — пригодится и в архиве А[лександра] Т[рифоновича].

У нас дела немного затихли. Для меня это только к лучшему: меньше звонков и заседаний, от которых только трата времени. Сижу и выискиваю адреса возможных хранителей писем А[лександра] Т[рифоновича] и «перспективных» вспоминателей. И, представьте, — не без пользы для дела.

А если всерьез, то пока не могу еще браться за работу существенную. Еще много странного в умонастроении. Ведь не шутка перетряхнуть жизнь в короткий срок и под давлением такой утраты. И, конечно, кое-чего поубавилось от перетряски, — ветер унес.

Где Вы сейчас? На том озере[1] — на которое мы когда-то не приехали? Или еще где? Что делаете? Поклон мой Ксении Федоровне.

*7 августа 1972.*

Мария Илларионовна».

«Дорогой Аркадий Александрович!

Судя по тому, что в конце августа Вы не прибыли в Москву, остался в силе другой ориентир прибытия — средина сентября. В таком случае у меня есть время написать Вам. А поджидала я Вас по конкретной причине. Нужна была (надеялась на нее) Ваша консультация по одной стенограмме (выступление А[лександра] Т[рифоновича] на II съезде белорусских писателей), которую я получила от П. У. Бровки[2].

Стенограмма неправленная и очень плохо записанная человеком, совершенно незнакомым с литературными проблемами того времени. И получилось так, что самые интересные и конкретные места: о Янке Купале и Якубе Коласе — зияют пропусками. Такие же пропуски там — где мысль мало-мальски усложняется и индивидуализируется.

А в то же время чувствуется, что выступление было интересное, отошедшее от официального канона, т. е. со свойственным А[лександру] Т[рифоновичу] личным мнением. Хотелось бы спасти эту стенограмму. Но как? Я не приглашаю Вас к дописыванию ее, но вот над чем я просила бы Вас подумать:

1) Не появлялись ли в газетах той поры какие-либо отклики на эту речь?

2) Не помните ли Вы тех, кто присутствовал на съезде и возможно вел записи или дневник его?

3) Не вспомните ли сами обстановку и то, почему А[лександр] Т[рифонович] выступал вроде бы неофициально, не в числе делегации и т. п.?

Писать, если Вы собираетесь приехать скоро, — не нужно: расскажете устно, но

[1] Размова, відаць, пра возера Нарач, дзе часта ўлетку адпачывалі Куляшовы.

[2] 2-і з’езд беларускіх пісьменнікаў адбыўся ў чэрвені 1949 г. Старшыня праўлення СП БССР на той час (1948—1966) — П. Броўка.

обдумать надо. Надо сообщить мне и имена (если они есть) тех людей, к которым Вы порекомендуете мне обратиться для разъяснения моих недоумений.

Мой привет Ксении Федоровне, дорогой дедушка-бабушка.

Сама была в этой шкуре (с перестановкой этих имен и с акцентировкой на первом из них)*. Знаю почем фунт лиха.

Всего доброго.

3.IX.72.

М. И. Твардовская».

* Это серьезнее дедушки

«14.IX.

Дорогой Аркадий Александрович!

Очень жалею, что не повидались мы с Вами в этот Ваш приезд в Москву. Я, правда, не была 6-го в Москве. (Я езжу по вторникам и пятницам.) Но если бы Вы дозвонились до Оли, они рассказали бы, как до меня добраться. Конечно, это большой эгоизм отрезать полдня у человека, который приехал в столицу на день или два. Но видеть Вас хотелось по разным делам. Хотелось кое о чем посоветоваться. Чем больше идет времени и меньше остается тех, на кого можно опереться, — тем более ценишь друзей истинных, проверенных годами.

Кстати об этом выступлении — на II съезде белорусских писателей. Я привела стенограмму в относительный порядок. Но два места там зияют и одно из них — о Коласе и Купале. Вы дали дельный совет — Лужанин[1] уже тем хорош, что был секретарем Я. Коласа. А если у кого есть записи, то есть надежда исправить пробелы стенограммы.

В подшивке белорусской «Литература и искусство» вряд ли Вы найдете что-либо о выступлении А[лександра] Т[рифоновича]. Мне писал Герцович[2], что это выступление было замолчено. Почему? До этого надо будет докопаться.

Желаю Вам всего доброго и скорого приезда к нам в Москву. Ксении Федоровне мой привет и пожелания здоровья и сил.

М. И. Твардовская».

«14.X.72

Дорогой Аркадий Александрович!

Боюсь думать, с чем связывается Ваше состояние невесомости. Еще обманываю себя мыслью, что я ошибочно поняла это место Вашего письма. Я уверена, что — земной человек — Вы вернетесь на землю здравым и невредимым и будете стоять на ней, как и стояли: спокойно и твердо.

Письма Лужанина еще не видела, хотя Оля мне сказала, что оно получено.

Сижу, как и прежде, на даче. Сдаю в ближайшие дни книгу «статей и выступлений» А[лександра] Т[рифоновича], которую сильно задержала из-за трудности материала: правки и редактуры оказалось больше, нежели я первоначально предположила. Ведь стенограммы он за редким исключением печатал (главным образом в «Лит[ературной] газ[ете]» в первые годы своей «общественной деятельности» в Союзе). Они оказались, как он говорил бывало — «во всем безобразии черновизны»!

Спасибо Вам за помощь в отношении Лужанина. С нетерпением жду, когда мне привезут письмо (или я поеду в Москву). А Вы когда собираетесь к нам? Приезжайте. Привет Ксении Федоровне.

Мария Илларионовна».

«Дорогой Аркадий Александрович!

Что бы это значило?

Получаю письмо с обратным адресом некоего Юрия Ивановича Назаренко, без единого слова обращения ко мне (хотя письмо адресовано мне), а в конверте статья из «Полымя» № 6, 1970 г. Дмитрия Бугаева[3]. В ней разбор творчества А[лександра] Т[рифоновича]. Что это? Новая форма помощи ближнему?

---

[1] Пра выступленне А. Твардоўскага на 2-м з’ездзе беларускіх пісьменнікаў М. Лужанін згадае ў сваіх успамінах «Побратимы», што былі ўключаны ў першае выданне кнігі, прысвечанай памяці рускага паэта.

[2] Якаў Герцовіч — беларускі крытык 60—70-х гг., яго слова пра А. Твардоўскага ўключана ў раздзел «Из писем и откликов» першага выдання кнігі ўспамінаў пра А. Твардоўскага.

[3] У шостым нумары часопіса «Полымя» сапраўды ёсць артыкул Дзмітрыя Бугаёва «З адкрытаю душой», але прысвечаны ён творчасці М. Аўрамчыка, а да 60-годдзя А. Твардоўскага ў гэтым жа годзе надрукаваны артыкул А. Куляшова «Аб новай зямлі».

Чувствую, как бьют подводные ключи на дне озера. Это А. Кулешов ищет (и находит) новые имена, новых знакомых А[лександра] Т[рифоновича], которые имеют что сказать о нашем писателе.

Написала я этим лицам. Сильно не надеюсь, но м[ожет] б[ыть] какие-то новые штрихи и обнаружатся.

Когда же я получу поэму Кулешова? Разве трудно отпечатать на белорусской машинке белорусский вариант? Надо это сделать. Я положу в архив, никто этим пользоваться не будет.

Не знаю, придется ли Вам писать в этом году, Аркадий Александрович, поэтому хочу пожелать Вам и Ксении Федоровне — счастья и покоя в семье, всем здоровья, всем успехов.

Твардовская М. И. 26.XII.1972

(на обороте)

Сейчас нашла Ваше не последнее, а предпоследнее письмо, на которое не отвечала, т[ак] к[ак] оно нуждалось для ответа в голосе души. Душа моя совсем лишилась голоса, чуть слышно говорит шёпотом.

Фраза, которая вырвалась у А[лександра] Т[рифоновича], как мне кажется, говорит, что он любил Вас. Он верил в серьезность Вашей болезни, а воображение подсказало дальнейшее, а фраза — в ней и оценка Ваша (Вас), и любовь, и боль.

А сейчас Вы оказались в той ситуации, которая в «Балладе о товарище».

Ваши думы о «черте», которая проведена смертью А[лександра] Т[рифоновича], — верны. Закончился большой кусок истории литературы. Еще немного попишут те, кто шел с ним рядом, но не выставлены, даже не проявились те, кто будет представлять новое время. Именно боязнь «вакуума» заставляла наших литературных боссов (и печать) сделать некоторую «переборку людишек», — поиски лидера. Нахваливали Смелякова (а он уже еле дышал), Сафронова (самим стало стыдно, замолчали), Луконина (идет вперед больше по административной линии, творчество что-то замедляет ход) и т[ому] подобное.

А как обрадовала многих та свобода, которую почуяли они, как начали писать «циклами» (Евтушенко, Кемпе, К. Симонов). При А[лександре] Т[рифоновиче] с такими стихами многие стеснялись выходить на люди, теперь стало можно. Но ничего кроме стыда от этой затеи не вышло. Нельзя подравниваться под настоящего поэта, предварительно сняв с него голову[1]. Нет, ты тянись до него такого, каков он есть, именно вместе с головой. Но таких было мало. И главным образом — по республикам. Одиночки. Лучшие силы народа. Этим одиночкам сейчас очень трудно именно потому, что они ощущают свое одиночество, утрату опоры. Безвременье. Что всегда было страшно. Будем надеяться, что это ненадолго. Но что-то этому противоречит. Уж очень не те люди (в Союзе) руководят литературным процессом. Страшная бюрократизация. О каком творчестве может быть речь?

Вот так мы, — бабы, — разговариваем после того, как скажем: — До свидания.

М. Т.»

«Дорогой Аркадий Александрович!

Рада была получить Ваше письмо. Ждать Ваш «Шлях» я, конечно, буду — терпение у меня есть. Вот времени, боюсь, маловато. Погано чувствую себя. После даты, которую я более чувствовала как приближение, а не самый день, (как, впрочем, это свойственно, наверно, и праздникам, и датам) — все пошло у меня по второму кругу, но уже «на высшем уровне». Сил у меня не прибавилось, а убавилось за год. Сейчас, кажется, потиху начинаю выползать из депрессии, которая обезволивает до того, что начинаешь понимать смысл вопроса «сам, выходит, распишись?». Да, готов расписаться, чтобы уйти от лютой тоски.

Вы все точно осмыслите у А[лександра] Т[рифоновича]. И постепенно дойдете до той сути, когда Вам будет с ним свободно, как было при жизни. Для полной точности хочу добавить к Вашей мысли об участии в великих событиях. А[лександр] Т[рифонович], помню, добавлял при этом, что желательно, чтобы эти великие события совпадали с творческим максимумом писателя, с его подъемом, расцветом. И тогда совершается чудо. В противном случае, как это, возможно, получилось с нашим великим писателем — великие события

[1] Аўтар ліста нагадала, мабыць, пра той год, калі А. Твардоўскага здымалі з пасады галоўнага рэдактара часопіса «Новый мир».

остались сами по себе, а великий писатель — сам по себе.

В чем дело? Или весь запал ушел на те великие события, которые совпали с его молодостью и творческим подъемом, или ... (не хочу верить и тем более повторять слух, который ходил о нем и распространился главным образом потому, что все остальное после его «главной книги» разительно отличалось в дурную сторону).

Слово «льстили» (настороженность издателей) — слово точное и верное в данном случае. Вообще для данной ситуации годится одна семейная аналогия — из последней вещи[1] — раз власть так считает, значит «житель», — значит того стоит. Эти концепции из одного корня, вовсе не от силы, а скорее даже от слабости, от трудности жить в сомнении. Дай-ка я построю теорию и мне будет хорошо. А[лександр] Т[рифонович]много создавал, по ходу жизни, таких теорий-утешений. Он любил позитивность, ясность, цель, а что приходилось иногда во имя этой цели подчищать углы (чтоб не задевали), незаметно искажать правду, — это проходило у него как-то честно, искренне. Другому это никак бы не удалось. Тут играли роль ум и простодушие души. Хотя у другого это же оборачивалось в хитрость. Конечно, письмо — не беседа. Ленишься привести примеры, а без конкретного, — все звучит невнятно и даже, возможно, неверно, нелепо.

Скоро Вы увидите новую публикацию (первый № «Дружбы народов»). Стихи, конечно, послабее, чем в «Комсомолке». Это, правильно говоря, наброски, по которым еще не раз прошлось бы его перо. Запасы стихов иссякают.

Всего Вам доброго. Обязательно звоните, когда приедете в Москву. Привет мой и пожелания в Новом году здоровья и радости Ксении Федоровне. Вам — только здоровья. Я убедилась, что без радости жить можно. А вот без здоровья — нельзя. Тогда нет работы. А будет работа — будут самые лучшие радости.

15.I.1973.

Твардовская М. И.».

«Дорогой Аркадий Александрович!

Планы наши как-то совпали: я тоже собираюсь поехать отдохнуть (видимо в Ялту) с первых чисел марта — до апреля. Таким образом, мы увидимся с Вами после отдыха, набравшись сил, а мудрости, надо полагать, у нас уже достаточно.

Не видела, но слышала, что в «Юности» (№ 2) опубликовали цикл стихотворений Ваншенкина «Красная Пахра». Без упоминания имени А[лександра] Т[рифоновича], но с явной очевидностью о нем. Говорят, что хорошо. Обратите внимание на этот номер.

Я очень рада, что дело Ваше продвигается, как Вы говорите, успешно. Жаль, что вещь у Вас появится только в V номере. Это значит — у нас в XI—XII.

Желаю здоровья, рабочего настроения и добрых результатов. Мой привет Ксении Федоровне.

М. И. Твардовская.

Если не видели эту книгу-сироту, — посмотрите. Это первая моя сдача его стихов уже без него. Как думаете: приятно видеть такую работу?

23 февраля 1973».

«18.I.1974

Дорогой Аркадий Александрович!

Спасибо за ответ. Но мы тут решили иначе. Демент дал более разумный (пока) совет: снять все остальные стихи, оставить лишь «Варшавский шлях». Это правильно. Остальное значительно слабее: Дудин, Щипачев, Пашков. Правда, у Кулиева стихи хорошие, еще одно-два стихотворения можно бы. Но куцо. А «Шлях» будет заключать книгу, как заключает песню высокая нота.

С книгой «Воспоминаний» для первого раза закончены дела (хотя материал продолжает «капать»). Видимо, надо уже подумывать о другом, более строгом издании[2]. Первое включает почти все, что поступило. За исключением особо завиральных, вроде Гордона, который приписал А[лександру] Т[рифоновичу] такую глупость, как высказывание о свободной (по собственному жела-

[1] Паэма А. Твардоўскага «По праву памяти» (1966—1969), у якой сапраўды ёсць тэорыя філасофіі раскулачанага гаспадара: «Уж если этак, значит — житель, // Хозяин, значит — потому...»

[2] Другое выданне кнігі «Воспоминания об А. Т. Твардовском» выйшла ў выдавецтве «Советский писатель» у 1982 годзе, істотна абноўленае ўспамінамі новых аўтараў. Праўда, паэма А. Куляшова «Варшаўскі шлях» у гэтае выданне не ўключана.

нию) работе в фронтовых условиях. Второе издание мыслится мне как избранное (лучшее) из первого с добавлением новых лучших поступлений. Но, если первое издание получит хорошую прессу, м[ожет] б[ыть] дадут, — как добавление к нему, — второй том. Правда, в настоящих условиях на это рассчитывать очень трудно. Возможно, разрешат новую книгу «Воспоминаний» (Вторая книга «Воспоминаний»). Но все это предположения. Сами понимаете, сколько еще маяты предстоит с первой, еще не сданной в печать книгой.

Скоро надо будет приступать к работе над семитомным собранием. В него я хочу включить и переводы. Если вспомните где какие переводы (библиографию или вырезки), пришлите мне. Я знаю, он переводил Купалу, Засима, кажется, что-то из Колоса. М[ожет] б[ыть] и еще что. Еще не справлялась по библиогр[афии], справочникам. Ваша помощь, если она будет, — была бы очень уместна. Об этом буду просить и Лужанина. А м[ожет] б[ыть] справиться в белорусской библиографической службе. К кому это надо обратиться? Не поленитесь, напишите.

Вот, кажется, все о делах. Не писала Вам о Шляхе и не пишу. Разговор долгий и серьезный. Одно скажу, — чем больше повторно и в третий раз я читаю это произведение, тем более оно мне нравится и выявляются его новые, глубинные и неброские стороны. Это вещь не только сердца, но и ума. Уникально для настоящего момента. Тут как-то зашла ко мне моя соседка по даче Т. А. Фиш, стала говорить, что оно, мол, не так хорошо, это произведение. Но я ее прервала и сказала свои слова о нем. Ведь как любят люди подражать крыловской лисе для оправдания своей трусости и нерешительности.

Несколько слов вообще о журнальной политике. Я не протестую (какое у меня на это право?) против того, что «новомирцы» прежнего «Нового мира» печатаются в теперешнем «Новом мире». Но я различаю их. Такой «новомирец», как первый заместитель А[лександра] Т[рифоновича], — Кондратович, — не должен был этого делать.

Вот в этом вся разница. За них лилась кровь, клалась жизнь.

Всего Вам доброго.

М. И. Твардовская».

«7.IV.1974

Дорогой Аркадий Александрович!

Давно, очень давно не отвечала Вам. Не помню уже содержания Вашего последнего письма. Пишу из Ялты, куда приехала передохнуть. Сдали, наконец, книгу воспоминаний изд[ательств]у «Советский писатель». Сдали с немалой задержкой (не только потому, что читали поочередно кроме меня еще три человека и среди них перегруженный ответственными обязательствами Симонов, — но и потому, что в последнюю, казалось бы, завершенную минуту, вдруг стал поступать материал — и хороший — для этой книги).

Думается, что для начала, для первого издания она получилась. Правда, я не знаю, кого там удалят. Надо думать, не самых худших. Качество книги в целом еще может измениться. И все же, все же... Собрать это надо было обязательно. Сколько драгоценных отметин, поступков, слов и словечек — горьких и добрых, ироничных и высоких. Всего и мы не знали. А люди подбираются. И до его поколения, не говоря уже о более раннем, добирается эта волна, смывающая нас.

Но, кажется, постепенно и незаметно для себя перешла на очень ответственный стиль, требующий высокого пафоса. А у меня — полный дефицит. Не могу мысли в кулак собрать, хотя привезла несложную, можно сказать, «статистическую» работенку: надо для сданной книги написать короткую летопись жизни А[лександра] Т[рифоновича], чтобы можно было соотнести тот или иной материал с другими фактами его биографии.

Сюда я не брала те письма моих корреспондентов, которым не отвечала с начала нового года, но Вашу огоньковскую книжечку я взяла сюда и перечла «Варшавский шлях». Мне он понравился даже больше, чем от первой читки. И дело не только в том, что вещь не простая, а довольно усложненная. Дело, — так мне думается, — в сложной авторской позиции. Здесь мы видим мемуариста, человека, вспоминающего не только того, кто покинул этот мир, но и, главным образом, того, кто вспоминает самого себя и совместно с тем ушедшим, и отдельно от него. А любые мемуары обязательно должны давать личность того, кто их пишет. Иначе они лишены той отметины, рубрики,

от которой идет отсчет соотношений автора и героя (о котором вспоминают). Пока я не чувствую характера автора (пусть даже я не буду ему верить), я не знаю, как относиться к тому, что он рассказывает. С Вашей личностью все в порядке. Это дает мне право не только верить, но и сочувствовать, и переживать.

Хотелось бы обратить Ваше внимание на мелочи, которые царапнули мое внимание, впрочем, м[ожет] б[ыть], они Вам такими не кажутся. Например, 21 стр. (сверху) «Винтами грунт соленый разберешь». Грунт — слово настолько определенное, что представить его в качестве воды — невозможно. А в то же время нельзя представить корабль плывущим, если его винты на грунте. Это значит, он сел и сел крепко. На стр. 27 нехорошо «мой болезный». Этак в народных повестях говорили сердобольные бабы. На той же странице, — конец первой строфы 10-й главки:

> Спеши туда, над бездной по канату
> Пройди, как бы по лезвию ножа.

Или-или. Нельзя канат превращать в лезвие, и наоборот. Надо что-то оставить одно. Тут надо немного подумать переводчику. Вот и все мои мелочи.

Я пробуду здесь до середины мая. Если будет время, — напишите сюда, а нет, — спишемся в Москве, где я уже буду 16-17 мая. Всего Вам доброго.

Ксении Федоровне мой привет.

М. И. Твардов[ская].

Здесь пока холодно и неуютно. Весна затяжная и холодная».

«9 мая 1974 г.

Дорогой Аркадий Александрович!

Поздравляю с днем Победы, желаю здоровья, душевных сил, чтобы достойно пройти Ваш Варшавский Шлях.

Давно собираюсь и все забывала спросить Вас: не Вы ли тот «капитан Кулешов», который делал доклад о прозе в январе 1945 г. на каком-то армейском совещании, где А[лександр] Т[рифонович] делал доклад о поэзии. Напишите мне об этом подробнее, если Вы — тот капитан.

Здесь, в Ялте, у меня была замечательная встреча: была я на теплоходе (сухогрузе) «Александр Твардовский». Корабль отправился из Херсонеса (с заходом в Ялту) в свой первый рейс. Впечатление самое светлое. Поищите у себя свои книги (желательно на русском) и пришлите мне или привезите, когда поедете в Москву — для корабельной библиотеки.

Будьте здоровы.

М. И. Твардовская».

Такім чынам, пісьмы Марыі Іларыёнаўны Твардоўскай маюць права на тое, каб заняць сваё месца ў гісторыка-культурнай прасторы нашай краіны і быць запатрабаванымі кожным, хто імкнецца спасцігнуць сакрэты і таямніцы жыцця і творчасці сапраўднага Майстра літаратурнай справы.

***Тамара НУЖДЗІНА***

Ірына КЛІМКОВІЧ

# ШАНЦ АТРЫМАЦЬ ПРАЦУ

***Як паказвае досвед апошніх дзесяцігоддзяў, пытанне працаўладкавання — адно з самых жыццёва важных, якое хвалюе значную частку насельніцтва нашай краіны. Асабліва гэта тычыцца маладых. Большасць, каму хоць раз даводзілася самастойна шукаць работу, пацвердзяць, што гэта даволі складаны перыяд у жыцці. Тут і стрэс, і хваляванні, і няўпэўненасць у сваіх сілах. І што самае непрыемнае — дадзены перыяд можа цягнуцца нават не месяцамі, а гадамі. Уся ж праблема ў тым, што працаўладкаваннем павінны займацца спецыялісты, якія валодаюць патрэбнымі ведамі і досведам, так неабходнымі для тых, хто хоча знайсці працу.***

***Сёння чытачы «Маладосці» пазнаёмяцца з арганізацыяй, дзе маладым людзям дапамагаюць не толькі знайсці працу, але і развіць свой творчы патэнцыял. Гэта камунальнае ўнітарнае прадпрыемства «МАЛАДЗЁЖНАЯ САЦЫЯЛЬНАЯ СЛУЖБА».***

## АТРЫМАЦЬ ПРАЦУ — АДЧУЦЬ СЯБЕ ЎПЭЎНЕНА



Калі вам ад 18 да 31 года, калі вы студэнт ВНУ або навучэнец каледжа, прафтэхвучылішча і нават школьнік, калі вы шукаеце сталую працу або проста вырашылі паправіць фінансавае становішча на вакацыях — вас чакаюць на Чапаева, 3 у Мінску. Менавіта тут знаходзіцца «Маладзёжная сацыяльная служба», заснавальнікам якой з'яўляецца камітэт па адукацыі Мінгарвыканкама. Усе васемнаццаць гадоў існавання яна займаецца сваёй асноўнай задачай — працаўладкоўвае дзяўчат і юнакоў па ўсёй Беларусі. Вам дастаткова толькі захацець і, натуральна, прыйсці туды. Пасля анкетавання супрацоўнікі гэтай арганізацыі прапануюць вакансіі і параяць, зыходзячы з вынікаў тэсціравання, якую-небудзь работу. Калі ж на дадзены момант адпаведных прапаноў ад прадпрыемстваў няма, звесткі пра патэнцыяльнага работніка заносяцца ў базу. Яна спатрэбіцца ў выпадку змены сітуацыі на рынку працы. Але адтэрміноўкі здараюцца зрэдку. Маладзёжная сацыяльная служба пастаянна атрымлівае інфармацыю пра магчымыя працоўныя месцы з усіх сталічных, а таксама з некаторых рэгіянальных прадпрыемстваў і арганізацый. Нават у самых нестабільных рыначных умовах працоўныя рукі ў нашай краіне заўсёды патрэбны.

«*Мы з'яўляемся мостам паміж маладым чалавекам, які шукае працу, і тым, хто можа прапанаваць яе. Мы бяром на сябе пэўныя абавязкі перад бакамі і нясём адказнасць перад нашымі партнёрамі,* — гаворыць генеральны дырэктар прадпрыемства **Рыма Мечыславаўна ЕПУР**. — *Калі ў маладога чалавека ёсць афіцыйная праца, ён адчувае сябе ўпэўнена. Менш верагодна, што ён стане ахвярай гандлю людзьмі. У яго знікае матывацыя скарыстацца сумнеўнымі прапановамі працаўладкавання за мяжой*».

Такая небяспека існуе ва ўсім свеце, і гэта ні для каго не сакрэт. Эксперты адзначаюць, што краіны былога Савецкага Саюза з'яўляюцца аднымі з самых буйных пастаўшчыкоў людзей для вывазу ў іншыя краіны з мэтай эксплуатацыі. І Беларусь тут, на




*У Цэнтры занятасці моладзі заўсёды рады наведвальнікам.*

жаль, не выключэнне. Таму на базе сацыяльнай службы і быў створаны шматпрофільны Цэнтр па спрыянні занятасці моладзі і развіцці маладзёжнага прадпрымальніцтва. Цэнтр існуе ў рамках сумеснага праекта ЕС, Праграмы развіцця ААН і дзіцячага фонду ААН (ЮНІСЕФ) «Прадухіленне, барацьба і мінімізацыя сацыяльных наступстваў у вобласці гандлю людзьмі ў Беларусі». Дапамога, якую ажыццяўляе Цэнтр, дазваляе маладым людзям дасягнуць большай устойлівасці ў эканамічным плане і бароніць іх ад небяспекі трапіць у сучаснае рабства.

## НЕ МОЖАШ — НАВУЧЫМ

Даць працу — адзін з накірункаў дзейнасці сацыяльнай службы. Загадчык адукацыйнага цэнтра **Наталля Леанідаўна Івашчанка** лічыць, што больш важна даць маладым людзям вартую прафесію, якую яны змогуць выкарыстаць на практыцы. Безумоўна, падрыхтаваны спецыяліст лепш і хутчэй выканае ўскладзеныя на яго абавязкі, чым той, каго трэба вучыць на вытворчасці. Вырашэннем гэтай праблемы і заняўся адукацыйны цэнтр — адна са структур маладзёжнай сацыяльнай службы. Тут хлопцы могуць атрымаць спецыяльнасці муляра і атынкоўшчыка. І іх адукацыя не абмяжоўваецца тэорыяй. Кожны з тых, хто авалодвае рабочай спецыяльнасцю, абавязкова ідзе на вытворчую практыку. Спачатку — на базе цэнтра, а потым — на прадпрыемствах горада. Па заканчэнні курсаў хлопцы атрымліваюць пасведчанне аб прысваенні рабочага разраду. Гэта ў значнай меры падвышае іх шанц уладкавацца на высокааплачваемую працу. Зарабіць кішэнныя грошы можна і на саміх курсах: вытворчая практыка аплачваецца ад выпрацоўкі. Такая практыка прыйшлася па душы і тым, хто шукае працу, і тым, хто яе прапаноўвае. Апошнія значна ахвотней наймаюць дыпламаваных спецыялістаў, ды і плацяць ім больш.

Але сацыяльная служба прапаноўвае не толькі будаўнічыя спецыяльнасці, куды ў асноўным ідуць хлопцы. Гэта яшчэ і сельскагаспадарчыя працы, а ўзімку — уборка, расчыстка снегу. Апроч гэтага юнакі і дзяўчаты працуюць экскурсаводамі, арганізаваны маладзёжны хостал. У галіне адукацыі і выхавання яны знаходзяць працу рэпетытараў, гувернантак і нянек. А ў сферы бытавых паслуг, да прыкладу, у Мінску працуе мабільная хімчыстка. Кліент тэлефануе і выклікае чыстку на дом, у офіс і г. д. У працы задзейнічаны ў асноўным студэнты, у базе дадзеных «Маладзёжнай сацыяльнай службы» іх больш пяці тысяч. З кожным студэнтам або маладым чалавекам заключана дамова, таму яго працоўныя правы знаходзяцца пад пільнай абаронай з боку сацыяльнай службы. А яшчэ тут могуць знайсці працу і нестандартныя саіскальнікі: інваліды, апантаныя вернікі, былыя зняволеныя і гастарбайтары. Да іх як да людзей пакрыўджаных адносінамі грамадства тут ставяцца з асаблівай беражлівасцю і клопатам.

## ДЛЯ ТЫХ, ХТО НЕ ВЕДАЕ

Мы ўжо казалі пра Цэнтр па спрыянні занятасці моладзі і развіцці маладзёжнага прадпрымальніцтва, які створаны пры сацыяльнай службе. Перспектыўным маладым людзям, якія хочуць рэалізаваць свае творчыя здольнасці, тут бясплатна даюць кансультацыі і адукацыйныя паслугі па працоўным заканадаўстве, праводзяць трэнінгі і семінары па пытаннях прадпрымальніцтва, дапамагаюць у пошуках працы. Іншымі словамі, спрыяюць дадатковай адукацыі. Жадаючым распачаць сваю справу тлумачаць, як

можна рэалізаваць ідэю, і кансультуюць — наколькі яна на сёння актуальная. У сувязі з гэтым у маі 2009 года прадпрыемству быў нададзены статус маладзёжнага інкубатара малога прадпрымальніцтва, або бізнес-інкубатара.

Эксперты адзначаюць, што ў наш час на шляху стварэння ўласнай справы ўзнікае шэраг перашкод — знайсці памяшканне, бухгалтара, юрыста і г. д. І як правіла, у пачаткоўца не хапае ні кіруючага досведу, ні ведаў, ні значных фінансавых сродкаў. А бізнес-інкубатар дае шанц кожнаму маладому чалавеку, нават студэнту, пачаць сваю справу без гэтых кампанентаў і развіць яе да выхаду на вялікі рынак. Па сутнасці прадпрымальнікі-пачаткоўцы цягам трохпяці гадоў — тэрмін знаходжання ў інкубатары — апякуюцца цэнтрам. Пры гэтым яны не займаюцца бухгалтарскім улікам і арандуюць памяшканні цэнтра на ільготных умовах, а таксама атрымоўваюць неабходную юрыдычную кансультацыю.

Для таго каб патрапіць у інкубатар, прэтэндэнт павінен валодаць лідарскімі якасцямі, мець шчырае жаданне стварыць свой бізнес і, вядома, скласці праект — чым плануе займацца. Далей кіраўніцтва інкубатара даследуе яго прапанову і, калі яна выявіцца жыццяздатнай, дасць яму «зялёнае святло». Па словах Р. Епур, галоўная задача інкубатара — далучыць да сябе тыя прадпрыемствы, якія будуць атрымліваць прыбытак, займацца толькі законнымі відамі дзейнасці і працаваць у інтарэсах горада. На думку генеральнага дырэктара, работа бізнес-інкубатара станоўча адаб'ецца і на занятасці моладзі: «*Мы разлічваем, што кожны прадпрымальнік зможа працаўладкаваць яшчэ ад 2 да 10 маладых людзей. Да таго ж бізнес-інкубатар як форма маладзёжнага прадпрымальніцтва, несумненна, будзе ўдасканальвацца. Але ўжо зразумела, што мы на правільным шляху. Шмат таленавітых маладых людзей, не толькі гараджан, але і тых, хто прыехаў з вёсак і мястэчак вучыцца ў Мінск, з другога курса гатовыя зарэгістраваць свае прадпрыемства, прыносіць карысць сабе і грамадству*».

## ДА ГІСТОРЫІ ПЫТАННЯ

Першыя бізнес-інкубатары з'явіліся ў ЗША яшчэ ў 1959 годзе. Ідэя аказалася плённай і шырока распаўсюдзілася. У свеце налічваецца не менш за 3950 бізнес-інкубатараў, але больш за ўсіх іх у Злучаных Штатах: па розных дадзеных — ад 850 да 1100. Як лічаць эксперты, інкубатары даюць жыццё новым фірмам, дапамагаюць ім выжыць у самы складаны пачатковы перыяд існавання. Практыка сведчыць: бізнес-інкубатары паніжаюць рызыку пагібелі малога бізнесу ў першы год існавання прыблізна на 30 працэнтаў. Асноўная іх мэта — спрыяць узнікненню ды існаванню здаровых прадпрыемстваў, якія ў будучым створаць новыя працоўныя месцы, умацуюць нацыянальную эканоміку. Многія вядомыя сусветныя кампаніі выйшлі з такіх інкубатараў, да прыкладу, «Polaroid». У Беларусі ёсць і іншыя бізнес-інкубатары, але на Чапаева, 3 працуюць менавіта з моладдзю. У маладзёжным «бізнес-інкубатары» знайшлі прытулак такія прадпрыемствы, як фірмы па стварэнні сайтаў, SMS-рэкламе, пашыве жаночай вопраткі, пагрузачна-разгрузачных работах, а таксама турыстычныя і будаўнічыя фірмы. Паміж сабою прадпрыемствы бізнес-інкубатара не канкурыруюць, бо кожнае з іх займае сваю нішу.



*Маладыя прадпрымальнікі бізнес-інкубатара Яўген Андрэеў (злева) і Гай Маеўскі.*

## ПЛАЦДАРМ ДЛЯ НОВЫХ ВЫШЫНЬ

Пра адну з такіх фірм, якая стартавала на базе бізнес-інкубатара і паспяхова працуе, варта расказаць больш падрабязна. Гэта сучасная веб-студыя **«Дзіджы Арт».** Ёю кіруюць зусім яшчэ юнакі, партнёры па бізнесе, пяцікурснікі БДУ. Дырэктар фірмы **Яўген Андрэеў** вывучае спецыфіку кіравання паводле сацыяльных тэхналогій, а заснавальнік «Дзіджы Арт» **Гай Маеўскі** — эканамічнае права. І хоць хлопцы прыйшлі ў сацыяльную службу з гатовай і распрацаванай ідэяй уласнай справы, пасля напісання бізнес-плана і кансультацыі са спецыялістамі цэнтра прадпрымальніцтва яны зразумелі сваю задачу больш дакладна. Да таго ж не спатрэбіўся і вялікі пачатковы капітал. Хапіла ўсяго трох мільёнаў беларускіх рублёў. Кабінет, мэблю, камп'ютары — усё даў інкубатар.

Не мінула і года, а веб-студыя «Дзіджы Арт» ужо ўпэўнена займаецца стварэннем рознага кшталту сайтаў, іх адміністраваннем, дызайнам, распрацоўкай праграмнага забеспячэння і інтэрнэт-маркетынгам. Таксама ў сферу іх дзейнасці ўваходзіць абслугоўванне інфармацыйных і праграмна-апаратных сістэм. Пачынаючыя бізнесоўцы задаволены развіццём уласнае справы і дапамогай сацыяльнай службы. Ужо з'явіліся свае сталыя кліенты, усе яны са сферы бізнесу, як з асяродка інкубатара, так і па-за ягонымі межамі. Дыспетчары цэнтра па тэлефоне інфармуюць пра паслугі веб-студыі, шукаюць неабходны персанал і патэнцыяльных заказчыкаў, збіраюць пра іх інфармацыю, апрацоўваюць яе і перадаюць у «Дзіджы Арт». І чым больш надыдзе такой карыснай інфармацыі, тым лягчэй будзе хлопцам сфарміраваць сваё бачанне будучага сайта. Андрэй і Гай кажуць, што бачаць сваёй задачай стварыць сайт такога ўзроўню, каб яго наведвальнікі знаходзіліся на ім як мага даўжэй і імкнуліся разгледзець там усё, у тым ліку і тое, што іх ускосна не цікавіць. Пры гэтым яны гарантуюць выкананне такога сайта якасна і дакладна ў тэрмін. І яшчэ яны дадаюць, што імкнуцца стаць лепшымі на сваім рынку працы і што іх цяперашні бізнес — толькі пачатак, плацдарм для новых вышынь. Што ж, марыць і здзяйсняць мары вольны кожны. Пажадаем ім поспехаў.

## ВАНДРОЎКІ З «РАБІНЗОНАМ»

Не варта думаць, што дзейнасць маладзёжнай сацыяльнай службы абмяжоўваецца толькі працаўладкаваннем. Пра адпачынак тут таксама ведаюць нямала і з задавальненнем дапамагаюць усім жадаючым. Турыстычны аддзел «Рабінзон», які больш за дзесяць гадоў працуе ў складзе сацыяльнай службы, прапануе кліентам шматлікія туры па Беларусі, краінах СНД і Заходняй Еўропе. Так, сёлета падчас спёкі былі вельмі папулярнымі Браслаўскія азёры. Там нашых турыстаў заўсёды чакаюць добраўпарадкаваныя турыстычныя базы. Супрацоўнікі «Рабінзона» пастаянна ладзяць найцікавейшыя экскурсіі па гістарычных мясцінах Мінска і яго ваколіцах. А пералік аднадзённых экскурсій па Беларусі складае больш за 50 маршрутаў, тут і добра вядомыя, і новыя, распрацаваныя на аснове адноўленых або дагэтуль малавывучаных помнікаў. **Таццяна Уладзіміраўна Папковіч**, кіраўнік турыстычнага аддзела, кажа, што іх турагенцтва выгадна адрозніваецца ад астатніх тым, што не першы год займаецца дзіцячым адпачынкам і мае значны досвед у яго арганізацыі як за мяжою, так і ў нас на радзіме.

Патурбаваліся ў «Рабінзоне» і пра тых, хто прыязджае паглядзець сталіцу з іншых месцаў. Недарагі гатэль, разлічаны ў асноўным на студэнтаў, ужо сустракае гасцей. Яго адчынілі ў будынку інтэрната на вуліцы Машынабудаўнікоў. Гасцініца прыйшлася даспадобы і гасцям з рэгіёнаў, і замежным турыстам. А падчас здачы іспытаў тут могуць жыць яшчэ і абітурыенты.

*Напрыканцы хочацца нагадаць, што ў Мінску сярод двухмільённага насельніцтва моладзь складае 480 тысяч — больш за палову маладых людзей вучацца ў ВНУ, а астатнія працуюць на прадпрыемствах і ў арганізацыях горада. І ўсе разумеюць, што сутнасць дзяржаўнай палітыкі не ў дэкляраванні пафасных ідэй, а ў дакладных дзеяннях па вырашэнні найбольш актуальных праблем. З такімі канкрэтнымі праблемамі сёлета ў «Маладзёжную сацыяльную службу» звярнулася каля дзвюх тысяч маладых людзей, якія прасілі дапамагчы ім з пошукам працы. У выніку палова з іх яе атрымала. Гэта гаворыць пра тое, што ў сацыяльнай службе часу дарма не губляюць. Тут насамрэч даюць маладым людзям накірунак у жыцці і дапамагаюць сябе рэалізаваць.*

У 1795 г. іканапісец Катлярэўскі ўсталёўваецца ў Слуцку, змяніўшы ранейшае, здаецца, вандроўнае жыццё на аседлае жыццё ў пакоях, якія былі вызначаны яму для жылля пры Слуцкай Спаскай Прэабражэнскай царкве (у юрысдыкцыі Слуцкага Спаскага манастыра), пра што сведчыць згаданы інвентарызатарамі архіва Катлярэўскага дакумент пра папраўку (рамонт) Катлярэўскім (напэўна, за ўласны кошт) вызначаных мастаку ў Слуцку жылых памяшканняў. У 1796 г. Катлярэўскі вярнуў Чарнігаўскаму архіепіскапу Віктару Садкоўскаму доўг у 1000 рублёў, узятых мастаком у 1795 г. з пазначэннем крыніцы, з якой доўг меркавалася выплаціць, аплаты работ у слуцкай Троіцкай царкве. У тым жа 1796 г. мастак атрымаў атэстат ад чарнігаўскага епіскапа Віктара Садкоўскага, які засведчыў паспяховае завяршэнне мастаком «палавіннай часткі» іканастаса Слуцкай Троіцкай трохпрастольнай царквы і іканастаса Крыжовай («Крестовой») Архіерэйскай царквы. Верагодна, вызначэнне «палавінная частка» іканастаса ўказвае на тое, што мастаком былі выкананы ў 1796 г. яшчэ толькі некалькі ярусаў сяміяруснага, трохчасткавага іканастаса Слуцкага Троіцкага сабора. Напэўна, гэта былі святочны і апостальскі рады іканастаса. Верагодна, Катлярэўскі напісаў згаданы Ф. Серна-Салаўевічам вялікі абраз (2½ × 1 1/4 аршына) «Спас на прастоле» ў цэнтры апостальскага яруса іканастаса. У 1796 г. мастак напісаў шэраг абразоў для пакояў архіепіскапа Мінскага Іова. У 1797 г. Катлярэўскі атрымаў у Мінскай духоўнай кансісторыі пашпарт для паездкі ў Маскву, па нейкай асабістай патрэбе. Тады ж, у 1797 г., ён узяў у прыслугі шляхцянку Ганну Дубіцкую і заплаціў ёй наперад за паслугі 55 рублёў 40 капеек. 1798 годам датавана распіска нейкага Канстанціна Зубкоўскага, што для аплаты векселя ён атрымаў ад мастака Катлярэўскага дзвесце рублёў асігнацыямі. У тым жа 1798 годзе мастак заключыў кантракт на выкананне работ у Слуцкай Прэабражэнскай царкве, за што атрымаў аванс 468 рублёў 20 капеек, але ці выканаў ён той кантракт, невядома. У 1799 г. мастак ездзіў са Слуцка ў Мінск і назад, з Мінска да Слуцка, — сярод яго папер захоўвалася падарожная на гэту паездку. З пераліку назваў дзелавых папер, якія засталіся па смерці мастака, даведваемся, што ён заплаціў у 1799 г. за пазалотныя работы не названую інвентарызатарамі суму грошай дыякану Васілю Маісееву (аднаму з галоўных фігурантаў у справе пра спадчыну Катлярэўскага). Такім чынам, у 1799 г. Катлярэўскі і дыякан Васіль Маісееў ужо былі знаёмыя і супрацоўнічалі раней. Маісееў, напэўна, як і вышэйназваны кіеўскі залатар Кірканаў, рабіў залачэнне рам і іканастасных дэталяў, удзельнічаў у выкананні заказаў іканапісца Катлярэўскага.

Ф. Серна-Салаўевіч указвае на тое, што Катлярэўскі быў не толькі іканапісцам, але і праектаваў архітэктурныя канструкцыі іканастасаў. Гэта ўскосна пацвярджаецца наяўнасцю сярод рэчаў памерлага мастака спецыяльных прылад накшталт чарцёжнай дошкі — «штаучэц рисовальный с циркулями» (л. 8, зварот). Па сведчанні Ф. Серна-Салаўевіча, абразы Трайчанскага іканастаса ў Слуцку былі напісаны алеем на дошках па леўкасе, у канцы XVIII ст. яны, асабліва роставыя выявы апосталаў, патрабавалі рэстаўрацыі (на жаль, іканастас разам з усім слуцкім Троіцкім саборам быў разбураны ў 1930-я гады, не знойдзены і фотаздымкі Трайчанскага іканастаса пэндзля Стэфана Катлярэўскага).

На мяжы XVIII і XIX стагоддзяў здароўе мастака Катлярэўскага моцна пагоршылася. Сярод яго папер не называюцца новыя кантракты. Інвентарызатары згадалі толькі адзін ліст генерала Завішы, датаваны 1802 г., у якім той патрабуе адправіць назад у маёнтак генерала хлопчыка, які быў накіраваны да Катлярэўскага для вывучэння іканапіснага рамяства. На адсутнасць у мастака творчай моцы і грашовых прыбыткаў у канцы жыцця ўказваюць згаданыя ў судовай справе шматлікія грашовыя пазыкі і перадача ім часткі сваіх уласных рэчаў у заклад. Так, у 1797 г. ён заклаў за 24 рублі Эстэрцы Рабікавай срэбныя лыжкі, у 1800 г. Эстэрцы Гайсейцы даў у заклад за 34 рублі французскі гадзіннік, два парчовыя камзолы і шаўковую хустку, у 1801 г. Гіршу Гідовічу заклаў за 23 і 1/2 рублі падсвечнікі, медны посуд, вялікі французскі срэбны гадзіннік. Нягледзячы на збядненне і нямогласць самотнага мастака, пасля яго смерці, па мерках сярэдняга слуцкага мешчаніна, засталася досыць багатая матэрыяльная спадчына, якой, магчыма, не супраць былі пакарыстацца і яго хатняя прыслуга Ганна Дубіцкая, і блізкія да яго духоўныя асобы — дыякан Маісееў са святарам

Прэабражэнскай царквы Іаанам Вярнацкім (у доме, які належаў да маёмасці гэтай царквы, жыў у Слуцку Катлярэўскі). Вопіс рэчаў памерлага змяшчае пералік франтаватых строяў: «фрак гранатавы светлы з гузікамі чорнага шоўку», сурдуты (адзін з іх для аплаты пахавання памерлага быццам быў прададзены за 8 рублёў), камзолы, шаўковыя панчохі, «тулуп сівы ўкраінскі новы», а таксама нешматлікая бялізна, посуд, пэндзлі барсуковыя, камяні — адзін вялікі, а другі маленькі для расцірання фарбаў.

Звяртае на сябе ўвагу вопіс 10 кніг, якія належалі Катлярэўскаму. Сем з іх — сучасныя мастаку выданні свецкага, энцыклапедычна-пазнавальнага і забаўляльнага зместу, што выдатна характарызуе Катлярэўскага як «дзіця свайго часу», асобу эпохі Асветніцтва, гэта кнігі: «Анекдоты Петра Великого», «Обозрение Российской империи», «Книга всякие всячины», «Ежемесячное сочинение», «Путеводитель», часть первая, «Летопись о многих материях», «Книга Комедии. Часть первая». Толькі некалькі кніг з тых, што меліся ў маленькай уласнай бібліятэцы Катлярэўскага, былі духоўнага зместу — «Распеў» Дзімітрыя Растоўскага і дзве вялікія ілюстраваныя («Кунштовыя», як названы яны ў вопісу маёмасці Катлярэўскага) кнігі Новага і Старога Запавету. Апошнія былі для яго таксама і прафесійнымі мастацкімі дапаможнікамі, як і 12 асобных друкаваных гравюр — «печатных кунштаў штук 12». Як прадметы свайго роду раскошы, былой франтаватай заможнасці Катлярэўскага, які мог дазволіць сабе раней адносную празмернасць у паўсядзённым жыцці, зазначым захаваныя пасля яго смерці 6 геаграфічных карт — «мапы на александрыйскай паперы», ружжо «двурульнае», столік лакіраваны «искусной работы» (ён згаданы толькі Ганнай Дубіцкай, у наступных вопісах ужо не фігуруе, як і дыван, і карціны вялікія старыя). Да раскошы належалі запальны аптычны прыбор, пячатка срэбная з прозвішчам мастака, павозка руская («у дэпазіце ў настаўніка Салаўевіча»). Але, як сведчыць архіўная судовая справа, грашовых сродкаў пасля смерці мастака не засталося, і святар Вярнацкі для арганізацыі хаўтур па памерлым павінен быў прадаць сувой льнянога палатна для жывапісных работ, які належаў памерламу. Гэта палатно было куплена дырэктарам кальвінскай слуцкай гімназіі за тры рублі, прычым кошт палатна вызначылі запрошаныя для гэтага слуцкія іканапісцы (магчыма, тыя ж Ян Маркіянавіч і Даніла Сяліцкі).

Па вопісу рэчаў бачна, што пасля смерці мастака Катлярэўскага засталося 6 падрыхтаваных мастаком, праляўкашаных дошак для напісання абразоў для архіепіскапа Мінскага Іова, а таксама 5 скончаных жывапісных партрэтных твораў, выкананых Катлярэўскім напрыканцы жыцця. Гэта партрэты імператарскіх асоб Паўла Пятровіча і Марыі Фёдараўны, імператрыцы Кацярыны ІІ і князя Пацёмкіна, нясвіжскага пробашча Катэмбрына, вялікая карціна з партрэтным адлюстраваннем Клеапатры ў пазалочанай раме. Ніводзін з гэтых твораў да нашых дзён не захаваўся, як, напэўна, і абразы, выкананыя Катлярэўскім у Слуцку. Магчыма, узоры мастакоўскай спадчыны Катлярэўскага знойдуцца ва Украіне. Іканастас Слуцкага Троіцкага сабора ў 1704 г. (калі верыць даце завяршэння іканастаса, прыведзенай Ф. Серна-Салаўевічам) завяршаў па смерці Катлярэўскага, напэўна, ужо іншы мастак.

Што тычыцца прыцягнутых да судовага разбіральніцтва Ганны Дубіцкай і святароў Вярнацкага і Маісеева, то першая ніякай кампенсацыі не атрымала, бо было даведзена, што грошай яна атрымала дастаткова, яшчэ ўзяла сабе і некалькі рэчаў з адзення памерлага. Святары Вярнацкі і Маісееў за самавольнае ўзяцце рэчаў памерлага былі аштрафаваны: кожны на выкананне дзвюх соцень паклонаў у саборнай слуцкай Нікольскай царкве.

А захаванне рэчаў памерлага іканапісца Катлярэўскага, тым не менш, даручана было святару слуцкай Прэабражэнскай царквы Іаану Вярнацкаму.

Такім чынам, дзякуючы знаходцы гэтай судовай справы, беларуская і ўкраінская гісторыя мастацтва канца XVIII ст. атрымала новае імя вельмі прадуктыўнага мастака-іканапісца і жывапісца Стэфана Катлярэўскага, які за свае заслугі атрымаў чын губернскага рэгістратара. Імя гэта раней было невядома даследчыкам, яно не было ўключана ані ў слоўнік беларускіх мастакоў, складзены Н. Высоцкай, ані ў слоўнік украінскіх маляроў, складзены Паўлам Жаўтоўскім.

# ЛІТАРАТУРНЫЯ МЯСЦІНЫ БЕЛАРУСІ*

## ЛАГОЙСКІ РАЁН

**Вёска Альхавец** Бяларуцкага сельсавета

**Ляцкага Яўгена** (па іншых крыніцах, нарадзіўся ў Мінску; 15.3.1868—7.7.1942), даследчыка беларускага фальклору і этнаграфіі, гісторыка рускай літаратуры, радзіма. Скончыў Маскоўскі ўніверсітэт (1893). Удзельнічаў у фальклорных экспедыцыях на поўдзень Расіі, у Паволжа, Літву, Беларусь (Палессе) і інш. У 1904 г. апублікаваў каля 200 беларускіх песень, запісаных у Гайна-Слабадской воласці. Яшчэ студэнтам Ляцкі прыязджаў на канікулы да бацькоў, дзе збіраў і запісваў фальклор, тады ж і сам пачаў пісаць вершы. Асабістым сакратаром у 1906—1908 гг. у яго быў Карней Чукоўскі. Ляцкі быў блізка знаёмы з М. Горкім, які запрасіў яго наведаць востраў Капры ў Італіі. Пасля Кастрычніцкага перавароту жыў у Празе, выкладаў у Карлавым універсітэце. У 1927—1928 гг. у часопісе «Славія» апублікаваў цыкл артыкулаў «Нататкі па беларусазнаўству», у італьянскім «Часопісе славянскай літаратуры» (1927) — артыкул пра творчасць Якуба Коласа.

**Вёска Аўгустова** Знаменскага сельсавета

Тут у 1891—1892 гг. паўзімы вучыўся ў вандроўнага настаўніка **Купала Янка**. Жыў на кватэры ў бацькавага знаёмага Стацкевіча.

**Вёска Бяларучы,** цэнтр сельсавета

З 1950 г. мясцовая сярэдняя школа носіць імя **Купалы Янкі.** На будынку 9.7.1972 г. установлена мемарыяльная дошка. У школе з 1947 г. існуе ***клас-музей Я. Купалы.***

**Купала Янка** ў 1897—1898 гг. хадзіў з Селішча ў Бяларуцкае двухкласнае народнае вучылішча, якое скончыў за год. Атрымаў адзіны ў сваім жыцці дакумент аб адукацыі. Вучылішча знаходзілася ў драўляным доме на беразе рэчкі Вяча. Загадчыкам і выкладчыкам у ім працаваў М. Турчыновіч. Будынак не захаваўся. Вёска была спалена ў час Другой сусветнай вайны.

Непадалёку ад вёскі ўзвышаецца вялікая, парослая дрэвамі і хмызняком гара (яе называюць тут Камяніцкай). Старажылы расказваюць, што Купала любіў бываць на гэтай гары, доўга прастойваў ля дуба-волата. Яго часта бачылі на вялікім валуне, непадалёк ад сядзібы. Сёння гэты валун так і называецца — «Янкаў камень». Лічаць, што менавіта бяларуцкая Замкавая гара з'явілася прататыпам той мясціны, дзе адбываліся падзеі паэмы «Курган».

У Бяларучах з канца сакавіка да пачатку мая 1912 г. у свайго сябра І. Міцкевіча жыў **Колас Якуб**, працаваў над паэмай «Сымон-музыка».

---

* Працяг. Пачатак у № 10—12 за 2007 г., № 1—12 за 2008 г., № 1—10, 12 за 2009 г., № 1—7, 9 за 2010 г.

Вёсцы прысвяцілі вершы **Панізнік Сяргей** («Бяларучы» — Дзень паэзіі-82. — Мн., 1982. С. 39), **Грахоўскі Сяргей** («Бяларучы» — Выбраныя творы ў 2 т. Т. 1. — Мн., 1983. — С. 239).

**Вёска Вялікія Гаяны** Бяларуцкага сельсавета

Сюды хадзіў зімой 1892—1893 гг. да вандроўнага настаўніка вучыцца з Прудзішча **Купала Янка**.

**Вёска Гайна**, цэнтр сельсавета

**Даленгі-Хадакоўскага Зарыяна** (сапр. Чарноцкі Адам; 4.4.1784—17.11.1825), славязнаўца, пачынальніка беларускай, польскай, рускай і ўкраінскай археалогіі, фалькларыстыкі, этнаграфіі і дыялекталогіі, радзіма. Нарадзіўся ў сям'і дробнага беларускага шляхціца і службоўца Якуба. Пачатковую адукацыю праходзіў у хатняга настаўніка ў маёнтку Лецяшын на Случчыне, потым на працягу двух гадоў вучыўся ў Слуцкім каталіцкім вучылішчы. У 1801 г. пераехаў у Мінск, дзе да 1802 г. працаваў хатнім настаўнікам. У 1802—1804 гг. праходзіў юрыдычную практыку ў Навагрудку. У канцы 1805 г. працаваў прыватным адвакатам у Мінску, вывучаў старажытнабеларускія акты і граматы. У 1807 г. паступіў на службу да графа Несялоўскага. У 1809 г. арыштаваны і пазбаўлены шляхецтва за выказаную ім у лісце да сябра прыхільнасць да антыпрыгонніцкіх ідэй Напалеона. Пасля 7 месяцаў зняволення ў Петрапаўлаўскай крэпасці накіраваны простым салдатам рускай арміі на службу ў Омск, дзе займаўся зборам звестак пра насельніцтва гэтага краю. У чэрвені 1811 г. збег, імітаваўшы ўтапленне. Апынуўся ў Варшаве, перайшоў на бок напалеонаўскага войска. Пасля паражэння Напалеона нейкі час хаваўся і, каб не быць выкрытым, узяў сабе псеўданім Даленга-Хадакоўскі. Падарожнічаў па Польшчы, Галіцыі, Палессі. 14.12.1818 г. атрымаў ад Віленскага ўніверсітэта адкрыты ліст на права раскопак. Даследаваў гарадзішчы ў Полацку, Віцебску, Тураве, Бабруйскім павеце, каля Брэста, Гомеля, Магілёва, у в. Старое Сяло (Віцебскі р-н) і інш., рабіў запісы фальклору, мясцовых дыялектаў, абрадаў. Аўтар прац «Пра славяншчыну да хрысціянства» (1818), «Даследаванні адносна рускай гісторыі» (1819), «Праект вучонага падарожжа па Расіі для вытлумачэння старажытнай славянскай гісторыі» (1820), «Гістарычная сістэма Хадакоўскага» (апубл. 1838). Большасць яго прац не апублікавана, — гэта збор беларускіх (каля 500) і рускіх песень, запісы замоў, загадак, слоўнікі, матэрыялы па славянскай этнаграфіі, дыялекталогіі, тапаніміцы, археалогіі.

**Купала Янка,** магчыма, наведваў вёску. У паэме «Адплата кахання» паэт апісаў падзеі, што адбыліся пад Гайнай, успамінаў вёску ў вершах «Я не сокал...», «Сват».

**Нядзведскі Уладзіслаў**, пісьменнік, ураджэнец в. *Рахавічы* Салігорскага р-на Мінскай вобл., настаўнічаў у мясцовай школе ў 2-й палове 50-х гадоў. Тут падрыхтаваў да друку першы зборнік.

**Шыдлоўскага Ігната** (1793—1846), пісьменніка і перакладчыка на польскую мову, радзіма.

**Вёска Гасцілавічы** Лагойскага пассавета

**Анісковіча Уладзіміра** (н. 25.10.1932), перакладчыка, крытыка, радзіма. Скончыў рамеснае вучылішча (1950), БДУ (1971). Працаваў токарам на Мінскім трактарным заводзе (1950—1952, 1956—1958). Служыў на Балтыйскім ваенна-марскім флоце (1952—1956). Вадзіў тралейбусы ў Мінску (1958—1969). Працаваў рэдактарам на Беларускім радыё (1969—1971). У 1971—1975 гг. — літаратурны супрацоўнік часопіса «Нёман», з 1975 г. — загадчык аддзела крытыкі і бібліяграфіі штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». Друкуецца з 1965 г. Перакладае з балгарскай мовы, выступае з артыкуламі па пытаннях беларускай літаратуры, праблемах прозы.

**Вёска Задроздзе** Крайскага сельсавета

**Пташнікава Івана** (н. 7.10.1932), празаіка, радзіма. Скончыў БДУ (1957). Працаваў у Дзяржаўным выдавецтве БССР (1957—1958), часопісах «Маладосць» (1958—1962), «Полымя» (1962—1995). Друкуецца з 1952 г. Аўтар кніг «Зерне падае не на камень» (1959), «Лонва» (1965), «Тартак» (1968, зняты аднайменны фільм беларускага тэлебачання паводле сцэнарыя аўтара, 1974), «Мсціжы» (1970), «Найдорф» (1975), «Алімпіяда» (1985, аднайменны тэлеспектакль — 1989), Выбраных твораў (т. 1-2, 1980), Збору твораў у 4 т. (1990—1992), «Францужанка» (1997), «Тры пуды жыта» (1998), «Пагоня» (1999), «Ненапісаная аповесць» (2002) і інш.

**Вёска Закальное** Рачэнскага сельсавета

**Мікуліча Мікалая** (н. 3.7.1960), крытыка, радзіма. Скончыў Закальскую СШ, Мінскі педагагічны інстытут імя М. Горкага, аспірантуру Інстытута літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук БССР. Кандыдат філалагічных навук. Працаваў у Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Я. Купалы, Інстытуце мовы і літаратуры імя Я. Купалы і Я. Коласа. Працуе ў жанры літаратурнай крытыкі. Аўтар кніг «Максім Танк і сучасная беларуская лірыка», «На зломе часу: старонкі інтэрв'ю, дыялогі», «На скразняках стагоддзя», «Паэзія рэчаіснасці: у свеце Максіма Танка», «Міхась Васілёк: паэзія даверасмнёўскага перыяду», «Паэзія Казіміра Сваяка», «Пошук вядзе ў глыбіню».

**Вёска Знаменка** (да 1969 г. Падонкі), цэнтр сельсавета

**Зарэмбы Міхася** (н. 2.1.1941), пісьменніка, радзіма. Скончыў БДУ (1965). Працаваў у прэсе, з 1989 — у выдавецтве «Юнацтва». Друкуецца з 1956 г. Аўтар кніг аповесцей і апавяданняў для дзяцей: «Камандзір зялёнага патруля» (1967), «Бі, барабан!» і «Загадка без адгадкі» (1972), «Хто-каго?» (1978), «Пераправа» (1987), «Сакрэт тэлепата» (1989), «Дзень магнітнай буры» (1992), «Арэхавы спас» (1997). На беларускую мову пераклаў раман Г. Уэлса «Чалавек-невідзімка» (1997), а таксама творы рускіх і ўкраінскіх пісьменнікаў.

**Фальварак Казімірава, або Казіміроўка** (сёння не існуе, знаходзіўся каля в. Мачаны)

**Уладзімір Самойла**, сын дырэктара Мінскага рэальнага вучылішча і ўладальніка фальварка І. Самойлы, будучы мовазнавец, літаратурны крытык, паэт, рыхтаваў да паступлення ў вучылішча **Купалу Янку**, які хадзіў сюды з суседняй вёскі Мачаны. З задумы нічога не выйшла, бо бацьку патрэбен быў памочнік па гаспадарцы.

**Вёска Карпілаўка** Янушкавіцкага сельсавета

**Давідовіча-Зосіна Сяргея** (н. 20.7.1942), паэта, празаіка, радзіма. Скончыў Вышэйшую школу Міністэрства ўнутраных спраў (1982). Працаваў у сістэме МУС БССР, калгасе «Янушкавічы», быў дэпутатам Вярхоўнага Савета XII склікання. Член Саюза мастакоў Беларусі. Аўтар паэтычных зборнікаў «Люстэрка лёсу», «Нясу свой крыж», «Горкая кропля», «Спасцігнуў тайну», кніг прозы «Душа маёй бяссонніцы», «Развод па-славянску». «Выбранае» і інш. Піша на беларускай і рускай мовах. Актыўна супрацоўнічае з кампазітарамі. Узнагароджаны Беларускай праваслаўнай царквой медалём Свяціцеля Кірылы Тураўскага.

**Ядвігін Ш.** (сапр. Лявіцкі Антон Іванавіч), паэт, ураджэнец в. *Добасна* Кіраўскага р-на Магілёўскай вобл., у 1894 г., пасля выключэння з Маскоўскага ўніверсітэта за ўдзел у студэнцкіх хваляваннях, прыязджае ў Карпілаўку. Неўзабаве памірае цяжка хворы бацька. А літаральна праз некалькі дзён пасля пахавання згарэў дом. Застаўшыся адзінай апорай маці, Антон адбудаваў у 1897 г. на пагарэлішчы пакуль невялікую, на два пакойчыкі, хату, пасадзіў сад, ад якога засталіся рэшткі, як і падмуркі дома, разабранага ў канцы 1930-х гадоў. Пазней, працуючы правізарам у Радашковічах, Ядвігін Ш. закладвае па ўласным праекце новы, вялікі дом. У 1897 г. пакідае работу ў Радашковічах, разам з сям'ёй пераязджае канчаткова ў Карпілаўку. У 1895 г. ажаніўся з Л. Ігнатоўскай, меў траіх дзяцей — дачку і двух сыноў. Дачка ўспаміінала: «Зямля ў Карпілаўцы была пясчаная, камяністая — гаспадарка ніколі не была рэнтабельнай... Але ў нас быў вялікі сад, і работа ў садзе патрабавала

шмат часу. Гэта была асноўная работа — і татава, і наша, дзяцей...» Тут не раз гасцяваў **Купала Янка.** У чэрвені 1912 г. ён прачытаў гаспадару толькі што напісаную «Паўлінку».

Купала ўспамінаў: тут «акрамя Чаховіча <...> я ў той час (1904—1905) пазнаёміўся з Ядвігіным Ш. (А. Лявіцкім). Гэта таксама чалавек культурны, выключаны з універсітэта (здаецца, Маскоўскага) за рэвалюцыйную дзейнасць, у дадатак ён аказаўся беларусам, пісаў па-беларуску, і ў той час адна яго п’еса на беларускай мове ставілася, здаецца, у Радашковічах аматарамі. З ім мы доўгія гадзіны гутарылі аб беларускай літаратуры ў прыватнасці і аб беларускім пытанні наогул». Ядвігін Ш. заахвоціў Купалу пісаць па-беларуску.

Сюды з Мінска прыязджаў у 1916 г. на сустрэчу з дзецьмі беларускіх бежанцаў, якія з лета 1916 г. жылі ў хаце Ядвігіна Ш., і з дачкою Ядвігіна Ш. Вандай **Багдановіч Максім.** Два няпоўныя дні правёў ён у Карпілаўцы. Пазней згадваў пра сваю паездку ў артыкуле «Дзейнасць Мінскага беларускага камітэта».

Тут бывалі **Бядуля Змітрок, Галубок Уладзіслаў, Верас Зоська, Колас Якуб, Лёсік Язэп.**

Узнёслай пахвалой мілым сэрцу мясцінам заканчвае пісьменнік свае славутыя «Лісты з дарогі»: «Вось бо ўзгорак, а там — удалі векавыя дубы, мае ліпы! Сад відаць — мой сад! А ўжо пры самым лесе паміж розных дрэў выглядае дамок — мой дамок! Мой! Апісаць вам яго? Як жа я апішу, калі ён мой?! Бягу, лячу да яго!.. Бывайце здаровы!»

У 20—30-я гг. XX ст. у Карпілаўцы пастаянна жылі ўдава Антона Лявіцкага, старэйшы сын Вячаслаў. Пасля таго, як дом апусцеў, у ім некаторы час жыла сям’я настаўніцы М. Васілевіч. Пазней у былым доме Лявіцкіх размяшчаўся дзіцячы сад, а ў 1939 г. калгас прадаў дом. Яго перавезлі ў Мінск і паставілі на вуліцы Шырокай. Архіў пісьменніка, які знаходзіўся ў Карпілаўцы, загінуў.

Фальварак быў адабраны ў сям’і Ядвігіна Ш. падчас раскулачвання ў 1929 г. Не захаваўся.

Вёска знаходзіцца на тэрыторыі Купалаўскага ландшафтнага заказніка, створанага ў 2000 г. на тэрыторыі Лагойскага і Мінскага раёнаў (больш за 3800 га).

**Вёска Корань** Гайненскага сельсавета

На вясковых могілках пахаваны бацька **Купалы Янкі,** брат Казік і дзве сястры — Сабіна і Гэля. На магіле ў 1982 г. пастаўлены помнік.

**Вёска Косіна** Знаменскага сельсавета

У 1887—1889 гг. бацька **Купалы Янкі** арандаваў зямлю ў маёнтку пана Багдановіча. У Косіне ў 1888 г. будучы паэт пачаў вучыцца грамаце ў гімназіста Патаповіча, бацька якога таксама працаваў у маёнтку.

Гэтую мясціну Янка Купала згадваў у сваім аўтабіяграфічным лісце да Л. Клейнбарта ад 23.11.1927 г.: «Пачаў вучыцца ў Косіне, вучыў Патаповіч (здаецца, вучань гімназіі), сын нейкага служачага ў маёнтку. Першае вучэнне (ад азбукі) было на польскай мове. Вучыўся я тады, відаць, не вельмі старанна, таму што бацьку майму давялося за няпоспехі адкалаціць мяне, здаецца, аброццю. Пасля гэтага пачаў вучыцца я празмеру старанна».

На будынку мясцовай школы ў 1980 г. устаноўлена мемарыяльная дошка, адкрыты музей.

**Вёска Крайск**, цэнтр сельсавета

Тут у народным вучылішчы вучыўся **Родзевіч Леапольд,** празаік, публіцыст, паэт, драматург, ураджэнец фальварка *Кур’янаўшчына* гэтага ж раёна.

У 1918—1919 гг. тут даваў прыватныя ўрокі **Дзяржынскі Уладзіслаў,** крытык, літаратуразнавец, ураджэнец в. Старакаменная Беластоцкага ваяводства (Польшча).

**Вёска Крапужына** Астрошыцкага сельсавета

**Навіцкага Міколы** (н. 10.8.1936), перакладчыка, крытыка, паэта, радзіма. Скончыў Мінскі педінстытут замежных моў (1959). Працаваў перакладчыкам у Германіі (1960—

1962), у Мінскай вышэйшай школе Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі (1976—1990), Мінскім лінгвістычным універсітэце (1959—1960, 1963—1976, з 1990). Друкуецца з 1957 г. Перакладае з нямецкай, польскай і англійскай моў.

**Фальварак Кур'янаўшчына,** не існуе

**Родзевіча Леапольда** (1895—1939), празаіка, публіцыста, паэта, драматурга, радзіма. Быў удзельнікам Беларускага музычна-драматычнага гуртка, у складзе трупы І. Буйніцкага выступаў у тэатральных прадстаўленнях. З 1920 г. уключыўся ў рэвалюцыйны рух. У 1922 г. член Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі, потым член яе ЦК і рэдактар газеты «Наш сцяг». Адзін з ініцыятараў уступлення БРА у КПЗБ (1923). У 1924 г. сакратар Гродзенскага акружнога камітэта КПЗБ, з 1925 г. у прадстаўніцтве ЦК КПЗБ пры Камінтэрне. У 1925—1934 гг. рэдагаваў газету ЦК КПЗБ «Чырвоны сцяг», часопіс «Бальшавік», працаваў у камісіі па вывучэнні Заходняй Беларусі пры АН БССР. Друкаваўся з 1911 г. Аўтар драм «Блуднікі» (1912, надрук. у 1961), «Пакрыўджаныя» (1916, надрук. у 1921), вадэвіляў «Збянтэжаны Саўка» (1921), «Багаты і бедны» (1921, надрук. у 1923), драматычных сцэнак «Сцэнічныя творы» (Вільня, 1925), зборнікаў вершаў «Беларусь» (Вільня, 1922), «Рэвалюцыйным шляхам» (1928), «Вогнішча барацьбы» (1930), публіцыстычных твораў «На паняволеных гонях» (Вільня, 1928), «Заходняя Беларусь — калонія Польшчы» (Мн., 1930).

Маці Леапольда, якой належаў фальварак, мела дзве валокі зямлі. Двор быў дагледжаны, абсаджаны акацыямі і бэзам, побач з домам — сад, а ў ім — альтанка. Побач з невялікай сажалкай стаяў вадзяны млын. Ад былога хутара засталіся старая абсада з ліп, асобныя кусты бэзу ды самотныя вербы. Паміж імі прыкметны рэшткі падмурка дома, склеп.

**Вёска Леснікі** Задор'еўскага сельсавета

**Ляшковіча Вячаслава** (24.8.1924—31.5.1997), краязнаўца, публіцыста, радзіма. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. У 1941 г. працаваў шафёрам у Казахстане. Адтуль быў прызваны ў армію. Ваяваў. Быў цяжка кантужаны ў баях пад Ленінградам. Атрымаў больш 20 баявых узнагарод. Пасля вайны працаваў рэдактарам Крывіцкай раённай, а затым Маладзечанскай міжраённай газет. Доўгі час знаходзіўся на партыйнай рабоце ў Маладзечне, з 1981 г. — дырэктар Мінскага абласнога краязнаўчага музея. Заслужаны работнік культуры Беларусі, ганаровы грамадзянін г. Маладзечна. Аўтар кніг па гістарычным краязнаўстве «Помнікі гераізму і славы Маладзечаншчыны» (1984), «Найдаражэйшы скарб» (1985), «Камень пры дарозе» (1988), «Імёны на камнях» (1990, засталася незавершанай). Дзякуючы В. Ляшковічу на Маладзечаншчыне ўстаноўлена звыш дзесяці памятных камянёў.

**Вёска Малыя Бясяды** Янушкавіцкага сельсавета

**Купала Янка,** прыходзячы ў гэтую вёску, бываў каля таямнічага лясного азярца, якое праз гады, як лічаць, і паслужыла правобразам яго «Лясного возера». Тут Купала часта бываў у гаспадара маёнтка Зыгмунта Чаховіча, удзельніка паўстання 1863—1864 гг. У Чаховіча была вялікая бібліятэка. Купала ўспамінаў: «Вось тут і адкрыўся, што называецца, скарб! Часта ён мне выбіраў кнігі для чытання, а часам я сам прасіў у яго творы тых або іншых аўтараў». Дом не захаваўся. У пачатку 30-х гадоў яго аддалі пад школу. Тут быў і клуб, дзе настаўнікі пад кіраўніцтвам Марыі Васілевіч у 1926 г. ставілі «Паўлінку». На адным з паказаў пабываў, калі гасцяваў у Акопах, аўтар камедыі. У 1936 г. будынак перавезлі ў іншае месца для дома адпачынку.

На мясцовых могілках пахавана настаўніца **Васілевіч Марыя** (1904—1985). У перыяд вайны, знаходзячыся ў партызанскім атрадзе, яна стварыла драматычны гурток, дзе ставіла свае п'есы.

**Вёска Мачаны** Бяларуцкага сельсавета

**Купала Янка** часта бываў тут, калі жыў у 1894—1895 гг. у Радзькаўшчыне і калі вучыўся ў Бяларуцкім народным вучылішчы (1897—1898). Паэт згадвае Мачаны ў аўтабіяграфічным дадатку да ліста Л. Клейнбарту 23.11.1927 г.

**Вёска Міхалкавічы** Кораньскага сельсавета

**Варлыгі Адама** (сапр. Язэп Корань, 1890—1972), мовазнаўца, краязнаўца, радзіма. У час Першай сусветнай вайны працаваў фельчарам-санітарам на Заходнім фронце. Быў узнагароджаны трыма георгіеўскімі крыжамі. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі далучыўся да беларускага руху. Распаўсюджваў газету «Вольная Беларусь», выбіраўся членам ваеннага выканаўчага камітэта Беларускай арганізацыі 12-й арміі, быў дэлегатам з'езда беларусаў-вайскоўцаў Паўночнага фронту ў Віцебску, Усебеларускага з'езда ў Мінску. У 1918—1919 гг. вучыўся на першых Беларускіх педагагічных курсах. Яго намаганнямі ў роднай вёсцы пачала працаваць беларуская школа. Настаўнікам у ёй Я. Гладкі працаваў шэсць год. У 1930 г. пераехаў у Мінск. Вучыўся на вячэрнім курсе педагагічнага інстытута (скончыў у 1935 г.). Да вайны працаваў у Інстытуце школьнай педагогікі. У перыяд акупацыі часоў Другой сусветнай вайны спачатку выкладаў у школе ў роднай вёсцы, пазней перабраўся ў Мінск і працаваў у выдавецтве школьных падручнікаў. З 1944 г. у эміграцыі. Выкладаў у гімназіі імя М. Багдановіча ў Ватэнштэце, заснаваў выдавецтва «Заранка», выдаў школьныя чытанкі, кнігі і брашуры «Помнікі старажытнасці», «Родны палетак», «Наша краіна», «Малюнкі мінулага», «Дудар», «Забабоны», «Народныя казкі», «Для малых дзетак», «Чатыры ўрачыстасці» і інш. З 1952 г. жыў у Нью-Ёрку (ЗША). Аўтар этнаграфічнага зборніка «Прыказкі Лагойшчыны» (1966), «Краёвага слоўніка Лагойшчыны» (1970). У рукапісе засталася яго вялікая, на пяцьсот старонак, праца «Чутае, бачанае, пражытае», дзе дадзена панарама жыцця Лагойшчыны на мяжы XIX—XX стагоддзяў (рукапіс захоўваецца ў фондах Беларускага інстытута навукі і мастацтва у Нью-Ёрку). Памёр у Нью-Ёрку.

**Сабіны Пятра** (н. 20.3.1947), празаіка, радзіма. Пасля заканчэння Кораньскай СШ працаваў на Мінскім станкабудаўнічым заводзе імя С. Кірава. Закончыў факультэт журналістыкі БДУ (1973). Загадваў аддзелам у часопісе «Беларусь», працаваў каментатарам Галоўнай рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Беларускага радыё. Затым — рэдактарам аддзелаў часопісаў «Прамысловая бяспека», «Полымя». Цяпер на пенсіі. Друкавацца пачаў у 1984 г. За дасягненні ў галіне журналістыкі ўзнагароджаны сярэбраным медалём СССР. Дакументальную аповесць «Цытадэль» прысвяціў маці, Марыі Мікалаеўне, былому вязню фашысцкага канцлагера. Аўтар кніг «Крылатыя хлебаробы» (1983), «Рака трох народаў» (1993), экалагічнай дылогіі «Плач вады» (1995), «Беларусь жывапісная» (2006), «Вачыма зямлі» (2008), альбома пра мастака Аляксея Кузьміча «Вечнае» (1995).

**Вёска Пархава** Знаменскага сельсавета

**Клімковіч Міхась,** пісьменнік, ураджэнец в. *Сялітранка* Барысаўскага р-на, аўтар беларускага гімна, настаўнічаў у мясцовай школе ў 1916 г.

**Вёска Пасадзец** Зарэцкага сельсавета

**Бядулі Змітрака** (сапр. Плаўнік Самуіл, інш. псеўд. Ясакар, Сымон Пустэльнік, Іскра, Святагор, Ярыла Чырвоны; 23.4.1886—3.11.1941), пісьменніка, радзіма. Працаваў хатнім настаўнікам. Першы друкаваны твор — абразок на беларускай мове «Пяюць начлежнікі» («Наша ніва», 1910, № 39). У 1911—1912 гг. друкаваў на рускай мове ў часопісах «На берегах Невы» (Пецярбург) і «Молодые порывы» (Вільня) вершы і празаічныя абразкі вытанчана-рамантычнага зместу. У канцы 1912 г. пераехаў у Вільню. Працаваў у выдавецкім таварыстве, пасля сакратаром «Нашай нівы». У 1913 г. выдаў першы зборнік «Абразкі» — лірычныя мініяцюры ў прозе. Друкаваў артыкулы пра сувязь мастацтва з жыццём, падтрымліваў сацыяльна значнае і духоўна-змястоўнае мастацтва. У 1915 г. вярнуўся ў Пасадзец, неўзабаве пераехаў у Мінск. Удзельнічаў у рабоце Камітэта мінскага аддзела Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны, у нацыянальна-культурным жыцці. Працаваў у газеце «Савецкая Беларусь», рэдагаваў дзіцячы часопіс «Зоркі», краязнаўчы «Наш край». Аўтар зборнікаў «Пад родным небам» (1922), «Буралом» (1925), «Паэмы» (1927), аповесцей «Салавей» (1927; экранізацыя 1937, аднайменны балет, муз. М. Крошнера, 1939; інсцэніроўка пастаўлена тэатрам Я. Купалы, 1956), «Год за годам» (1927), «Таварыш Мінкін» (1930). У 1928—1932 гг. напісаў раман «Язэп Крушынскі».

Аўтар аўтабіяграфічных аповесцей «Набліжэнне» (1935) і «У дрымучых лясах» (1939). Апошні твор — «Сярэбраная табакерка» (1940).

У 1947 г. мясцовай школе прысвоена імя З. Бядулі, у 1961 г. на будынку ўстаноўлена мемарыяльная дошка. У 1986 г. у школе адкрыты музей пісьменніка. У экспазіцыі больш за 200 экспанатаў.

У Мінску цяпер пражывае сын З. Бядулі Яфім.

**Гарадскі пасёлак Плешчаніцы,** цэнтр пасялковага савета

**Вуліцы Чорнага Кузьмы, Пушкіна Аляксандра і яго ж завулак**

**Купала Янка** ў лістападзе 1936 г. удзельнічаў у рабоце сесіі Плешчаніцкага райсавета. На гэтай сесіі быў выбраны дэлегатам на Надзвычайны XII Усебеларускі з’езд Саветаў.

**Вёска Прудзішча** Бяларуцкага сельсавета

Тут у 1891—1895 гг. жыў **Купала Янка** з бацькамі. Сям’я пераехала сюды з Мінска. Фальварак арандавалі ў землеўласніка Жаброўскага, стаяў ён пры дарозе ў канцы вёскі, ля спуску да Вячы. Цяпер ад колішняй сядзібы захаваліся толькі рэшткі падмурка ды векавы дуб. Тут у Купалы абудзілася цікавасць да кніг, беларускіх народных казак і песень. Казкі па-майстэрску расказваў парабак Пасляк. Будучы паэт вучыўся ў вандроўных настаўнікаў. У 1895 г. пазнаёміўся з Сігізмундам Чаховічам, яго багатай бібліятэкай. Купала ўспамінаў: «З Прудзішча бацька паслаў мяне да сваіх знаёмых Стацкевіча і Ляскоўскага ў Аўгустава і Слабодку (маёнткі графа Тышкевіча, каля Лагойска Барысаўскага павета), дзе я па чарзе правучыўся адну зіму. Вучыў настаўнік-перасоўнік. Потым вучыўся ў Гаянах у арандатаршы гэтага маёнтка. У яе таксама меўся падобны перасоўнік-настаўнік, які навучаў яе дзяцей, а заадно і мяне... З таго ж Прудзішча бацька аддаў мяне да сваіх сваякоў на хутар Мачаны, які межаваў з фальваркам Казімірава Самойлы (дырэктара Мінскага рэальнага вучылішча). Сын Самойлы Уладзімір Іванавіч рыхтаваў мяне ў рэальнае вучылішча». Адсюль сям’я перабралася ў Селішча.

**Засц. Прытыкі**, не існуе. Знаходзіўся паблізу **Селішча**

Згадваецца ў 2-м акце камедыі **Я. Купалы** «Паўлінка» ў дыялогу Адольфа Быкоўскага са Сцяпанам Крыніцкім.

**Хут. Радзькаўшчына,** не існуе. Знаходзіўся каля в. Мачаны

Тут жыла сястра бацькі **Купалы Янкі.** У 1891—1895 гг. тут часта бываў Я. Купала (калі Самойла рыхтаваў яго ў вучылішча).

***Дзмітрый КРЫВАШЭЙ, Адам МАЛЬДЗІС***

***Працяг у наступным нумары.***